# КАЗКІ ПРА ЖЫВЁЛ

## КУРАЧКА-РАБКА

Жылі-былі дзед ды бабка. Была ў іх курачка-рабка.

Знесла курачка яечка, ды не абы-якое, а залатое.

Дзед біў-біў–не разбіў.

Баба біла-біла – не разбіла.

Мышка бегла, хвосцікам махнула, яечка ўпала і разбілася.

Дзед плача, баба плача, а курачка кудахча:

– Не плач, дзед, не плач, баба: знясу вам яечка другое – простае, а не залатое.

## РЭПКА

Пасадзіў дзед рэпку. Вырасла рэпка вялікая-вялікая.

Пайшоў дзед рэпку з зямлі цягнуць.

Цягне-пацягне, выцягнуць не можа.

Паклікаў дзед бабку.

Бабка за дзедку, дзедка за рэпку – цягнуць-пацягнуць, вы цягнуць не могуць.

Паклікала бабка ўнучку.

Унучка за бабку, бабка за дзедку, дзедка за рэпку–цягнуць-пацягнуць, выцягнуць не могуць.

Паклікала ўнучка Жучку.

Жучка за ўнучку, унучка за бабку, бабка за дзедку, дзедка за рэпку – цягнуць-пацягнуць, выцягнуць не могуць.

Паклікала Жучка кошку.

Кошка за Жучку, Жучка за ўнучку, унучка за бабку, бабка за дзедку, дзедка за рэпку – цягнуць-пацягнуць, выцягнуць не могуць.

Паклікала кошка мышку.

Мышка за кошку, кошка за Жучку, Жучка за ўнучку, унучка за бабку, бабка за дзедку, дзедка за рэпку – цягнуць-пацягнуць – выцягнулі рэпку!

## КАЛАБОК

Жылі-былі дзед Ды баба.

Вось і кажа дзед бабе:

– Схадзі, старая, па кадушцы паскрабі, па скрыні памяці, ці

не наскрабеш мукі на калабок.

Узяла баба крыльца, па кадушцы паскрэбла, па скрыні памяла і наскрэбла мукі жмені дзве.

Замясіла муку на смятане, зрабіла калабок, спякла ў масле і на акенца студзіць паклала.

Калабок паляжаў, паляжаў, узяў ды і пакаціўся – з акна на лаўку, з лаўкі на падлогу, па падлозе да дзвярэй, скок цераз парог– ды ў сенцы, з сенцаў на ганак, з ганка на двор, са двара за вароты, далей і далей.

Коціцца калабок па дарозе, насустрач яму заяц:

– Калабок, калабок, я цябе з'ем!

– Не еш мяне, заяц, я табе песеньку паспяваю:

Я калабок, калабок,
Па кадушцы скрэбены
Ды па скрыні мецены,
На смятане мешаны
Ды ў масле спечаны,
На акенцы студжаны.
Я ад дзеда ўцёк,
Я ад бабы ўцёк,
Ад цябе, заяц, пагатоў уцяку!

І пакаціўся па дарозе – больш яго заяц і не бачыў Коціцца калабок, насустрач яму воўк:

– Калабок, калабок, я цябе з'ем!

– Не еш мяне, шэры воўк, я табе песеньку паспяваю

Я калабок, калабок,
Па кадушцы скрэбены
Ды па скрыні мецены,
На смятане мешаны
Ды ў масле спечаны,
На акенцы студжаны.
Я ад дзеда ўцёк,
Я ад бабы ўцёк,
Я ад зайца ўцёк,
Ад цябе, воўк, пагатоў уцяку!

І пакаціўся па дарозе – больш яго воўк і не бачыў. Коціцца калабок, насустрач яму мядзведзь:

– Калабок, калабок, я цябе з'ем!

– Дзе табе, касалапаму, з'есці мяне!

Я калабок, калабок,
Па кадушцы скрэбены
Ды па скрыні мецены,
На смятане мешаны
Ды ў масле спечаны,
На акенцы студжаны.
Я ад дзеда ўцёк,
Я ад бабы ўцёк,
Я ад зайца ўцёк,
Я ад воўка ўцек,
Ад цябе, мядзведзь, пагатоў уцяку.

І зноў пакаціўся – больш мядзведзь яго і не бачыў.
Коціцца калабок, насустрач яму лісіца:
– Калабок, калабок, куды коцішся?
– Качуся па дарожцы.
– Калабок, калабок, паспявай мне песеньку!
Калабок і заспяваў:

– Я калабок, калабок,
Па кадушцы скрэбены
Ды па скрыні мецены,
На смятане мешаны
Ды ў масле спечаны,
На акенцы студжаны.
Я ад дзеда ўцёк,
Я ад бабы ўцёк,
Я ад зайца ўцёк,
Я ад воўка ўцёк,
Ад мядзведзя ўцёк,
Ад цябе, лісіцы, лёгка ўцячы!

А лісіца кажа:
– Ах, песенька прыгожая, ды чую я кепска. Калабок, калабок, сядзь мне на носік, браток, ды паспявай яшчэ разок, мацней.
Калабок ускочыў лісіцы на нос і заспяваў мацней тую ж песеньку.
А лісіца зноў яму:
– Калабок, калабок, сядзь мне на язычок ды паспявай апошні разок.
Калабок скок лісіцы на язык, а лісіца яго – гам! – і з'ела.

## ЛІСІЦА І ЦЕЦЯРУК

Цецярук сядзеў на дрэве. Лісіца падышла да яго і кажа:

– Добры дзень, цецеручок, мой дружок! Як пачула твой галасок, дык і прыйшла цябе праведаць.

– Дзякуй на добрым слове,– сказаў цецярук.

Лісіца прыкінулася, што недачувае, і кажа:

– Што ты там гаворыш? Не чую. Ты б, цецеручок, мой дружок, спусціўся на траўку пагуляць, пагаманіць са мною, а то я з дрэва цябе не чую.

Цецярук сказаў:

– Баюся я спускацца на траву. Нам, птушкам, небяспечна хадзіць па зямлі.

– Хіба ты мяне баішся? – сказала лісіца.

– Не цябе, дык другіх звяроў баюся,– сказаў цецярук.– Усялякія звяры бываюць.

– Не, цецеручок, мой дружок, нядаўна ўказ аб'яўлены, каб па ўсёй зямлі мір быў. Цяпер ужо звяры адзін аднаго не чапаюць.

– От гэта добра,– сказаў цецярук,– а то вунь сабакі бягуць; каб па-даўнейшаму, дык табе ўцякаць трэба было б, а цяпер табе баяцца няма чаго.

Лісіца пачула пра сабак, натапырыла вушы і хацела ўцякаць.

– Куды ж ты? – сказаў цецярук.– Цяпер жа ўказ, сабакі не зачэпяць.

– А хто іх ведае? – сказала лісіца.– Можа, яны ўказа не чулі.

І кінулася наўцёкі.

## ВОЎК І САБАКА

Худы воўк хадзіў каля вёскі і сустрэў тлустага сабаку.

Воўк пытаецца ў сабакі:

– Скажы, сабака, дзе вы корм бераце?

Сабака яму гаворыць:

– Людзі нам даюць.

– Відаць, вы цяжкую людзям службу служыце?

Сабака сказаў:

– Не, наша служба не цяжкая. Работа наша–ўночы двор пільнаваць.

– І толькі за гэта вас кормяць?–спытаў воўк.– Гэта ж і я хоць зараз на вашу службу пайшоў бы, а то нам, ваўкам, цяжка корм здабываць.

– Што ж, ідзі,– сказаў сабака.– Гаспадар і цябе гэтак жа карміць будзе.

Воўк зарадаваўся і пайшоў з сабакам да людзей служыць. Пачаў ужо воўк у вароты заходзіць, аж бачыць ён, што ў сабакі на шыі поўсць выцерта. Ён і пытае:

– А гэта ў цябе, сабака, чаму?

– Ды так,– сказаў сабака.

– Як гэта так?

– Ды так, ад ланцуга. Удзень жа я на ланцугу сяджу, дык вось ланцугом і выцерла крыху поўсць на шыі.

– Ну, дык бывай, сабака,– сказаў воўк.– Не пайду да людзей жыць. Няхай сабе не такі тлусты буду, ды затое на волі.

## ЛІСІЦА І ЗБАН

Прыйша баба на поле жаць і схавала за кусты збан з малаком. Падкралася да збана лісіца, засунула ў яго галаву, малако выхлебтала, пара б і дадому, ды вось бяда – галавы са збана выцягнуць не можа. Ходзіць лісіца, галавою матае і гаворыць:

– Ну, збан, пажартаваў, ды і досыць. Адпусці ж мяне, збаночак! Хопіць табе, галубок, дурэць – пазабаўляўся, ды і хопіць.

Не адстае збан, хоць ты што хочаш рабі. Раззлавалася лісіца:

– Пачакай жа, пракляты! Не адсганеш па-добраму, дык я цябе ўтаплю.

Пабегла лісіца да рэчкі і давай збан тапіць. Збан, праўда, патануць патануў, але і лісіцу за сабою пацягнуў.

## ЛІСІЦА І КАЗЁЛ

Бегла лісіца, на варон загледзелася і ўвалілася ў студню. Вады ў студні было няшмат: утапіцца не ўтопішся, але і выскачыць – не выскачыш. Сядзіць лісіца, бядуе. Ідзе казёл – разумная галава; ідзе, барадою трасе, рагамі матае. Зазірнуў ад няма чаго рабіць у студню, убачыў там лісіцу і пытае:

– Што ты там, лісічка, робіш?

Адпачываю, галубок,– адказвае лісіца.– Там наверсе горача, дык я сюды залезла. Тут такі халадок ды так добранька. Вадзіцы халодненькай – колькі хочаш.

А казлу даўно піць хацелася.

– А ці добрая хоць вада? – пытаецца казёл.

– Цудоўная!–адказвае лісіца.– Чыстая, сцюдзёная. Скачы сюды, тут абаім нам месца хопіць.

Скокнуў здуру казёл, траха лісіцу не задушыў, а яна яму:

– Эх, барадаты дурань, нават скочыць не ўмеў – усю

апырскаў.

Ускочыла лісіца казлу на спіну, са спіны – на рогі, ды і вон са студні.

Траха быў не прапаў казёл з голаду ў студні; ледзьве яго знайшлі ды за рогі выцягнулі.

## ПЕВЕНЬ І САБАКА

Жыў дзед з бабаю, і жылі яны вельмі бедна. Усяе жыўнасці ў іх толькі і было, што певень і сабака, ды і тых яны кепска кармілі. Вось сабака і ,кажа пеўню:

– Давай, брат Пеця, пойдзем у лес: кепска нам тут жыць.

– Хадзем,– кажа певень,– горш не будзе.

Вось І пайшлі яны куды вочы глядзяць. Прабадзяліся цэлы дзень, пачало змяркацца – пара начлегу шукаць. Сышлі яны з дарогі ў лес І выбралі вялікае дуплаватае дрэва. Певень узляцеў на сук, сабака залез у дупло, і заснулі.

Раніцай, як толькі днець пачало, певень і закрычаў:

– Ку-ка-рэ-ку!

Пачула пеўня лісіца; захацелася ёй пеўневым мясам паласавацца. Вось падышла яна да дрэва і пачала пеўня расхвальваць:

– От певень дык певень! Гэтакай птушкі я ніколі і не бачыла: І пёркі вунь якія прыгожыя, І грабеньчык вунь які чырвоненькі,

і голас вунь які ў цябе звонкі. Зляці да мяне, прыгажун!

– А чаго? – пытаецца певень.

– Пойдзем да мяне ў госці: у мяне сёння ўваходзіны і для цябе шмат гарошку назапашана.

– Добра,– кажа певень,– толькі мне аднаму ісці ніяк не выпадае: са мною таварыш.

«Вось гэта шчасце прываліла,– падумала лісіца,– замест аднаго пеўня будзе два».

– Дзе ж твой таварыш? – пытаецца яна.– Я і яго ў госці паклічу.

– Там, у дупле начуе,– адказвае певень.

Лісіца кінулася да дупла, а сабака яе за морду – цап!.. Злавіў і разарваў лісіцу.

# ЗАЙЧЫКАВА ХАТКА

Жылі-былі лісіца ды заяц. У лісіцы была хатка ледзяная, а ў зайца – лубяная.

Вось лісіца і дражніць зайца:

– У мяне хатка светлая, а ў цябе цёмная! У мяне светлая, а ў цябе цёмная!

Прыйшла вясна – у лісіцы хатка растала, а ў зайца стаіць як стаяла.

Тут лісіца і просіцца ў зайца:

– Пусці мяне, зайчык, хоць на свой двор.

– Не, лісічка,– кажа заяц,– не путчу: навошта дражнілася?

Пачала лісічка са слязьмі ўпрошваць. Заяц узяў ды і пусціў яе на свой двор.

На другі дзень лісіца зноў просіцца:

– Пусці мяне, зайчык, на ганачак.

– Не, не пушчу: навошта дражнілася?

Упрошвала, упрошвала лісіца, згадзіўся заяц і пусціў лісіцу на ганачак.

На трэці дзень лісіца зноў просіць:

– Пусці мяне, зайчык, у хатку.

– Не, не путчу: навошта дражнілася?

Прасілася, прасілася, заяц пусціў яе і ў хатку. Сядзіць лісіца на лаўцы, а заяц на печы.

На чацвёрты дзень лісіца зноў просіць:

– Зайчык, зайчык, пусці мяне на печ да сябе.

– Не, не путчу: навошта дражнілася?

Прасіла, прасіла лісіца, ды і выпрасіла – пусціў яе заяц і на печ.

Мінуў дзень-другі, пачала лісіца зайца з хаткі выганяць:

– Ідзі вон, касавокі. Не хачу з табой жыць!

Так і выгнала.

Сядзіць заяц і плача, бядуе, лапкамі слёзы выцірае. Бягуць сабакі:

– Цяў, цяў, цяў. Чаго, зайчык, плачаш?

– Як жа мне не плакаць? Была ў мяне хатка лубяная, а ў лісіцы – ледзяная. Прыйшла вясна, хатка ў лісіцы растала. Папрасілася лісіца да мяне, ды мяне ж і выгнала.

– Не плач, зайчык,– кажуць сабакі,– мы яе выганім.

– Не, не выганіце.

– Не, выганім.

Падышлі яны да хаткі:

– Цяў, цяў, цяў. Ідзі, ліса, вон!

А яна ім з печы:

– Як выскачу,
Як вылечу,
Паляцяць шматкі
На ўсе бакі!

Напалохаліся сабакі і ўцяклі.

Зноў сядзіць зайчык і плача. Ідзе воўк:

– Чаго, зайчык, плачаш?

– Як жа мне, шэры воўк, не плакаць? Была ў мяне хатка лубяная, а ў лісіцы – ледзяная. Прыйшла вясна, хатка ў лісіцы растала. Папрасілася лісіца да мяне, ды мяне ж і выгнала.

– Не плач, зайчык,– кажа воўк,– зараз я яе выганю.

– Не, не выганіш. Сабакі гналі, гналі – не выгналі. І ты не выганіш.

– Не, выганю.

Прыйшоў воўк да хаткі і завыў страшным голасам:

– Уыыы… уыыы… Ідзі, ліса, вон!

А яна з печы:

– Як выскачу,
Як вылечу,
Паляцяць шматкі
На ўсе бакі!

Спужаўся воўк і ўцёк.

Вось заяц зноў сядзіць і плача. Ідзе стары мядзведзь:

– Чаго, зайчык, плачаш?

– Як жа мне, мядзведзюхна, не плакаць? Была ў мяне хатка лубяная, а ў лісіцы – ледзяная. Прыйшла вясна, хатка ў лісіцы растала. Папрасілася лісіца да мяне, ды мяне ж і выгнала.

– Не плач, зайчык,– кажа мядзведзь,– я яе выганю.

– Не, не выганіш. Сабакі гналі, гналі – не выгналі, шэры воўк гнаў, гнаў – не выгнаў. І ты не выганіш.

– Не, выганю.

Пайшоў мядзведзь да хаткі і зароў:

– Рррр… ррр… Ідзі, ліса, вон!

А яна з печы:

– Як выскачу,
Як вылечу,
Паляцяць шматкі
На ўсе бакі!

Напужаўся мядзведзь і пайшоў.

Зноў сядзіць заяц і плача. Ідзе певень, нясе касу.

– Ку-ка-рэку! Зайчык, чаго ты плачаш?

– Як жа мне, пеўнік, не плакаць? Была ў мяне хатка «лубяная, а ў лісіцы – ледзяная. Прыйшла вясна, хатка ў лісіцы растала. Папрасілася лісіца да мяне, ды мяне ж і выгнала.

– Не плач, зайчык, я табе лісіцу выганю.

– Не, не выганіш. Сабакі гналі, гналі – не выгналі, шэры воўк гнаў, гнаў – не выгнаў, стары мядзведзь гнаў, гнаў – не выгнаў. А дзе ўжо табе выгнаць!

– Не, выганю.

Пайшоў певень да хаткі:

– Ку-ка-рэку!
Іду на работу
У чырвоных ботах,
Нясу касу на плячы:
Хачу лісу засячы.
Ідзі, ліса, прэч,
Аддай зайку печ!

Пачула лісіца, напужалася і кажа:

– Збіраюся…

Певень зноў:

– Ку-ка-рэку!
Іду на работу
У чырвоных ботах,
Нясу касу на плячы:
Хачу лісу засячы.
Ідзі, ліса, прэч,
Аддай зайку печ!

А лісіца кажа:

– Футру апранаю.

Певень трэці раз:

– Ку-ка-рэку!
Іду на работу
У чырвоных ботах,
Нясу касу на плячы:
Хачу лісу засячы.
Ідзі, ліса, прэч,
Аддай зайку печ!

Напужалася лісіца, саскочыла з печы ды ходу. А зайчык з пеўнем сталі жыць ды пажываць у лубяной хатцы

## МАША І МЯДЗВЕДЗЬ

Жылі-былі дзед і баба. Была ў іх унучка Маша.

Сабраліся раз сяброўкі ў лес – у грыбы ды ў ягады. Прыйшлі зваць з сабою і Машу.

– Дзядулька, бабулька,– кажа Маша,– пусціце мяне ў лес з сяброўкамі!

Дзед і баба кажуць:

– Ідзі, толькі глядзі ад сяброvак не адставай, а то заблудзішся.

Прыйшлі дзяўчаткі ў лес, пачалі збіраць грыбы ды ягады. Вось Маша – за дрэўца ды за другое, за кусцік ды за другі – і адышлася далёка ад сяброvак.

Пачала яна гукаць, пачала іх клікаць. А сяброўкі не чуюць, не адгукваюцца.

Хадзіла, хадзіла Маша па лесе– зусім заблудзілася.

Зайшла яна ў самую глуш, у самы гушчар. Бачыць – стаіць хатка. Пастукала Маша ў дзверы – ніхто не абзываецца. Штурхнула яна дзверы – дзверы і адчыніліся.

Увайшла Маша ў хатку, села каля акна на лавачку.

Села і думае:

«Хто ж тут жыве? Чаму нікога не відаць?..»

А ў той хатцы жыў вялізны-вялізны мядзведзь. Але яго тады дома не было: ён па лесе хадзіў.

Вярнуўся ўвечары мядзведзь, убачыў Машу, зарадаваўся.

– Ага,– кажа,– цяпер не пушчу цябе! Будзеш у мяне жыць. Будзеш у печы паліць, будзеш кашу варыць, мяне кашай карміць.

Пабедавала Маша, пасумавала, ды нічога не зробіш. Пачала яна жыць у мядзведзя ў хатцы.

Мядзведзь на цэлы дзень пойдзе ў лес, а Машы наказвае нікуды без яго з хаткі не выходзіць.

– А калі пойдзеш куды,– кажа,– усё роўна злаўлю і тады ўжо з'ем!

Пачала Маша думаць, як ёй ад мядзведзя ўцячы. Наўкол лес, у які бок ісці – не ведае, папытацца няма ў каго...

Думала яна, думала і прыдумала.

Прыходзіць раз мядзведзь з лесу, а Маша і кажа яму:

– Мядзведзь, мядзведзь, пусці мяне на дзянёк у вёску: я бабулі і дзядулю гасцінцаў занясу.

– Не,– кажа мядзведзь,– ты ў лесе заблудзішся. Давай гасцінцы, я іх сам занясу.

А Машы якраз гэта і трэба!

Напякла яна піражкоў, дастала вялізны кораб і кажа мядзведзю:

– Вось глядзі: я ў гэты кораб пакладу піражкі, а ты занясі іх

дзядулю і бабулі. Ды памятай: кораб па дарозе не адкрывай, піражкоў не даставай. Я на дубок залезу, за табою сачыць буду!

– Добра,– кажа мядзведзь,– давай кораб!

Маша кажа:

– Выйдзі на ганак, паглядзі – ці не ідзе дожджыкі Толькі мядзведзь выйшаў на ганак, Маша хуценька залезла ў кораб, а на галаву сабе паднос з піражкамі паставіла.

Вярнуўся мядзведзь, бачыць – кораб гатовы. Узваліў яго на спіну і пайшоў у вёску.

Ідзе мядзведзь паміж ялінкамі, брыдзе мядзведзь паміж бярэзінкамі, у лагчынкі спускаецца, на ўзгоркі падымаецца. Ішоў-ішоў, стаміўся і кажа:

– Сяду на пянёк,
З'ем піражок!

А Маша з кораба:

– Бачу, бачу!
Не садзіся на пянёк,
Не еш піражок!
Нясі бабулі,
Нясі дзядулю!

– Ну і зіркастая,– кажа мядзведзь, – усё бачыць! Падняў ён кораб і пайшоў далей. Ішоў-ішоў, ішоў-ішоў, спыніўся, сеў і кажа:

– Сяду на пянёк,
З'ем піражок!

А Маша з кораба зноў:

– Бачу, бачу!
Не садзіся на пянёк,
Не еш піражок!
Нясі бабулі,
Нясі дзядулю!

Здзівіўся мядзведзь:

– Ну і хітрая! Высока сядзіць, далёка глядзіць! Устаў і пайшоў хутчэй.

Прыйшоў у вёску, знайшоў дом, у якім дзед з бабай жылі, і давай з усяе сілы стукаць у вароты:

– Тук-тук-тук! Адмыкаице, адчыняйце! И вам ад Машы

гасцінцаў прынёс.

А сабакі счулі мядзведзя і кінуліся на яго. З усіх двароў бягуць, брэшуць.

Спужаўся мядзведзь, паставіў кораб каля варотаў, а сам хутчэй у лес наўцёкі.

Выйшлі тут дзед і баба да варотаў. Бачаць – кораб стаіць.

– Што гэта ў корабе? – кажа бабуля.

А дзед падняў вечка, глядзіць – і вачам сваім не верыць: у корабе Маша сядзіць – жывая і здаровая.

Узрадаваліся дзед і баба. Пачалі Машу абдымаць, цалаваць, разумненькай называць.

## ВАРОНА І РАК

Ляцела варона над ракою. Глядзіць – паўзе рак. Варона – хап яго і села на галіну закусіць.

Бачыць рак, што прыходзіцца прападаць, і кажа:

– Эх, варона, варона, ведаў я твайго бацьку і тваю маці – слаўныя былі птушкі.

– Угу! – адказала варона, не разяўляючы рота.

– І братоў і сясцёр тваіх ведаў – ах, якія добрыя былі птушкі!

– Угу! – адказала зноў варона.

– Ды ўсё ж хоць і цудоўныя яны былі птушкі, але далёка ім да цябе. Разумнейшага за цябе я нікога не бачыў!

Спадабалася варone, як яе хваляць.

– Ага! – каркнула яна на ўвесь рот і ўпусціла рака ў ваду.

## ЛІСІЦА І САБАКІ

Бегла лісіца па полі. Ні адсюль ні адтуль – выскачылі сабакі і пагналіся за ёю.

Лісіца ну ўцякаць! Бегла, бегла, ды пад пянёк у нару і залезла.

Сядзіць у нары і кажа сама сабе:

– Вушкі, вушкі, што вы рабілі?

– Мы слухалі ды слухалі, каб сабакі лісічку не з'елі.

– Ножкі, ножкі, што вы рабілі?

– Мы ўцякалі ды ўцякалі, каб сабакі лісічху не дагналі.

– Вочкі, вочкі, што вы рабілі?

– Мы глядзелі ды глядзелі, каб сабакі лісічку не з'елі.

– А ты, хвост, што рабіў?

– Я за пні, за кусты, за калоды чапляўся.

– А, дык ты вунь які? Наце ж, сабакі, ешце мой хвост!

Сабакі ўхапіліся за хвост і выцягнулі лісіцу. Ледзь жывая ўцякла яна ад іх.

## ЗІМОЎКА ЗВЯРОЎ

У дзеда з бабай былі бык, баран, гусак ды певень і свіння.

Вось дзед і кажа бабе:

– А што, баба, певень нам не так і патрэбен, зарэжам яго к святу!

– Ну што ж, зарэжам.

Пачуў гэта певень і ўцёк уночы

ў лес. Назаўтра дзед шукаў, шукаў – не знайшоў пеўня.

Увечары зноў кажа бабе:

– Не знайшоў я пеўня, прыйдзецца нам свінню закалоць!

– Ну, закалі свінню.

Пачула гэта свіння і ўцякла ўночы ў лес.

Дзед шукаў, шукаў свінню – не знайшоў:

– Прыйдзецца барана зарэзаць!

– Ну што ж, зарэж

Баран пачуў гэта і кажа гусаку

– Уцякайма ў лес, а то зарэжуць і цябе і мяне!

І ўцяклі баран з гусаком у лес. Выйшаў дзед на двор – нямі ні барана, ні гусака. Шукаў, шукаў – не знайшоў.

– Што за дзіва! Уся жывёла звялася, адзін бык застаўся. Давядзецца, відаць, быка зарэзаць.

– Ну што ж, зарэж.

Пачуў гэта бык і ўцёк у лес.

Улетку ў лесе прыволле. Жывуць сабе ўцекачы – гора не ведаюць. Але мінула лета, надышла зіма.

Вось бык пайшоў да барана:

– Што ж, брат, пара надыходзіць сцюдзёная–трэба хату будаваць.

Баран яму адказвае:

– У мяне кажух цёплы, я і так перазімую.

Пайшоў бык да свінні:

– Хадзем, свіння, хату будаваць!

– А мне хоць які мароз–я не баюся: зарыюся ў зямлю і без хаты перазімую.

Пайшоў бык да гусака:

– Гусак, хадзем хату будаваць!

– Не, не пайду. Я адно крыло падсцялю, другім накрыюся – мяне ніякі мароз не пройме.

Пайшоў бык да пеўня:

– Давай хату будаваць!

– Не, не пайду. Я зіму і так пад елкаю пераседжу. Бык бачыць – справы кепскія. Трэба аднаму турбавацца.

– Ну,– кажа,– вы як хочаце, а я пачну хату ставіць. І збудаваў сабе хатку адзін. Запаліў у печы і палежвае, грэецца.

А зіма настала халодная, пачалі прыціскаць маразы. Баран бегаў, бегаў, сагрэцца не можа – і пайшоў да быка:

– Бэ-э!.. Бэ-э! Пусці мяне ў хатку!

– Не, баран. Я цябе клікаў хату будаваць, дык ты: сказаў, што ў цябе кажух цёплы, ты і так перазімуеш.

– А калі не пусціш, дык я разганюся, выб ю дзверы – табе ж будзе холадна.

Бык думаў, думаў: «Давай пушчу, а то замарозіць ён мяне».

– Ну, заходзь.

Баран увайшоў у хату і каля печкі на лаўку лёг.

Неўзабаве прыбегла свіння:

– Рох! Рох! Пусці мяне, бык, пагрэцца!

– Не, свіння. Я цябе клікаў хату будаваць, дык ты сказала, што табе хоць які мароз – ты ў зямлю зарыешся.

– А не пусціш, я лычом усе вуглы падрыю, тваю хату абярну!

Бык падумаў, падумаў: «Падрые вуглы, аберне хату».

– Ну, заходзь.

Убегла свіння ў хату і залезла ў склеп, пад падлогу.

За свіннёю гусак ляціць:

– Га-гак! Га-гак! Бык, пусці мяне пагрэцца!

– Не, гусак, не пушчу! У цябе два крылы, адно падсцелеш, другім накрыешся–і так перазімуеш.

– А не пусціш, дык я ўвесь мох са сцен выскубу!

Бык падумаў, падумаў і пусціў гусака. Зайшоў гусак у хату і сеў на прыпек.

Праз нейкі час прыбягае певень:

– Ку-ка-рэ-ку! Бык, пусці мяне ў хату!

– Не, не пушчу. Зімуй у лесе пад елкаю.

– А не пусціш, дык я ўзлячу на гарышча, усю зямлю са столі зграбу, у хату холаду напушчу!

Бык пусціў і пеўня. Уляцеў певень у хату, сеў на жэрдку і сядзіць.

Вось яны жывуць сабе – упяцярых – пажываюць. Даведаліся пра гэта воўк і мядзведзь.

– Хадзем,– кажуць,– у хатку, усіх з'ямо, самі будзем Там жыць.

Сабраліся і прыйшлі. Воўк кажа мядзведзю:

– Ідзі ты першы, ты дужэйшы.

– Не, я непаваротлівы, ты больш шустры за мяне, ідзі ты

першы.

Воўк і пайшоў у хатку. Толькі ўвайшоў – бык рагамі яго Да сцяны і прыпёр. Баран разбегся Ды –трах, трах! – ваўка па рэбрах, А свіння са склепа крычыць:

– Рох-рох-рох! Нажы вастру, сякеры вастру, з жывога ваўка шкуру злуплю!

Гусак яго за бакі шчыпле, а певень бегае па жэрдцы Ды крычыць:

– Так, так, так, куд-куды, падавайце яго сюды! І ножык тут, і гужык тут... Тут яго і зарэжу, тут яго і падвешу!

Мядзведзь пачуў крык – ды ходу. А воўк тузаўся, тузаўся, ледзьве вырваўся. Дагнаў мядзведзя і расказвае:

– Ой, што мне было! Траха не забілі!.. Як усхапіўся мужычышча ў чорным армячышчы ды мяне віламі Да сцяны і прыпёр. А крыху меншы мужычок, апрануты ў шэры армячок, мяне абухом па рэбрах Ды ўсё абухом па рэбрах. А яшчэ меншы за таго, у беленькім каптанчыку, мяне абцугамі за бакі хапаў. А самы маленькі мужычок, у чырвоным халаціку, бегае па жэрдцы ды крычыць: «Так, так, так, куд-куды, падавайце яго сюды! І ножык тут, і гужык тут... Тут яго і зарэжу, тут яго і падвешу!» А з-пад падлогі яшчэ нехта як закрычыць: «Нажы вастру, сякеры вастру, з жывога шкуру злуплю!»

Воўк і мядзведзь з таго часу да хаткі і блізка не падыходзілі.

А бык, баран, гусак Ды певень і свіння жывуць там, пажываюць і гора не знаюць.

## ЗАЯЦ-ХВАЛЬКО

Жыў-быў заяц у лесе. Улетку яму добра было, а зімою кепска – даводзілася да сялян на прыгумень бегаць авёс красці.

Прыбягае ён да аднаго селяніна на прыгумень, а тут ужо чарада зайцаў. От ён і пачаў ім хваліцца:

– У мяне не вусы, а вусішчы, не лапы, а лапішчы, не зубы, а зубішчы – я нікога не баюся.

Зайцы і расказалі цётцы вароне пра гэтага хвалько. Цётка варона пайшла хвалько шукаць і знайшла яго пад карчом. Заяц спужаўся:

– Цётка варона, я не буду больш хваліцца!

– А як ты выхваляўся?

– Што ў мяне не вусы, а вусішчы, не лапы, а лапішчы, не зубы, а зубішчы.

Вось яна яго трошкі і паўшчувала:

– Больш не выхваляйся!

Аднойчы сядзела варона на

плоце, сабакі яе схапілі і давай шкуматаць, а заяц гэта ўбачыў:

«Як бы гэта вароне памагчы?»

Выскачыў на пагорачак і сеў. Сабакі ўбачылі зайца, кінулі варону – ды за ім, а варона зноў на плот. А заяц ад сабак уцёк.

Праз нейкі час варона зноў сустрэла гэтага зайца і кажа яму:

– Вось ты малайчына, не выхваляка, а сапраўдны смяляка!

## КАЗЁЛ І БАРАН

Жылі-былі на адным двары казёл і баран, жылі паміж сабою дружна: сена жмут і той папалам. А як вілы ў бок – дык аднаму кату Ваську! Ён такі зладзюга і разбойнік, увесь час на здабытках, і калі дзе што кепска ляжыць, дык у яго жывот баліць.

Вось ляжаць сабе казёл і баран ды гамоняць. Ні адсюль ні адтуль – кот-вуркот, шэры лоб, ідзе ды так жаласна плача.

Казёл і баран пытаюцца ў яго:

– Кот-каток, шэранькі лабок, чаго ты плачаш, чаму на трох нагах скачаш?

– Як мне не плакаць! Біла мяне гаспадыня, біла, вушы круціла. Ногі паламала, ды яшчэ і павесіць абяцала.

– А за якую віну табе такая пагібель?

– А за тое мне пагібель, што смятанку злізаў!

І зноў заплакаў кот-вуркот.

– Кот-каток, шэры лабок, чаго ж ты яшчэ плачаш?

– Як жа мне не плакаць! Баба мяне біла ды прымаўляла: «Да нас прыйдзе зяць, а дзе той смятаны ўзяць? Хочаш не хочаш, а давядзецца казла і барана рэзаць!»

Зараўлі казёл і баран:

– Ах ты, шэры кот, бесталковы лоб! За што ж ты нас загубіў?! Вось мы цябе забадаем!

Тут кот-вуркот павініўся, даравацъ яму папрасіўся. Казёл і баран яму даравалі, і пачалі яны ўтрох думаць: як ім быць і што рабіць?

– Ану, сярэдні брат,– спытаў кот у барана,– ці моцны ў цябе лоб? Паспрабуй аб вароты.

Падняўся баран, з разгону стукнуўся аб вароты лбом – пахіснуліся вароты, але не адчыніліся.

– Ану, старэйшы брат,– спытаў кот у казла,– ці моцны ў цябе лоб? Паспрабуй аб вароты.

Падняўся казёл-казлішча, разагнаўся, стукнуўся – вароты і адчыніліся.

Пыл слупам узнімаецца, трава да зямлі прыгінаецца, бягуць казёл і баран, а за імі скача на трох нагах кот – шэры лоб.

Стаміўся кот, пачаў прасіць-маліць названых братоў:

– Казёл і баран, не пакіньце меншага брата...

Узяў казёл ката, пасадзіў яго на сябе, і памчаліся яны зноў па гарах, па далах, па сыпучых пяскэх. Доўга беглі, і дзень і ноч, пакуль ногі сілу мелі.

І вось перад імі крутая гара, пад гарою скошаны луг, а на тым лузе стагі, быццам дамы, стаяць.

Спыніліся казёл, баран і кот адпачываць.

А ноч была асенняя, халодная. Дзе агню раздабыць? Думаюць казёл і баран, а кот – шэры лоб ужо расстараўся бяросты, абкруціў ёю казлу рогі і загадаў яму з бараном стукнуцца лбамі.

Стукнуліся казёл з бараном, ды так моцна– іскры з вачэй пасыпаліся,– бяроста і загарэлася.

Расклалі яны агонь, селі і грэюцца.

Не паспелі як след абагрэцца – бачаць: ідзе няпрошаны госць – мядзведзь:

– Пусціце пагрэцца, адпачнуць, штосьці знясілеў зусім...

– Сядай з намі, Міхал Іванавіч! Адкуль ідзеш?

– Хадзіў на пчальнік ды пабіўся з мужыкамі.

Пачалі яны ўчатырох бавіць цёмную ноч: мядзведзь пад стогам, кот – шэры лоб на стозе, а казёл з бараном – каля агню.

Раптам ідуць сем шэрых ваўкоў, восьмы – белы, і – проста да стога.

Забляялі казёл і баран са страху, а кот – шэры лоб і кажа:

– Авохці, белы воўк, над ваўкамі князь! Не ўводзь у злосць нашага старэйшага брата: ён сярдзіты, як разыдзецца – нікому не паздаровіцца. Хіба не бачыце, якая ў яго барада: у ёй уся сіла, барадою ён звяроў забівае, а рагамі толькі шкуру здымае. Лепш па-добраму падыдзіце ды хораша папрасіце: хочам, маўляў, пацешыцца, сілай памерацца з меншым брацікам, вунь з тым, што пад стогам ляжыць.

Ваўкі кату пакланіліся, абступілі мядзведзя і давай: з ім задзірацца. Мядзведзь трываў, трываў – ды як схопіць у кожную лапу па ваўку! Перапалохаліся яны, вырвался сяк-так і, падцяўшы хвасты, кінуліся наўцёкі.

А казёл і баран тым часам падхапілі ката, пабеглі ў лес і зноў нарваліся на шэрых ваўкоў.

Кот хуценька ўскарабкаўся на самую макаўку яліны, а казёл з бараном падскочылі, ухапіліся пярэднімі нагамь за яловы сук і павіслі.

Ваўкі стаяць пад ялінаю, зубамі ляскаюць.

Бачыць кот – шэры лоб, што справы дрэнь; пачаў кідаць у

ваўкоў яловымі шышкамі і прыгаворваць:

– Раз воўк! Два воўк! Тры воўк! Усяго па ваўку на брата. Я, кот, нядаўна двух ваўкоў з'еў з костачкамі, дык яшчэ есці не хачу, а ты, большы брат, на мядзведзяў хадзіў, ды не злавіў, бяры сабе і маю долю!

Толькі ён сказаў так, казёл сарваўся і ўпаў проста рагамі на ваўка. А кот усё сваё крычыць:

– Трымай іх, лаві іх!

Тут ваўкоў такі страх апанаваў – кінуліся яны наўцёкі без аглядкі. Так і ўцяклі.

А кот – шэры лоб, казёл і баран пайшлі сваёю дарогаю.

## ЛІСІЦА І ВОЎК

Жылі сабе дзед ды баба. Дзед і кажа бабе:

– Ты, баба, пячы пірагі, а я запрагу каня ў сані, паеду рыбу лавіць.

Налавіў дзед рыбы поўныя сані. Едзе дадому, аж бачыць: лісіца скруцілася абаранкам, ляжыць на дарозе.

Дзед злез з воза, падышоў, а лісічка не зварухнецца, ляжыць, як нежывая.

– Вось дык знаходка! Будзе маёй старой добры каўнер.

Узяў дзед лісіцу і паклаў на сані, а сам пайшоў спераду.

А лісіца тым часам і пачала скідваць паціхеньку з воза ўсё па рыбцы ды па рыбцы, усё па рыбцы ды па рыбцы.

Паскідала ўсю рыбу і сама ціхенька ўцякла.

Дзед прыехаў дадому і кліча бабу:

– Ну, старая, добры каўнер я табе прывёз!

Падышла баба да саней: няма на санях ні каўняра, ні рыбы. І пачала яна на дзеда сварыцца:

– Ах ты, стары хрыч, такі-сякі, яшчэ надумаўся мяне падманваць!

Тут дзед сцяміў, што лісічка тая была не мёртвая. Пабедаваў, пабедаваў, ды нічога не зробіш.

А лісіца тым часам сабрала на дарозе ўсю рыбу ў кучку, села і есць.

Падыходзіць да яе воўк:

– Дзень добры, кумка, хлеб ды соль…

– Я ем – свой, а ты збоку пастой.

– Дай мне рыбкі.

– Налаві сам, ды і еш.

– Дык я не ўмею.

– А што тут умець! Я ж, бачыш, налавіла. Ты, кумок, ідзі на

рэчку, апусці хвост у палонку, сядзі ды прыгаворвай: «Лавіся, рыбка, і малая і вялікая! Лавіся, рыбка, і малая і вялікая!» Дык рыба цябе сама за хвост будзе хапаць. Чым даўжэй пасядзіш, тым больш наловіш.

Пайшоў воўк на рэчку, апусціў хвост у палонку, сядзіць і прыгаворвае:

– Лавіся, рыбка, і малая і вялікая!
Лавіся, рыбка, і малая і вялікая!

А лісіца ходзіць вакол ваўка і сваё прыгаворвае:

– Ясней, ясней, неба,
Мерзні, мерзні, воўчы хвост!

Воўк пытаецца ў лісіцы:

– Што ты, кума, усё гаворыш?

– А я табе пасабляю, рыбку на хвост наганяю.

А сама зноў:

– Ясней, ясней, неба,
Мерзні, мерзні, воўчы хвост!

Сядзеў воўк цэлую ноч каля палонкі. Хвост у яго і прымёрз. Пад раніцу хацеў падняцца ды дзю там. Ён і думае: «Уга, колькі рыбы набралася і не выцягнуць!»

У гэты час ідзе баба з вёдрамі па ваду. Убачыла наўка і закрычала:

– Воўк, воўк! Біце яго!

Воўк–туды-сюды, не можа выцягнуць хвост. Баба кінула вёдры і давай яго біць каромыслам. Біла, біла, воўк тузаўся, тузаўся, адарваў сабе хвост і кінуўся наўцёкі.

«Ну добра,– думае,– я ж табе адплачу, кума!»

А лісічка залезла ў хату, дзе жыла тая баба, што па ваду пайшла, наелася з дзяжы цеста, галаву сабе цестам вымазала, выбегла на дарогу, павалілася і ляжыць – стогне.

Ідзе воўк:

– Дык вось як ты вучыш, кума, рыбу лавіць. Зірні, мяне ўсяго збілі…

Лісіца яму кажа:

– Эх, кумок! У цябе хваста няма, затое галава цэлая а мне галаву разбілі: бачыш–мазгі вылезлі, ісці не магу.

– І праўда,– кажа ёй воўк.– Дзе табе, кума, ісці садзіся на мяне, я цябе давязу.

Села лісіца ваўку на спіну. Ен яе і павёз.
Вось лісіца едзе на ваўку і ціхенька спявае:

– Біты нябітага вязе.
Біты нябітага вязе.

– Ты што там, кума, усё гаворыш?
– Я, кумок, твой боль замаўляю.
А сама зноў:

– Біты нябітага вязе.
Біты нябітага вязе.

## МУЖЫК І МЯДЗВЕДЗЬ

Паехаў мужык у лес рэпу сеяць. Арэ там, працуе. Прыйшоў да яго мядзведзь:

– Мужык, я цябе зламлю.

– Не ламі мяне, мядзведзюхна, лепей давай разам рэпу сеяць. Я сабе вазьму хоць карэньчыкі, а табе аддам вяршкі.

– Хай будзе так,– сказаў мядзведзь.– А калі ашукаеш, дык у лес да мяне нават не прыязджай.

Сказаў і пайшоў у дуброву.

Рэпа вырасла вялікая. Мужык прыехаў увосень капаць рэпу. А тут мядзведзь з дубровы вылазіць:

– Мужык, давай рэпу дзяліць, маю долю аддавай.

– Добра, мядзведзюхна, давай дзяліць: табе вяршкі, а мне карэньчыкі.

Аддаў мужык мядзведзю ўсё бацвінне, а рэпу паклаў на воз і павёз у горад прадаваць.

Мядзведзь пераняў яго, запыніў:

– Мужык, куды ты едзеш?

– Еду, мядзведзюхна, у горад карэньчыкі прадаваць.

– Ану дай паспытаць – які твой карэньчык на смак?

Мужык даў яму рэпу. Мядзведзь як з'еў:

– А-а! – зароў.– Мужык, ашукаў ты мяне! Твае карэньцыкі салодзенькія. Цяпер не прыязджай да мяне ў лес па дровы, а то зламлю.

На другі год мужык пасеяў на тым месцы жыта. Прыехаў жаць, а мядзведзь ужо чакае яго:

– Цяпер мяне, мужык, не ашукаеш, давай маю долю!

Мужык кажа:

– Хай будзе па-твойму. Бяры, мядзведзюхна, карэньчыкі, а я сабе вазьму хоць вяршкі.

Зжаў мужык жыта, аддаў мядзведзю карэньчыкі, а жыта злажыў на воз і павёз дадому.

Мядзведзь і так, і гэтак – нічога з карэньчыкамі зрабіць не мог.

Раззлаваўся ён на мужыка, і з той пары мядзведзь з мужыком варагуе.

## КОТ І ЛІСІЦА

Жыў-быў мужык. У гэтага мужыка быў кот, ды такі памаўза, што бяда! Абрыдзеў ён да смерці. Вось мужык думаў, думаў, узяў ката, пасадзіў у мех і панёс у лес. Занёс і пакінуў яго ў лесе – няхай прападае.

Кот хадзіў, хадзіў і натрапіў на хатку. Залез на гарышча і палежвае сабе. А захоча есці – пойдзе ў лес, птушачак, мышэй наловіць, наесца ўволю – і зноў на гарышча, і гора яму мала!

Вось пайшоў кот гуляць, а насустрач яму лісіца. Убачыла ката і дзівіцца: «Колькі гадоў жыву ў лесе, а такога звера не бачыла!»

Пакланілася лісіца кату і пытаецца:

– Скажы, добры малойца, хто ты такі? Як ты сюды трапіў і як цябе зваць-велічаць?

А кот натапырыў поўсць і адказвае:

– Завуць мяне Катафей Іванавіч, я з сібірскіх лясоў прысланы да вас ваяводам.

– Ах, катафей Іванавіч! – кажа лісіца.– Не ведала я пра цябе, не чуда. Ну, то хадзем да мяне ў госці.

Кот пайшоў да лісіцы. Яна прывяла яго ў нару і пачала частаваць рознай дзічынкаю, а сама ўсё дапытваецца:

– Катафей Іванавіч, жанаты ты ці халасты?

– Халасты.

– І я, ліса-краса,– дзяўчына. Вазьмі мяне замуж!

Кот згадзіўся, і наладзілі яны баль-вяселле.

На другі дзень пайшла лісіца на здабыткі, а кот застаўся дома.

Бегала, бегала лісіца і злавіла качку. Нясе дадому, а насустрач ёй воўк:

– Стой, лісіца! Аддай качку!

– Не, не аддам!

– Ну, я сам забяру.

– А я скажу Катафею Іванавічу, ён цябе смерцю пакарае!

– А хто такі Катафей Іванавіч?

– Хіба ты не чуў? Да нас з сібірскіх лясоў прыслалі ваяводам Катафея Іванавіча. Я раней была ліса-краса – дзяўчына, а цяпер нашага ваяводы жонка.

– Не, не чуў, Лізавета Іванаўна. А як бы гэта мне на яго паглядзець?

– У! Катафей Іванавіч у мяне такі сярдзіты: хто яму не даспадобы, адразу з'есць! Ты прыгатуй барана ды прынясі яму на паклон:барана пакладзі навідавоку, а сам схавайся каб кот цябе не ўбачыў, а то, брат, кепска табе будзе!

Воўк пабег па барана, а лісіца – дадому.

Бяжыць лісіца, і трапіўся ёй насустрач мядзведзь:

– Стой, лісіца, каму качку нясеш? Аддай мне!

– Ідзі ты лепш, мядзведзь, падалей, пакуль цэлы, а то скажу Катафею Іванавічу, ён цябе смерцю пакарае!

– А хто такі Катафей Іванавіч?

– А той самы, што прыслалі да нас з сібірскіх лясоў ваяводам. Я раней была ліса-краса – дзяўчына, а цяпер нашага ваяводы – Катафея Іванавіча – жонка.

– А ці нельга паглядзець яго, Лізавета Іванаўна?

– У! Катафей Іванавіч у мяне такі сярдзіть: хто яму не спадабаецца, адразу з'есць. Ты ідзі прыгатуй быка ды прынясі на паклон. Ды глядзі, быка пакладзі навідавоку, а сам схавайся, каб Катафей Іванавіч цябе не ўбачыў, а то кепска табе будзе!

Мядзведзь пайшоў па быка, а лісіца–дадому.

Вось прынёс воўк барана, аблупіў, стаіць і думае. Глядзіць – і мядзведзь прэцца з быком.

– Дзень добры, Міхал Іванавіч!

– Здароў, брат Лявон! Што, не бачыў лісіцы з мужам?

– Не, Міхал Іванавіч, сам іх чакаю.

– А ты схадзітка да іх, пакліч,– кажа мядзведзь ваўку.

– Не, не пайду, Міхал Іванавіч. Я непаваротлівы, ты лепш ідзі.

– Не, не пайду, брат Лявон. Я касматы, касалапы, куды мне!

Раптам – ні адсюль ні адтуль – бяжыць заяц. Воўк і мядзведзь як закрычаць на яго:

– Хадзі сюды, касавокі!

Заяц ажно прысеў, вушы на спіну паклаў.

– Ты, заяц, паваротлівы і на нагу лёгкі: збегай да лісіцы, скажы ёй, што мядзведзь Міхал Іванавіч з братам Лявонам Іванавічам даўно ўжо гатовы, чакаюць цябе, значыцца, з мужам, Катафеем Іванавічам, хочуць пакланіцца бараном ды быком.

Заяц прыпусціў да лісіцы на ўсю моц. А мядзведзь з воўк пачалі думаць, дзе б гэта ім схавацца.

Мядзведзь кажа:

– Я палезу на хваіну.

А воўк яму кажа:

– А я куды дзенуся? Я ж на дрэва не ўскарабкаюся? Схавай мяне куды-небудзь.

Мядзведзь схаваў ваўка ў кустах, заваліў сухім лісцем, а сам залез на хваіну, на самую макаўку, і пазірае, ці не ідзе Катафей Іванавіч з лісіцаю.

Заяц тым часам прыбег да лісіцынай нары:

– Мядзведзь Міхал Іванавіч з ваўком Лявонам Іван-вічам прыслалі сказаць, што яны даўно чакаюць цябе з мужам, хочуць пакланіцца вам быком ды бараном.

– Бяжы, касавокі, зараз будзем.

Вось і пайшлі кот з лісіцаю. Мядзведзь убачыў іх і кажа ваўку:

– Нейкі ж ваявода Катафей Іванавіч дужа маленькі!

Кот адразу ж кінуўся на быка, поўсць натапырыў, пачаў ірваць мяса і зубамі і лапамі, а сам мурчыць, нібыта злуецца:

– Мау, мау!..

Мядзведзь зноў кажа ваўку:

– Невялікі, ды пражэрлівы! Нам учатырох не з'есці, а яму аднаму мала. Чаго добрага, ён і да нас дабярэцца!

Захацелася і ваўку паглядзець на Катафея Іванавіча, ды скрозь лісце не відаць. І пачаў воўк ціхенька разграбаць лісце. Кот пачуў, што лісце шамаціць, падумаў, што гэта мыш, ды як кінецца – і проста ваўку ў пысу кіпцюрамі ўчапіўся.

Воўк перапужаўся, усхапіўся і давай уцякаць.

А кот сам спалохаўся і сігануў на дрэва, дзе сядзеў мядзведзь.

«Ну,–думае мядзведзь,– убачыў ён мяне!»

Злазіць яму не было калі, вось мядзведзь як чмякнецца з дрэва вобземлю, усё нутро адсадзіў, падхапіўся ды наўцёкі.

А лісіца наўздагон крычыць:

– Уцякайце, уцякайце, каб хаця ён вас не пазадзіраў!..

З таго часу ўсе звяры пачалі ката баяцца. А кот з лісіцаю прызапасілі на ўсю зіму мяса і пачалі жыць ды пажываць. І цяпер жывуць.

## ЯК ЛІСІЦА ВУЧЫЛАСЯ ЛЯТАЦЬ

Сустрэўся з лісіцаю жу
равель:

– Што, лісіца, ці ўмееш лятаць?

– Не, не ўмею.

– Садзіся на мяне, навучу. Села лісіца на жураўля. Падняў яе журавель высока-высока.

– Што, лісіца, ці бачыш зямлю?

– Ледзь бачу, з аўчынку зямля здаецца!

Журавель і скінуў яе з сябе. Лісіца ўпала на мяккае месца, на капу сена.

Журавель падляцеў:

– Ну як, умееш, лісіца, лятаць?

– Лятаць-то ўмею – садзіцца цяжка!

– Сядай зноў на мяне, навучу. Села лісіца на жураўля. Яшчэ вышэй падняў ён яе і скінуў з сябе.

Упала лісіца на балота: на тры сажні правалілася ў зямлю.

Так лісіца і не навучылася лятаць.

## ГЛІНЯНЫ ХЛОПЕЦ

Жылі-былі дзед ды баба. Не было ў іх дзяцей. Баба і кажа:

– Дзед, дзед, вылепі з гліны хлапчыну, нібыта і сын будзе.

Дзед вылепіў з гліны хлапчыну. Паклаў яго на печ сушыць. Высах хлопец і пачаў прасіць есці:

– Дай, бабка, малака кадушку ды бохан хлеба з падушку.

Прынесла яму баба гэта, а ён з'еў усё і зноў просіць:

– Есці хачу! Есці хачу!

І з'еў у дзеда з бабай увесь хлеб, выпіў усё малако і зноў крычыць:

– Есці хачу! Есці хачу!

Няма чаго яму больш даць. Гліняны хлопец саскочыў з печы і з’еў бабку з прасніцай, дзядка з кавенькай – і падаўся на вуліцу.

Ідзе насустрач бык. Гліняны хлопец кажа яму:

– З’еў я хлеба пяць боханаў-падушак, малака пяць кадушак, бабку з прасніцай, дзядка з кавенькай– і цябе, бык, з'ем!

Ды і з'еў быка.

Ідзе далей. Насустрач дрывасекі з тапарамі. Гліняны хлопец і кажа:

– З'еў я хлеба пяць боханаў-падушак, малака пяць кадушак, бабку з прасніцай, дзядка з кавенькай, быка з рагамі – і вас усіх з'ем.

І з'еў дрывасекаў з тапарамі.

Ідзе далей. Насустрач яму мужыкі з косамі ды бабы з граблямі.

Гліняны хлопец ім кажа:

– З'еў я хлеба пяць боханаў-падушак, малака пяць кадушак, бабку з прасніцай, дзядка з кавенькай, быка з рагамі, дрывасекаў з тапарамі – і вас усіх з'ем!

З'еў мужыкоў з косамі ды баб з граблямі і далей пайшоў. Сустрэў гліняны хлопец казла і кажа:

– З'еў я хлеба пяць боханаў-падушак, малака пяць кадушак, бабку з прасніцай, дзядка з кавенькай, быка з рагамі, дрывасекаў з тапарамі, мужыкоў з косамі, баб з граблямі – і цябе, казёл, з'ем!

А казёл яму кажа:

– Ды ты не турбуйся, стань пад горкай, а я падымуся на горку, разганюся ды табе ў рот і скочу.

Стаў гліняны хлопец пад горкай, а казёл разагнаўся з гары ды рагамі ў пуза як дасць! Тут і рассыпаўся гліняны хлопец.

І выйшлі з пуза бабка з прасніцай, дзядок з кавенькай, бык з рагамі, дрывасекі з тапарамі, мужыкі з косамі ды бабы з граблямі.

Усіх казёл выбавіў.

# ЧАРАДЗЕЙНЫЯ КАЗКІ

## ІВАН – СЯЛЯНСКІ СЫН І ЦУДА-ЮДА

Не далёка і не блізка, у адным краі-старане жылі-былі дзед і баба, і было ў іх тры сыны. Малодшага звалі Іванка. Жылі яны – не гаравалі, з раніцы да ночы працавалі: поле аралі ды збажыну засявалі.

І пайшлі раптам па тым краі нядобрыя чуткі: збіраецца цуда-юда паганае на іхнюю зямлю напасці, усіх людзей са свету звесці, усе гарады-сёлы агнём спапяліць. Затужылі дзед з бабаю, забедавалі. А старэйшыя сыны суцяшаюць іх:

– Не бядуйце, татуля і матуля! Пойдзем мы на цуда-юда, будзем з ім біцца насмерць! А каб вам адным не тужыць, няхай з вамі Іванка застаецца жыць: ён яшчэ малады, каб у бой ісці.

– Не,– кажа Іванка,– не хачу я дома сядзець, на нашу бяду збоку глядзець ды вас чакаць, пайду і я з цудам-юдам біцца!

Дзед з бабай яго не адгаворвалі, не ўпрошвалі дома застацца.

Сабралі яны ўсіх трох сыноў у дарогу. Узялі браты дубіны важкія, узялі кайстры з хлебам-соллю, селі на добрых коней і паехалі.

Доўга ці не доўга ехалі яны – трапляецца ім насустрач стары чалавек.

– Дзень добры, малойцы!

– Добры дзень, дзядуля!

– Куды гэта вы едзеце?

– Едзем мы з паганым цудам-юдам біцца, змагацца, родную зямлю бараніць!

– Добра гэта, добра! Толькі для бою трэба вам не дубінкі, а мячы булатныя[1].

– А дзе ж іх дастаць, дзядуля?

– А я вас навучу. Едзьце вы, добрыя малойцы, усё прама і прама. Даедзеце вы да высокай гары. А ў той у гары – пячора глыбокая. Уваход у яе вялікім каменем завалены. Адваліце камень, зайдзіце ў пячору і знойдзеце там мячы булатныя.

Падзякавалі браты прахожаму і паехалі прама, як ён навучаў. Бачаць – стаіць гара высокая, з аднаго боку вялізны шэры камень прывалены. Адвалілі браты той камень і ўвайшлі ў пячору. А там зброі ўсялякай – і не злічыць! Выбралі яны сабе па мячу і паехалі далей.

---

[1] Меч булатны – меч з асабліва моцнай сталі.

– Дзякуй,– кажуць,– прахожаму чалавеку. З мячамі нам куды зручней біцца будзе!

Ехалі яны, ехалі і прыехалі ў нейкую вёску, Глядзяць – наўкол ніводнай жывой душы не відаць. Усё спалена, паламана. Стаіць адна маленькая хатка. Зайшлі браты ў хатку. Ляжыць на печы бабулька ды вохкае.

– Добры дзень, бабуся! – кажуць браты.

– Дзень добры, малойцы! Куды едзеце?

– Едзем мы, бабуся, на раку Смародзіну, на калінавы мост. Хочам з цудам-юдам біцца, на зямлю сваю не пусціць яго.

– Ох, малойцы, за добрую справу ўзяліся! Ен жа, злыдзень, усіх спустошыў, разграбіў! І да нас дабраўся. Толькі я адна тут ацалела...

Пераначавалі браты ў бабулі, назаўтра рана-раненька ўсталі і рушылі зноў у дарогу.

Пад'язджаюць да самай ракі Смародзіны, да калінавага моста. Па ўсім беразе ляжаць мячы ды лукі паламаныя, валяюцца косці чалавечыя... Знайшлі браты пустую хатку і парашылі спыніцца.

– Ну, браткі,– кажа Іван,– заехалі мы далёка ад роднай зямлі, трэба нам да ўсяго прыслухоўвацца ды прыглядацца. Давайце па чарзе ў дазор хадзіць[2], каб цуда-юда цераз калінавы мост не прапусціць.

Першай ноччу пайшоў у дазор старэйшы брат. Пахадзіў ён па беразе, паглядзеў за раку Смародзіну – усё ціха, нікога не відаць, нічога не чуваць. Лёг старэйшы брат пад ракітавы куст і заснуў моцна, ажно захроп.

А Іван ляжыць у хатцы – не спіцца яму, не дрэмлецца. Як надышла поўнач, узяў ён свой меч булатны і падаўся да ракі Смародзіны.

Глядзіць – пад кустом старэйшы брат спіць. на ўсю моц храпе. Іван не захацеў яго будзіць. Схаваўся пад калінавы мост, стаіць, пераезд вартуе.

Раптам на рацэ вада хвалямі пайшла, на дубах арлы заклекаталі – пад'язджае цуда-юда шасцігаловае.

Выехала цуда-юда на сярэдзіну калінавага моста – конь пад ім спатыкнуўся, чорны крумкач на плячы страпянуўся, ззаду чорны сабака натапырыў поўсць.

Кажа цуда-юда шасцігаловае:

– Што ты, мой конь, спатыкнуўся? Чаго ты, чорны крумкач, страпянуўся? Чаму ты, чорны сабака, натапырыў поўсць? Ці мо чуеце вы, што Іван – сялянскі сын тут? Дык ён яшчэ не нарадзіўся,

---

[2] У дазор хадзіць – пільнаваць, вартаваць, ахоўваць.

а калі і нарадзіўся, дык сілаю не наліўся! Я яго на адну руку пасаджу, другою прыстукну!

Выйшаў тут Іван – сялянскі сын з-пад моста і кажа:

– Не хваліся, цуда-юда паганае! Не падстрэліў яснага сокала – рана пер'е скубці! Не спазнаў добрага малойцы– няма чаго ганіць яго! Давай лепей сілай мерацца: хто адолее, той і пахваліцца.

Вось сышліся яны, параўняліся, ды так стукнуліся, што наўкол зямля загула. Цуду-юду не пашанцавала: Іван–сялянскі сын адным махам збіў яму тры галавы.

– Пачакай, Іван – сялянскі сын!–крычыць цуда-юда.– Дай мне перадыхнуць!

– Які такі перадых! У цябе, цуда-юда, тры галавы, а ў мяне адна. Вось як будзе ў цябе адна галава, тады і перадых зробім.

Зноў яны сышліся, зноў стукнуліся.

Іван – сялянскі сын адсек цуду-юду і апошнія тры галавы. Пасля гэтага пасек тулава на дробныя кавалкі і пакідаў у раку Смародзіну, а шэсць галоў пад калінавы мост злажыў. Сам у хатку вярнуўся і спаць лёг.

Раніцай прыходзіць старэйшы брат. Пытаецца ў яго Іван:

– Ну што, ці не бачыў чаго?

– Не, браткі, міма мяне нават муха не пралятала!

Іван яму ні слоўца на гэта не сказаў.

На другую ноч выправіўся ў дазор сярэдні брат. Пахадзіў ён, пахадзіў, паглядзеў па баках і супакоіўся. Залез у кусты і заснуў.

Іван і на яго не спадзяваўся. Як мінула поўнач, ён тут жа сабраўся, узяў свой востры меч і пайшоў да ракі Смародзіны. Схаваўся пад калінавы мост і пачаў пільнаваць.

Раптам на рацэ вада хвалямі пайшла, на дубах арлы заклекаталі – пад'язджае цуда-юда дзевяцігаловае.

Толькі цуда-юда на калінавы мост уз'ехала – конь пад ім спатыкнуўся, чорны воран на плячы страпянуўся, ззаду чорны сабака натапырыў поўсць... Цуда-юда каня бізуном па баках, крумкача – па пер'і, сабаку – па вушах.

– Што ты, мой конь, спатыкнуўся? Чаго ты, чорны крумкач, страпянуўся? Чаму ты, чорны сабака, натапырыў поўсць? Ці мо чуеце вы, што Іван – сялянскі сын тут? Дык ён яшчэ не нарадзіўся, а калі і нарадзіўся, дык сілаю не наліўся: я яго адным пальцам заб'ю!

Выскачыў Іван – сялянскі сын з-пад калінавага моста:

– Пачакай, цуда-юда, не хваліся, перш за справу вазьміся! Яшчэ паглядзім, чый верх будзе!

Як махнуў Іван сваім булатным мячом раз-другі, так і сцяў з цуда-юда шэсць галоў. А цуда-юда стукнуў – па калені Івана ў сырую зямлю ўвагнаў. Іван – сялянскі сын схапіў жменю пяску і

сыпануў свайму ворагу проста ў вачышчы. Пакуль цуда-юда вачышчы лраціраў ды прачышчаў, Іван адсек яму і астатнія галовы. Потым пасек тулава на дробныя кавалкі, пакідаў у раку Смародзіну, а дзевяць галоў пад калінавы мост злажыў. Сам у хатку вярнуўся. Лёг і заснуў, нібыта нічога не здарылася.

Раніцай прыходзіць сярэдні брат.

– Ну што,– пытаецца Іван,– ці не бачыў ты за ноч чаго-небудзь?

– Не, каля мяне ні адна муха не пралятала, ні адзін камар не пішчаў.

– Ну, калі так, хадземце са мною, браткі дарагія, я вам і камара і муху пакажу.

Прывёў Іван братоў пад калінавы мост, паказаў ім цуда-юдавы галовы.

– Вось,– кажа,– якія тут уночы мухі ды камары лятаюць. А вам, браткі, не ваяваць, а дома на печы ляжаць!

Сорамна стала братам.

– Сон,– кажуць,– змарыў...

На трэцюю ноч сабраўся ісці ў дазор сам Іван.

– Я,– кажа,– на страшны бой іду! А вы, браткі, усю ноч не спіце, прыслухоўвайцеся: як пачуеце мой свіст – выпускайце майго каня і самі да мяне на падмогу спяшайцеся.

Прыйшоў Іван – сялянскі сын да ракі Смародзіны, стаіць пад калінавым мостам, чакае.

Толькі мінула поўнач, сырая зямля захісталася, вада ў рацэ хвалямі пайшла, шалёны вецер завыў, па дубах арлы заклекаталі. Выязджае цуда-юда дванаццаціглаловае. Усе дванаццаць галоў свішчуць, усе дванаццаць агнём-полымем шугаюць. Конь у цуда-юда дванаццацікрылы, шэрсць у каня медная, хвост і грыва жалезныя. Толькі ўз'ехаў цуда-юда на калінавы мост–конь пад ім спатыкнуўся, чорны крумкач на плячы страпянуўся, чорны сабака ззаду натапырыў поўсць. Цуда-юда каня бізуном па баках, крумкача – па пер'і, сабаку па вушах!

– Што ты, мой конь, спатыкнуўся? Чаго, чорны крумкач, страпянуўся? Чаму, чорны сабака, натапырыў поўсць? Ці мо чуеце, што Іван – сялянскі сын тут? Дык ён яшчэ не нарадзіўся, а калі і нарадзіўся, дык сілаю не наліўся: толькі дзьмухну–і следу ад яго не застанецца!

Выйшаў тут з-пад калінавага моста Іван – сялянскі сын.

– Не спяшайся, цуда-юда, хваліцца, каб табе потым не асарамаціцца!

– А, дык гэта ты, Іван – сялянскі сын? Чаго прыйшоў сюды?

– На цябе, варожая сіла, паглядзець, з табой сілай памерацца!

– Дзе табе са мной сілай мерацца! Ты муха перада мною!

Адказвае Іван – сялянскі сын цуду-юду:

– Прыйшоў я не казкі табе расказваць і не твае слухаць. Прыйшоў я насмерць біцца, ад цябе, праклятага, добрых людзей пазбавіць!

Размахнуўся тут Іван сваім вострым мячом і адсек цуду-юду тры галавы. Цуда-юда падхапіў гэтыя галовы, чыркануў па іх сваім агнявым пальцам, да шыяў прылаў, і адразу ўсе галовы прырaслі, быццам і з плеч не падалі.

Кепска давялося Івану: цуда-юда свістам яго глушыць, агнём паліць-смаліць, іскрамі абсыпае, па калені ў сырую зямлю заганяе...

– Можа, хочаш ты адпачыць, Іван – сялянскі сын?

– Які там адпачынак? Па-нашаму – бі, сячы, сябе не глядзі! – кажа Іван.

Свіснуў ён, кінуў сваю правую рукавіцу ў хатку, дзе браты яго чакалі. Рукавіца ўсе шыбы ў вокнах павыбівала, а браты спяць, нічога не чуюць.

Паднатужыўся Іван, размахнуўся яшчэ мацней і адсек цуду-юду шэсць галоў. Цуда-юда падхапіў свае галовы, чыркануў агнявым пальцам, да шыяў прыклаў–і зноў усе галовы на сваіх месцах. Рынуўся ён тут на Івана, загнаў яго па пояс у сырую зямлю.

Бачыць Іван – справы дрэнь. Зняў левую рукавіцу, шпурнуў у хатку. Рукавіца страху прабіла, а браты ўсё спяць, нічога не чуюць.

Трэці раз размахнуўся Іван – сялянскі сын, адсек цуду-юду дзевяць галоў. Цуда-юда падхапіў іх, чыркануў агнявым пальцам, да шыяў прыклаў – галовы зноў прырaслі. Рынуўся ён тут на Івана і загнаў яго ў сырую зямлю па самыя плечы...

Зняў Іван сваю шапку і шпурнуў у хатку. Ад таго ўдару хатка захісталася, траха бярвенні не раскаціліся, Тут толькі браты прачнуліся, чуюць – Іванаў конь моцна ржэ ды з ланцугоў ірвецца.

Кінуліся яны ў стайню, выпусцілі каня, а ўслед за ім і самі пабеглі.

Іванаў конь прымчаўся і давай біць цуда-юда капытамі Засвістаў цуда-юда, засіпеў, пачаў каня іскрамі абсыпаць.

А Іван – сялянскі сын тым часам вылез з зямлі, злаўчыўся і адсек цуду-юду агнявы палец. Пасля гэтага давай сячы яму галовы. Збіў усе да адной! Тулава на дробныя кавалкі пасек і пакідаў у раку Смародзіну.

Тут прыбягаюць браты.

– Эх, вы! – кажа Іван.– За вашу санлівасць я ледзь галавою не заплаціў!

Прывялі яго браты ў хатку, умылі, накармілі, напаілі і спаць палажылі.

Назаўтра Іван раненька ўстаў, пачаў адзявацца-абувацца.

– Куды ты гэтак рана падняўся? – кажуць браты.– Адпачнуў бы пасля такога пабоішча!

– Не,– адказвае Іван,– няма калі адпачываць мне:

пайду да ракі Смародзіны сваю папругу шукаць – згубіў там.

– Ахвота табе! – кажуць браты.– Заедзем у горад – новую купіш.

– Не, мне мая трэба!

Падаўся Іван да ракі Смародзіны, ды не папругу ўзяўся шукаць, а перайшоў на той бераг цераз калінавы мост і падкраўся непрыкметна да цуда-юдавага мураванага палаца. Падышоў да адчыненага акенца і давай слухаць – ці не задумваюць тут яшчэ чаго-небудзь ліхога.

Глядзіць – сядзяць у палацы тры цуда-юдавы жонкі ды маці, старая змяіха. Сядзяць яны ды змаўляюцца.

Першая кажа:

– Адпомшчу я Івану – сялянскаму сыну за майго мужа! Забягу наперад, калі ён з братамі дадому вяртацца будзе, напушчу гарачыні, а сама студняй зраблюся. Захочуць яны вады выпіць – і ад першага ж глытка мёртвымі паваляцца!

– Гэта ты добра прыдумала! – кажа старая змяіха.

Другая кажа:

– А я запабягу наперад і зраблюся яблыняй. Захочуць яны па яблычку з'есці – тут іх і разарве на шматкі!

– І ты добра прыдумала!–кажа старая змяіха.

– А я,– кажа трэцяя,– напушчу на іх сон ды дрымоту, а сама запабягу наперад і зраблюся мяккім дыванам з шаўковымі падушкамі. Захочуць браты паляжаць-адпачыць – тут іх і спаліць агнём!

– І ты добра прыдумала! – сказала змяіха.– Ну, а калі вы іх не загубіце, я сама зраблюся вялізнай свіннёй, даганю іх і ўсіх трох праглыну.

Падслухаў Іван – сялянскі сын іхнюю гаворку і вярнуўся да братоў.

– Ну што, знайшоў ты сваю папругу? – пытаюцца браты.

– Знайшоў.

– І варта было час на гэта траціць!

– Варта, браткі!

Пасля гэтага сабраліся браты і паехалі дадому.

Едуць яны палямі, едуць лугамі. А дзень такі гарачы, такі спякотны. Піць хочацца – ратунку няма! Глядзяць браты – стаіць студня, у студні сярэбраны карэц плавае. Кажуць яны Івану:

– Давай, браце, прыпынімся, халоднай вадзіцы пап'ем і коней напоім!

– Невядома, якая ў гэтай студні вада,– адказвае Іван.– Можа, гнілая ды брудная.

Саскочыў ён з каня і давай мячом сячы-крышыць гэтую студню. Завыла студня, зараўла немым голасам. Тут апусціўся туман, спёка спала–і піць не хочацца.

– Вось бачыце, браткі, якая вада ў студні была,– кажа Іван.

Паехалі яны далей.

Доўга ехалі ці не – убачылі яблыньку. Вісяць на ёй яблыкі вялікія ды румяныя.

Саскочылі браты з коней, хацелі былі яблычкі рваць. А Іван забег наперад і давай яблыню мячом пад самы корань сячы. Завыла яблыня, закрычала…

– Бачыце, браткі, што гэта за яблыня? Нясмачныя на ёй яблычкі!

Селі браты на коней і паехалі далей.

Ехалі яны, ехалі і вельмі стаміліся. Глядзяць – разасланы на полі дыван узорысты, мяккі, а на ім падушкі пуховыя.

– Паляжым на гэтым дыване, адпачнем, падрэмлем з гадзінку! – кажуць браты.

– Не, браткі, не мякка будзе на гэтым дыване ляжаць! – адказвае ім Іван.

Раззлаваліся на яго браты:

– Што ты за ўказчык нам: тое няможна, гэта няможна!

Іван у адказ ні слоўца не вымавіў. Зняў ён сваю папругу, на дыван кінуў. Шуганула папруга полымем і згарэла.

– Вось і з вамі тое ж самае было б! – кажа Іван братам.

Падышоў ён да дывана і давай мячом дыван ды падушкі на шматкі сячы. Пасек, параскідаў у бакі і кажа:

– Дарэмна вы, браткі, бурчалі на мяне! Бо і студня, і яблыня, і дыван – усё гэта цуда-юдавы жонкі былі. Хацелі яны нас загубіць, ды не ўдалося ім гэта: самі ўсе загінулі!

Паехалі браты далей.

Многа ці мала праехалі – раптам неба пацямнела, вецер завыў, зямля загула: бяжыць за імі вялізная свіння. Разявіла зяпу да вушэй – хоча Івана з братамі праглынуць. Тут малойцы – не дурныя ж! – дасталі са сваіх торбаў дарожных па пуду солі і кінулі свінні ў зяпу.

Зарадавалася свіння – думала, што Івана – сялянскага сына з братамі схапіла. Спынілася і пачала жаваць соль. А як рассмакавала – зноў рынулася наўздагон.

Бяжыць, шчаціннe натапырыла, зубамі ляскае. Вось-вось дагоніць…

Тут Іван загадаў братам у розныя бакі на сваіх конях імчацца: адзін направа памчаўся, другі – налева, а сам Іван –

уперад.

Падбегла свіння, спынілася – не ведае, каго спачатку даганяць.

Пакуль яна думала ды ў розныя бакі лычам круціла, Іван падскочыў, падняў яе ды з усяго размаху аб зямлю бразнуў. Рассыпалася свіння на пыл, а вецер гой пыл падхапіў і на ўсе бакі развеяў.

З таго часу ўсе цуды-юды ды змеі ў тым краі звяліся – без страху людзі жыць пачалі.

А Іван – сялянскі сын з братамі вярнуўся дадому, да бацькі, да маці. І пачалі яны жыць ды пажываць, поле араць ды пшаніцай засяваць.

## ЦАРЭЎНА-ЖАБА

Даўным-даўно ў аднаго цара было тры сыны. Вось, калі сыны ў гады ўвайшлі, цар сабраў іх і кажа:

– Сынкі мае любыя, пакуль я яшчэ не стары, хацелася б мне вас пажаніць і паглядзець на вашых дзетак, на маіх унукаў.

Сыны бацьку адказваюць:

– Дык што ж, бацюхна, блаславі. З кім табе хацелася б нас ажаніць?

– Вось што, сынкі, бярыце па страле, выходзьце ў чыстае поле і страляйце: куды стрэлы ўпадуць, там і доля ваша, лёс ваш.

Сыны пакланіліся бацьку, узялі па страле, выйшлі ў чыстае поле, напялі лукі і стрэлілі. У старэйшага сына страла ўпала на баярскі двор, падняла стралу баярская дачка. У сярэдняга сына ўпала страла на шырокі купецкі двор, падняла яе купецкая дачка.

А ў малодшага сына, Івана-царэвіча, страла паднялася і паляцела, сам не ведае куды. Вось ён ішоў, ішоў, дайшоў да балота, бачыць – сядзіць жаба, падхапіла яго стралу. Іван-царэвіч кажа ёй:

– Жаба, жаба, аддай маю стралу.

А жаба яму адказвае:

– Вазьмі мяне замуж!

– Што ты, як гэта я вазьму сабе за жонку жабу?

– Бяры, відаць, лёс твой такі, доля твая такая.

Зажурыўся Іван-царэвіч. Ды нічога не зробіш, узяў

жабу, прынёс дадому. Цар згуляў тры вяселлі: старэйшага сына ажаніў з баярскай дачкою, сярэдняга – з купецкай, а няшчаснага Івана-царэвіча – з жабай.

Вось цар паклікаў сыноў:

– Хачу паглядзець, каторая з вашых жонак найлепшая рукадзельніца. Няхай пашыюць мне да заўтра па кашулі.

Сыны пакланіліся бацьку і пайшлі.

Іван-царэвіч прыйшоў дадому, сеў і галаву звесіў. Жаба па падлозе скача, пытаецца ў яго:

– Чаго, Іван-царэвіч, замаркоціўся? Ці, можа, гора якое?

– Бацюхна загадаў табе да заўтра кашулю яму пашыць.

Жаба адказвае:

– Не тужы, Іван-царэвіч, лепей кладзіся спаць, раніца за вечар мудрэйшая.

Іван-царэвіч лёг спаць, а жаба скокнула на ганак, скінула з сябе жабіную скуру і зрабілася Васілісай Прамудрай, такой красуняй, што і ў казцы не раскажаш.

Васіліса Прамудрая пляснула ў ладкі і крыкнула:

– Мамкі, нянькі, збягайцеся, збірайцеся! Пашыйце мне да раніцы такую кашулю, якую бачыла я ў свайго роднага бацюхны.

Іван-царэвіч раніцай прачнуўся, жаба зноў па падлозе скача, а кашуля ўжо ляжыць на стале, загорнутая ў ручнік. Зарадаваўся Іван-царэвіч, узяў кашулю, панёс бацьку. Цар у гэты час прымаў дарункі ад большых сыноў. Старэйшы сын разгарнуў кашулю, цар узяў яе і сказаў:

– Гэтую кашулю ў курнай хаце насіць.

Сярэдні брат разгарнуў кашулю, цар сказаў:

– У ёй толькі ў лазню хадзіць.

Іван-царэвіч разгарнуў кашулю, аздобленую золатам-серабром, мудрагелістымі ўзорамі. Цар толькі глянуў:

– Ну, от гэта кашуля – на святы яе надзяваць.

Пайшлі браты дадому – тыя два – і гамоняць паміж сабой:

– Не, мусіць, мы дарэмна смяяліся з жонкі Івана-царэвіча: яна не жаба, а нейкая хітра[3]...

Цар зноў сыноў паклікаў:

– Няхай вашы жонкі спякуць мне да заўтра хлеб. Хачу ўведаць, каторая лепей гатуе.

Іван-царэвіч галаву звесіў, прыйшоў дадому. Жаба ў яго пытаецца:

– Чаго замаркоціўся?

Ён адказвае:

– Трэба да заўтра спячы цару хлеб.

– Не тужы, Іван-царэвіч, лепей кладзіся спаць, раніца за вечар мудрэйшая.

А тыя нявесткі спачатку смяяліся з жабы, а цяпер паслалі адну бабку-нахлебніцу паглядзець, як жаба будзе пячы хлеб.

Жаба хітрая, яна гэта сцяміла. Замясіла дзяжу цеста, печ зверху разламала ды проста туды, у дзірку, усю дзяжу і перакуліла.

---

[3] Хітра – чараўніца.

Бабка-нахлебніца прыбегла дацарскіх нявесгак, усе расказала, і тыя гэтак жа пачалі рабіць.

А жаба скокнула на ганак, зрабілася Васілісай Прамудрай, пляснула ў ладкі:

– Мамкі, нянькі, збягайцеся, збірайцеся! Спячыце мне да раніцы мяккі белы хлеб, які я ў майго роднага бацюхны ела.

Іван-царэвіч раніцай прачнуўся, а ўжо на стале ляжыць бохан хлеба, усяляк аздоблены: з бакоў узоры адмысловыя, зверху гарады з заставамі.

Іван-царэвіч узрадаваўся, загарнуў хлеб у настольнік, панёс бацьку. А цар у гэты час прымаў хлеб ад большых сыноў. Іх жонкі павылівалі цеста ў печ, як ім бабка-нахлебніца сказала, і выйшла ў іх адна гарэлая гразь. Цар узяў хлеб ад старэйшага сына, паглядзеў і адаслаў у чалядню[4]. Узяў ад сярэдняга сына і туды ж адаслаў. А як падаў Іван-царэвіч, цар сказаў:

– От гэта хлеб, толькі на свята яго есці.

І загадаў цар тром сваім сынам, каб заўтра з'явіліся да яго на банкет разам з жонкамі.

Зноў вярнуўся Іван-царэвіч дадому невясёлы, ніжэй плеч галаву звесіў. Жаба па падлозе скача:

– Ква-ква, Іван-царэвіч, чаго замаркоціўся? Ці мо пачуў ад бацюхны слова няласкавае?

– Жабка, жабка, як мне не бедаваць? Бацюхна наказаў, каб я прыйшоў з табою на банкет, а як я цябе людзям пакажу?

– Не тужы, Іван-царэвіч,– адказвае жаба, ідзі на банкет адзін, а я ўслед за табою буду. Як пачуеш стук ды гром, не пужайся. Запытаюцца ў цябе, скажы: «Гэта мая жабка ў каробачцы едзе».

Іван-царэвіч і пайшоў адзін. Вось старэйшыя браты прыехалі з жонкамі, а тыя разадзетыя, у строі прыбраныя, нарумяненыя, нафарбаваныя.

Стаяць ды з Івана-царэвіча смяюцца:

– Чаму ж ты без жонкі прыйшоў? Хоць бы ў хусцінцы яе прынёс. Дзе ты такую красуню знайшоў? Пэўна, усе балоты аблазіў.

Цар з сынамі, з нявесткамі, з гасцямі паселі за сталы дубовыя, за абрусы ўзорыстыя – балюваць. Раптам узняўся такі стукат ды грукат, што ўвесь палац хадуном захадзіў. Госці папужаліся, паўсхопліваліся с месцаў, а Іван-царэвіч кажа:

– Не бойцеся, шаноўныя госці: гэта мая жабка ў каробачцы прыехала.

Падляцела да царскага ганка пазалочаная карэта, шасцёркай белых коней запрэжаная, і выходзіць з яе Васіліса Прамудрая: на

[4] Чалядня – памяшканне, дзе жылі слугі.

блакітнай сукенцы – густыя зоркі, на галаве – месяц ясны, такая красуня – ні падумаць, ні згадаць, толькі ў казцы сказаць. Бярэ яна Івана-царэвіча за руку і вядзе за сталы дубовыя, за абрусы ўзорыстыя.

Пачалі госці есці, піць, весяліцца. Васіліса Прамудрая выпіла са шклянкі ды рэшткі сабе ў левы рукаў выліла. Закусіла лебедзем ды костачкі ў правы рукаў укінула.

Жонкі большых царэвічаў прыкмецілі яе хітрыкі і давай тое ж самае рабіць.

Папілі, паелі, прыйшла пара ў скокі ісці. Васіліса Прамудрая падхапіла Івана-царэвіча. І ўжо так яна скакала-танцавала, круцілася-вярцелася–усім на дзіва. Махнула левым рукавом – раптам зрабілася возера, махнула правым рукавом – паплылі па возеры белыя лебедзі. Цар і госці дзіву даліся.

А старэйшыя нявесткі пайшлі скакаць-танцаваць:

махнулі рукавом – толькі гасцей запырскалі, махнулі другім – толькі косці разляцеліся, адна костка цару ў вока пацэліла. Цар раззлаваўся І прагнаў абедзвюх нявестак.

Тым часам Іван-царэвіч адлучыўся ціхенька, пабег дадому, знайшоў там жабіну скуру і кінуў яе ў печ, спаліў на агні.

Васіліса Прамудрая вяртаецца дадому, спахапілася – няма жабінай скуры. Села яна на лаўку, засмуцілася, зажурылася і кажа Івану-царэвічу:

– Ах, Іван-царэвіч, што ж ты нарабіў? Каб ты яшчэ ўсяго толькі тры дні пачакаў, я вечна тваёю была б. А цяпер бывай. Шукай мяне за трыдзевяць зямель, у трыдзесятым царстве, у Кашчэя Бессмяротнага…

Зрабілася Васіліса Прамудрая шэрай зязюляй і вылецела ў акно. Іван-царэвіч паплакаў, паплакаў, пакланіўся на ўсе чатыры бакі і пайшоў куды вочы глядзяць – шукаць жонку, Васілісу Прамудрую. Ішоў ён блізка ці далёка, доўга ці не, боты збіў, каптан знасіў, шапку дождж злямчыў. Трапляецца яму насустрач стары дзядок.

– Добры дзень, малойца! Што шукаеш, куды цябе твая дарога вядзе?

Іван-царэвіч расказаў яму пра сваё няшчасце. Стары дзядок і кажа яму:

– Эх, Іван-царэвіч, навошта ты жабіну скуру спаліў? Не ты яе надзеў, не табе яе трэба было і здымаць. Васіліса Прамудрая хітрэйшая, мудрэйшая за свайго бацьку ўдалася. Ен за гэта разгневаўся на яе і загадаў ёй тры гады жабаю быць. Ну, нічога не зробіш, вось табе клубок: куды ён пакоціцца, туды і ты ідзі за ім смела.

Іван-царэвіч падзякаваў старому дзядку і пайшоў за

клубочкам. Клубок коціцца, ён за ім Ідзе. У чыстым полі трапляецца яму насустрач мядзведзь. Іван-царэвіч нацэліўся, хоча забіць звера. А мядзведзь гаворыць яму чалавечым голасам:

– Не забівай мяне, Іван-царэвіч, калі-небудзь я табе спатрэблюся.

Іван-царэвіч пашкадаваў мядзведзя, не стрэліў у яго, пайшоў далей. Зірк, ляціць над ім качар. Ён нацэліўся, а качар кажа яму чалавечым голасам:

– Не забівай мяне, Іван-царэвіч, я табе спатрэблюся. Ён пашкадаваў качара і пайшоў далей. Бяжыць касавокі заяц. Іван-царэвіч зноў намерыўся, хоча ў яго страляць, а заяц кажа чалавечым голасам:

– Не забівай мяне, Іван-царэвіч, я табе спатрэблюся. Пашкадаваў ён і зайца, пайшоў далей. Падыходзіць да сіняга мора, аж бачыць – на беразе, на пяску, ляжыць шчупак, ледзьве дыхае і кажа яму:

– Ах, Іван-царэвіч, пашкадуй мяне, кінь у сіняе мора!

Ён кінуў шчупака ў мора, пайшоў далей берагам. Доўга ці не, прыкаціўся клубочак да лесу. Там стаіць хатка на курыных лапках, вакол сябе паварочваецца.

– Хатка, хатка, стань, як стаяла, як маці паставіла: да лесу задам, да мяне перадам.

Хатка павярнулася да яго перадам, да лесу задам. Іван-царэвіч зайшоў у яе, аж бачыць: на печы, на чарані, на дзевятай цагліне, ляжыць баба-яга, касцяная нага, зубы– на паліцы, а нос у столь урос.

– Чаго, добры малойца, да мяне завітаў? – кажа яму баба-яга.– Работы шукаеш ці ад работы ўцякаеш?

Іван-царэвіч ёй адказвае:

– Ах ты, старая качарга, ты б мяне спачатку напаіла, накарміла, у лазні папарыла, тады б і дапытвалася.

Баба-яга яго ў лазні папарыла, напаіла, накарміла, у пасцель палажыла, і Іван-царэвіч расказаў ёй, што шукае сваю жонку, Васілісу Прамудрую.

– Ведаю, ведаю,– кажа яму баба-яга,– твая жонка цяпер у Кашчэя Бессмяротнага. Цяжка яе будзе выбавіць, нялёгка з Кашчэем справіцца: яго смерць на кончыку іголкі, тая іголка ў яйку, яйка ў качцы, качка ў зайцы, той заяц сядзіць у каменным куфэрку, а куфэрак стаіць на высокім дубе, і той дуб Кашчэй Бессмяротны, як сваё вока, сцеражэ.

Іван-царэвіч у бабы-ягі пераначаваў, і назаўтра раніцай яна яму паказала, дзе расце высокі дуб. Доўга ці не, дайшоў туды Іван-царэвіч, бачыць – стаіць, шуміць высокі дуб, на ім каменны куфэрак, а дастаць яго цяжка.

Раптам, ні адсюль ні адтуль, прыбег мядзведзь і вывернуў дуб з коранем. Куфэрак упаў і разбіўся. З куфэрка выскачыў заяц–і наўцёкі з усіх ног. А за ім другі заяц гоніцца, дагнаў і на шматкі разарваў. А з зайца вылецела качка, паднялася высока, пад самае неба. Зірк, на яе качар рынуўся, як стукне яе – качка яйка выпусціла, яйка ўпала ў сіняе мора...

Тут Іван-царэвіч заліўся горкімі слязьмі – дзе ж у моры яйка знайсці! Раптам падплывае да берага шчупак і трымае яйка ў зубах. Іван-царэвіч разбіў яйка, дастаў іголку і давай у яе кончык ламаць. Ён ломіць, а Кашчэй Бессмяротны шалее, кідаецца сюды-туды. Колькі ні шалеў, ні кідаўся Кашчэй, зламаў Іван-царэвіч у іголкі кончык, давялося Кашчэю памерці.

Пайшоў Іван-царэвіч у Кашчэеў палац белакаменны. Выбегла насустрач Васіліса Прамудрая, пацалавала яго ў вусны мядовыя. Іван-царэвіч з Васілісай Прамудрай вярнуліся дадому і жылі доўга і шчасліва да глыбокай старасці.

## ІВАН-ЦАРЭВІЧ І ШЭРЫ ВОЎК

Жыў-быў цар Берандзей, у яго было тры сыны, малодшага звалі Іван.

І быў у цара цудоўны сад; расла ў тым садзе яблыня з залатымі яблыкамі.

Пачаў хтосьці ў царскі сад лазіць, залатыя яблыкі красці. Цару стала шкада свайго саду. Пасылае ён туды варту. Ніякая варта не можа злавіць злодзея.

Цар перастаў і піць, і есці, затужыў. Сыны бацьку суцяшаюць:

– Дарагі наш бацюхна, не тужы. Мы самі будзем сад пільнаваць.

Старэйшы сын кажа:

– Сёння мая чарга, пайду пільнаваць сад ад злодзея.

Пайшоў старэйшы сын. Колькі ні хадзіў звечара, нікога не высачыў, прылёг на мяккую траву і заснуў.

Раніцай цар пытаецца ў яго:

– Ану парадуй мяне: ці бачыў ты злодзея?

– Не, родны бацюхна, усю ноч не спаў, вачэй не зводзіў, а нікога не бачыў.

На другую ноч пайшоў сярэдні сын пільнаваць і таксама праспаў усю ноч, а раніцай сказаў, што но бачыў злодзея.

Надышоў час малодшаму сыну ісці пільнанаць. Пайшоў Іван-царэвіч у бацькаў сад і нават прысесці баіцца, не тое што прылегчы. А як сон пачне яго браць, он расою з травы памыецца і

прагоніць сон.

Палавіна ночы мінула, яму і здаецца: у садзе нейкае святло. Святлей і святлей. Увесь сад асвяціла. Ён бачыць – на яблыню села Жар-птушка і дзяўбе яблыкі.

Іван-царэвіч ціхенька падпоўз да яблыні і злавіў птушку за хвост. Жар-птушка страпянулася і паляцела, засталося ў яго ў руцэ адно пяро з яе хваста.

Раніцай прыходзіць Іван-царэвіч да бацькі.

– Ну што, дарагі мой Ваня, ці бачыў ты злодзея?

– Дарагі бацюхна, злавіць не злавіў, а высачыў, хто наш сад спусташае. Вось ад злодзея памяць вам прынёс. Гэта, бацюхна, Жар-птушка.

Цар узяў тое пяро і з таго часу пачаў піць, і есці, і тугі не ведаць. Вось аднойчы і задумаўся ён пра гэтую пра Жар-птушку.

Паклікаў ён сыноў і кажа ім:

– Дарагія мае дзеці, асядлалі б вы добрых коней, паездзілі б па белым свеце, пашукалі, ці не натрапілі б дзе на Жар-птушку.

Дзеці бацьку пакланіліся, асядлалі добрых коней і рушылі ў дарогу: старэйшы ў адзін бок, сярэдні ў другі, а Іван-царэвіч у трэці бок.

Ехаў Іван-царэвіч доўга ці не. Дзень быў летні. Прытаміўся Іван-царэвіч, злез з каня, спутаў яго, а сам спаць паваліўся.

Многа ці мала часу мінула, прачнуўся Іван-царэвіч, бачыць –каня няма. Пайшоў яго шукаць, хадзіў, хадзіў і знайшоў свайго каня – адны косці абгрызеныя.

Затужыў Іван-царэвіч: куды без каня ісці ў такую далячынь?

«Ну што ж,– думае,– узяўся – нічога не зробіш».

І пайшоў пеша.

Ішоў, ішоў, стаміўся страшэнна.

Сеў на мяккую траву і зажурыўся, сядзіць.

Ні адсюль ні адтуль бяжыць да яго шэры воўк.

– Чаго, Іван-царэвіч, сядзіш, чаго зажурыўся, галаву звесіў?

– Як жа мне не тужыць, шэры воўк? Застаўся я без добрага каня.

– Гэта я, Іван-царэвіч, твайго каня з'еў... Шкада мне цябе! Раскажы, чаго ў дарогу далёкую выправіўся, куды яна цябе вядзе?

– Паслаў мяне бацюхна паездзіць па белым свеце, знайсці Жар-птушку.

– Фу, фу, табе на сваім добрым кані за тры гады не даехаць да Жар-птушкі. Я адзін ведаю, дзе яна жыве. Так і быць, каня твайго з'еў – буду табе служыць верай-праўдай. Садзіся на мяне ды трымайся мацней.

Сеў Іван-царэвіч на яго верхам, шэры воўк і памчаўся – сінія лясы міма вачэй прапускае, азёры хвастом замятае. Доўга ці не,

дабягаюць яны да высокай крэпасці. Шэры воўк і кажа:

– Слухай мяне, Іван-царэвіч, запамінай: лезь цераз сцяну, не бойся – час добры, усе вартаўнікі спяць. Убачыш у цераме акенца, на акенцы стаіць залатая клетка, а ў клетцы сядзіць Жар-птушка. Ты птушку вазьмі, за пазуху пакладзі, ды глядзі клеткі не чапай!

Іван-царэвіч цераз сцяну пералез, убачыў гэты церам – на акенцы стаіць залатая клетка, у клетцы сядзіць Жар-птушка. Ён птушку ўзяў, за пазуху паклаў, ды загледзеўся на клетку. Сэрца яго і распалілася: «Ах, якая – залатая, дарагая! Як жа такую не ўзяць!» І забыўся, што яму воўк наказваў. Толькі дакрануўся да клеткі, пайшоў па крэпасці шум: трубы затрубілі, у барабаны забілі, вартаўнікі прачнуліся, схапілі Івана-царэвіча і павялі яго да цара Афрона.

Цар Афрон разгневаўся і пытаецца:

– Чый ты, адкуль?

– Я цара Берандзея сын, Іван-царэвіч.

– Ай, які сорам! Царскі сын ды пайшоў красці.

– А што ж, калі ваша птушка лятала, наш сад спусташала?

– А ты б прыйшоў да мяне, хораша папрасіў, я яе і так аддаў бы, з павагі да твайго бацькі, цара Берандзея. А цяпер па ўсіх гарадах путчу нядобрую славу пра вас... Ну ды нічога, саслужыш мне службу, я табе дарую. У такім вось царстве ў цара Кусмана ёсць конь залатагрывы. Прывядзі яго мне, тады аддам табе Жар-птушку з клеткай.

Зажурыўся Іван-царэвіч, ідзе да шэрага воўка. А воўк яму:

– Я ж табе казаў, не чапай клетку! Чаму не слухаўся майго загаду?

– Ну, даруй жа ты мне, даруй, шэры воўк.

– Ага, даруй... Добра, садзіся на мяне. Узяўся за гуж, не кажы, шт.о не дуж.

Зноў памчаўся шэры воўк з Іванам-царэвічам. Доўга ці не, дабягаюць яны да той крэпасці, дзе стаіць конь залатагрывы.

– Лезь, Іван-царэвіч, цераз сцяну, вартаўнікі спяць. Ідзі ў стайню, бяры каня, ды глядзі аброць не чапай!

Іван-царэвіч пералез у крэпасць, там усе вартаўнікі спяць, зайшоў на стайню, злавіў каня залатагрывага, ды паквапіўся на аброць – яна золатам, дарагімі камянямі аздоблена; у ёй залатагрываму каню толькі і гуляць.

Іван-царэвіч дакрануўся да аброці – пайшоў шум па ўсёй крэпасці: трубы затрубілі, у барабаны забілі, вартаўнікі прачнуліся, схапілі Івана-царэвіча і павялі да цара Кусмана.

– Чый ты, адкуль?

– Я Іван-царэвіч.

– Эге ж, за якія дурыкі ўзяўся – каня красці! На гэта просты

мужык не згодзіцца. Ну ды нічога, дарую табе, Іван-царэвіч, калі саслужыш мне службу. У цара Далмата ёсць дачка Алена Прыгожая. Украдзі яе, прывязі да мяне – падару табе залатагрывага каня з аброццю.

Яшчэ мацней зажурыўся Іван-царэвіч, пайшоў да шэрага воўка.

– Казаў я табе, Іван-царэвіч, не чапай аброць! Не паслухаўся ты майго загаду.

– Ну, даруй жа мне, даруй, шэры воўк.

– Ага, даруй… Ды ўжо хай сабе, садзіся мне на спіну.

Зноў памчаўся воўк з Іванам-царэвічам. Дабягаюць яны да цара Далмата. У яго ў крэпасці гуляе ў садзе Алена Прыгожая з мамкамі, нянькамі. Шэры воўк кажа:

– На гэты раз я цябе не пушчу, сам пайду. А ты ідзі назад дарогай-пуцявінай, я цябе хутка даганю.

Іван-царэвіч пайшоў назад дарогай-пуцявінай, а шэры воўк пераскочыў сцяну – ды ў сад. Прытаіўся за кустом і глядзіць: Алена Прыгожая выйшла са сваімі мамкамі, нянькамі. Гуляла, гуляла і толькі трошкі ад стала ад мамак і нянек, шэры воўк схапіў Алену Прыгожую, перакінуў цераз спіну – і наўцёкі.

Іван-царэвіч ідзе дарогай-пуцявінай, раптам даганяе яго шэры воўк, на ім сядзіць Алена Прыгожая. Зарадаваўся Іван-царэвіч, а шэры воўк яму:

– Садзіся на мяне хутчэй, каб хаця за намі пагоні не было.

Памчаўся шэры воўк з Іванам-царэвічам, з Аленай Прыгожаю па дарозе назад – сінія лясы міма вачэй прапускае, рэкі, азёры хвастом замятае. Доўга ці не, дабягаюць яны да цара Кусмана. Шэры воўк пытаецца:

– Чаго, Іван-царэвіч, прыціх, зажурыўся?

– Ды як жа мне, шэры воўк, не тужыць? Як расстануся з такою красою? Як Алену Прыгожую на каня буду мяняць?

Шэры воўк адказвае:

– Не разлучу я цябе з такою красою – схаваем яе дзе-небудзь, а я зраблюся Аленай Прыгожаю, ты і вядзі мяне да цара.

Тут яны Алену Прыгожую схавалі ў лясной хатцы. Шэры воўк перакуліўся цераз галаву і зрабіўся – кропля ў кроплю – вылітай Аленай Прыгожай. Павёў яго Іван-царэвіч да цара Кусмана. Цар зарадаваўся, пачаў яму дзякаваць:

– Дзякуй табе, Іван-царэвіч, што дастаў мне нявесту. Бяры сабе залатагрывага каня з аброццю.

Іван-царэвіч сеў на гэтага каня і паехаў па Алену Прыгожую. Узяў яе, пасадзіў на каня, і едуць яны дарогай-пуцявінаю.

А цар Кусман наладзіў вяселле, банкетаваў цэлы дзень да вечара, а як трэба было спаць класціся, павёў ён Алену Прыгожую

ў спальню, ды толькі лёг з ёю на ложак, глядзіць – воўчая морда замест маладой жонкі! Цар ад страху зваліўся з ложка, а воўк уцёк прэч.

Даганяе шэры воўк Івана-царэвіча і пытаецца:

– Аб чым задумаўся, Іван-царэвіч?

– Як жа мне не думаць? Шкада расставацца з такім скарбам – канём залатагрывым, мяняць яго на Жар-птушку.

– Не тужы, я табе памагу.

Вось даязджаюць яны да цара Афрона. Воўк і кажа:

– Гэтага каня і Алену Прыгожую ты схавай, а я зраблюся канём залатагрывым, ты мяне і вядзі да цара Афрона.

Схавалі яны Алену Прыгожую і залатагрывага каня ў лесе. Шэры воўк перакінуўся цераз спіну, зрабіўся залатагрывым канём. Іван-царэвіч павёў яго да цара Афрона. Цар зарадаваўся і аддаў яму Жар-птушку з залатой клеткай.

Іван-царэвіч вярнуўся пеша ў лес, пасадзіў Алену Прыгожую на залатагрывага каня, узяў залатую клетку з Жар-птушкаю і паехаў дарогай-пуцявінаю ў родны край.

А цар Афрон загадаў падвесці яму падараванага каня і толькі хацеў сесці на яго – конь перакінуўся ў шэрага воўка. Цар ад страху дзе стаяў, там і ўпаў, а шэры воўк кінуўся наўцёкі і хутка дагнаў Івана-царэвіча.

– Цяпер бывай, мне далей ісці нельга.

Іван-царэвіч злез з каня і тры разы пакланіўся да зямлі, з павагай падзякаваў шэраму воўку.

А той кажа:

– Не навек развітвайся са мною, я яшчэ табе ў прыгодзе стану.

Іван-царэвіч думае: «У якой яшчэ прыгодзе? Усе жаданні мае збыліся». Сеў на залатагрывага каня, і зноў паехалі яны з Аленай Прыгожаю, з Жар-птушкаю. Даехаў ён да сваіх мясцін, захацелася яму папалуднаваць, Было ў яго з сабою кр'ыху хлебца. Ну, яны паелі, крынічнай вады папілі і леглі адпачыць.

Толькі Іван-царэвіч заснуў, пад'язджаюць да яго браты. Ездзілі яны па чужых землях, шукалі Жар-птушку, вярнуліся з пустымі рукамі. Пад'ехалі, аж бачаць – у Івана-царэвіча ўсё здабыта.

Вось яны і згаварыліся:

– Давай заб'ём брата, уся здабыча будзе наша.

Дамовіліся так і забілі Івана-царэвіча. Селі на залатагрывага каня, узялі Жар-птушку, пасадзілі на каня Алену Прыгожую і застрашылі яе:

– Дома не кажы нічога!

Ляжыць Іван-царэвіч мёртвы, над ім ужо крумкачы лятаюць.

Ні адсюль ні адтуль прыбег шэры воўк і схапіў крумкача з крумкачанём.

– Ляцітка ты, крумкач, па жывую і мёртвую ваду. Прынясеш мне жывой і мёртвай вады, тады адпушчу тваё крумкачаня.

Крумкач, нічога не зробіш, паляцеў, а воўк трымае яго крумкачаня. Доўга ці не доўга лятаў крумкач, прынёс ён жывой і мёртвай вады. Шэры воўк папырскаў мёртвай вадой раны Івану-царэвічу, раны загаіліся; папырскаў яго жывой вадой – Іван-царэвіч ажыў.

– Ох, моцна ж я спаў!..

– Моцна ты спаў, – кажа шэры воўк.– Каб не я, зусім бы не прачнуўся. Родныя браты цябе забілі і ўсю здабычу тваю звезлі. Садзіся на мяне хутчэй.

Памчаліся яны ў пагоню і дагналі абодвух братоў. Тут іх шэры воўк разарваў на шматкі, а шматкі па полі параскідаў.

Іван-царэвіч пакланіўся шэраму воўку і развітаўся з ім навекі.

Вярнуўся Іван-царэвіч дадому на кані залатагрывым, прывёз бацьку свайму Жар-птушку, а сабе – нявесту, Алену Прыгожую.

Цар Берандзей зарадаваўся, пачаў распытваць. Іван-царэвіч расказаў, як памог яму шэры воўк дастаць здабычу, ды як браты забілі яго соннага, ды як шэры воўк іх разарваў.

Пабедаваў цар Берандзей і хутка суцешыўся. А Іван-царэвіч ажаніўся з Аленай Прыгожай, і пачалі яны жыць-пажываць ды гора не знаць.

Толькі Іван-царэвіч заснуў, пад'язджаюць да яго браты. Ездзілі яны па чужых землях, шукалі Жар-птушку, вярнуліся з пустымі рукамі. Пад'ехалі, аж бачаць – у Івана-царэвіча ўсё здабыта.

Вось яны і згаварыліся:

– Давай заб'ём брата, уся здабыча будзе наша.

Дамовіліся так і забілі Івана-царэвіча. Селі на залатагрывага каня, узялі Жар-птушку, пасадзілі на каня Алену Прыгожую і застрашылі яе:

– Дома не кажы нічога!

Ляжыць Іван-царэвіч мёртвы, над ім ужо крумкачы лятаюць. Ні адсюль ні адтуль прыбег шэры воўк і схапіў крумкача з крумкачанём.

– Ляцітка ты, крумкач, па жывую і мёртвую ваду. Прынясеш мне жывой і мёртвай вады, тады адпушчу тваё крумкачаня.

Крумкач, нічога не зробіш, паляцеў, а воўк трымае яго крумкачаня. Доўга ці не доўга лятаў крумкач, прынёс ён жывой і мёртвай вады. Шэры воўк папырскаў мёртвай вадой раны Івану-царэвічу, раны загаіліся; папырскаў яго жывой

вадой–Іван-царэвіч ажыў.

– Ох, моцна ж я спаў!..

– Моцна ты спаў, – кажа шэры воўк.– Каб не я, зусім бы не прачнуўся. Родныя браты цябе забілі і ўсю здабычу тваю звезлі. Садзіся на мяне хутчэй.

Памчаліся яны ў пагоню і дагналі абодвух братоў. Тут іх шэры воўк разарваў на шматкі, а шматкі па полі параскідаў.

Іван-царэвіч пакланіўся шэраму воўку і развітаўся з ім навекі.

Вярнуўся Іван-царэвіч дадому на кані залатагрывым, прывёз бацьку свайму Жар-птушку, а сабе – нявесту, Алену Прыгожую.

## ГУСІ-ЛЕБЕДЗІ

Жылі мужык ды баба. У іх была дачка ды сынок маленькі.

– Дачушка,– сказала маці,– мы пойдзем на работу, глядзі браціка! Не ідзі нікуды з двара, будзь разумніцай – мы купім табе хустачку.

Бацька з маткай пайшлі, а дзяўчынка забылася, што ёй гаварылі: пасадзіла браціка на траўцы пад акном, а сама пабегла на вуліцу гуляць.

Наляцелі гусі-лебедзі, падхапілі хлопчыка і панеслі на крылах.

Вярнулася дзяўчынка, глядзіць – няма браціка. Ахнула, кінулася туды-сюды – няма!

Яна яго клікала, слязьмі залівалася, бедавала, што бацька і маці не даруюць ёй гэтага,– брацік не адгукнуўся.

Выбегла яна ў чыстае поле і толькі згледзела: мільганулі далёка ў небе гусі-лебедзі і зніклі за цёмным лесам. Тут яна здагадалася, што яны схапілі яе браціка: пра гусей-лебедзяў даўно ўжо хадзіла нядобрая слава, што яны маленькіх дзяцей хапаюць.

Кінулася дзяўчынка даганяць іх. Бегла, бегла, бачыць – стаіць печ.

– Печка, печка, скажы, куды гусі-лебедзі паляцелі?

Печ ёй адказвае:

– З'еш мой жытні піражок – скажу.

– Буду я Жытні пірог есці! У майго бацюхны і пшанічныя не ядуцца...

Печ ёй не сказала. Пабегла дзяўчынка далей – стаіць яблыня.

– Яблыня, яблыня, скажы, куды гусі-лебедзі паля-целі?

– З'еш мой лясны яблычак – скажу.

– У майго бацюхны і садовыя не ядуцца...

Яблыня ёй не сказала. Пабегла дзяўчынка далей. Цячэ малочная рака, кісельныя берагі.

– Малочная рака, кісельныя берагі, куды гусі-лебедзі паляцелі?

– Паспытай майго простата кісяльку з малачком – скажу.

– У майго бацькі і смятанка не есца…

Доўга яна бегала па палях, па лясах, ды брата так і не знайшла. А тут і вечар надыходзіць. Рабіць няма чаго – трэба ісці дамоў. Раптам бачыць – стаіць хатка на курынай лапцы, з адным акенцам, вакол сябе паварочваецца.

У хатцы старая баба-яга кудзелю прадзе. А на лаўцы сядзіць брацік, забаўляецца сярэбранымі яблычкамі.

Дзяўчынка ўвайшла ў хатку:

– Добры дзень, бабулька!

– Добры дзень, малая! Чаго прыйшла?

– Я па імхах, па балотах хадзіла, сукенку намачыла, прыйшла пагрэцца.

– Садзіся пакуль што кудзелю прасці.

Баба-яга дала ёй верацяно, а сама пайшла. Дзяўчынка прадзе – раптам з падпечка выбягае мышка і кажа ёй:

– Дзяўчынка, дзяўчынка, дай мне кашкі, я табе нешта добранькае скажу.

Дзяўчынка дала ёй кашкі, мышка ёй сказала:

– Баба-яга пайшла лазню грэць. Яна Цябе вымые-выпарыць, у печ пасадзіць, засмажыць і з'есць, сама на тваіх касЦях пакачаецца.

Дзяўчынка сядзіць ні жывая ні мёртвая, плача, а мышка ёй зноў:

– Не чакай бяды, бяры брацiка ды ўцякай, а я за цябе кудзелю папраду.

Дзяўчынка ўзяла брацiка і пабегла. А баба-яга падыдзе да акенца і пытаецца:

– Ты прадзеш там, малая?

Мышка ёй адказвае:

– Праду, бабулька…

Баба-яга лазню нагрэла і пайшла па дзяўчынку. А ў хатцы няма нікога. Баба-яга закрычала:

– Гусі-лебедзі, ляціце даганяць! Сястра з братам уцякла!..

Сястра з брацікам дабегла да малочнай ракі. Бачыць – ляцяць гусі-лебедзі.

– Рэчка, матухна, схавай мяне!

– Паспытай майго простага кісяльку.

Дзяўчынка паспытала і дзякуй сказала. Рака схавала
яе пад кісельным беражком.

Гусі-лебедзі не ўбачылі, праляцелі міма.

Дзяўчынка з братам зноў пабегла. А гусі-лебедзі вярнуліся, ляцяць насустрач, вось-вось убачаць. Што рабіць? Бяда! Стаіць яблыня…

– Яблыня, матухна, схавай мяне!

– З'еш мой лясны яблычак.

Дзяўчынка хуценька з'ела і дзякуй сказала. Яблыня яе засланіла сваімі галінкамі, прыкрыла лісцікамі…

Гусі-лебедзі не ўбачылі, праляцелі міма.

Дзяўчынка зноў пабегла. Бяжыць, бяжыць, ужо недалёка засталося. Тут гусі-лебедзі ўбачылі яе, загагакалі – налятаюць, крыламі б'юць, брацікa з рук вырываюць.

Дабегла дзяўчынка да печы:

– Печка, матухна, схавай мяне!

– З'еш мой жытні піражок.

Дзяўчынка хутчэй – піражок у рот, а сама з братам – у печ, села і сядзіць.

Гусі-лебедзі паляталі-паляталі, пакрычалі-пакрычалі і ні з чым паляцелі да бабы-ягі.

Дзяўчынка сказала печы дзякуй і разам з брацікам прыбегла дадому.

А тут і маці з бацькам з работы прыйшлі.

## ДАЧКА І ПАДЧАРКА

Жыў дзед з бабаю, і была ў іх дачка. Вось баба памерла, а дзед пачакаў крыху ды ажаніўся з удавою, у якой была свая дачка. Кепска стала жыць дзедавай дачцэ. Мачыха была ненавісніца, поедам есць дзеда:

– Вязі сваю дачку ў лес, у зямлянку, там яна больш напрадзе.

Няма ніякай рады са старою! Паслухаўся дзед бабы – завёз дачку ў зямлянку, даў ёй крэмень, крэсіва[5] ды мяшэчак круп і кажа:

– Вось табе агеньчык; агеньчык не зводзь, кашу вары, а сама не спі – сядзі ды прадзі.

Надышла ноч. Краса дзяўчына запаліла ў печы, згатавала кашу; ні адсюль ні адтуль мышка – кажа:

– Дзяўчына, дзяўчына! Дай мне лыжачку кашкі!

– Ой, мая мышка! Разгані маю тугу-нуду – я табе дам не адну лыжку, а ўволю накармлю.

Наелася мышка і пайшла. Ноччу ўламаўся мядзведзь.

– Ану, дзяўчо, гасі агонь ды давай у жмуркі гуляць.

[5] Крэсіва – камень або кусок сталі для высякання агню з крэменю.

Мышка ўскарабкалася на плячо дзедавай дачцэ і шэпча ёй на вушка:

– Не бойся, дзеўчына! Скажы: давай! Пагасі агонь ды ў падпечак лезь, а я за цябе буду бегаць і званочкам званіць.

Так усё і сталася. Ганяецца мядзведзь за мышкаю – ніяк не зловіць. Пачаў раўці ды паленамі кідаць. Кідаў-кідаў, ні разу не пацэліў, стаміўся і сказаў:

– Малайчына ты, дзяўчына, у жмуркі добра гуляеш! За гэта прышлю табе раніцай табун коней і воз серабра.

Назаўтра раніцай кажа баба:

– Едзь, стары, праведай дачку, колькі там напрала яна за ноч.

Паехаў дзед, а баба сядзіць ды чакае: калі гэта ён свае дачкі костачкі прывязе.

Надышоў час дзед у вяртацца, а сабака:

– Цяў-цяў-цяў! З дзедам дачка едзе, табун коней гоніць, воз серабра вязе.

– Маніш, брыдкае сабачаня! Гэта ў корабе яе костачкі брынчаць!

Тут вароты зарыпелі, коні на двор забеглі, а дачка з бацькам на возе сядзяць: поўны воз серабра. У бабы ад прагнасці ажно вочы ледзь не вылазяць.

– Гэткая важнасць! – крычыць.– Завязі от маю дачку ў лес; мая дачка два табуны коней прыгоніць, два вазы серабра прывалачэ.

Павёз дзед той жа дарогаю бабіну дачку ў зямлянку; даў ёй крэмень, крэсіва, мяшэчак круп і пакінуў адну. Увечары зварыла яна кашу.

Прыбегла мышка і просіць:

– Наташка! Наташка! Ці салодкая твая кашка? Дай хоць лыжачку паспытаць!

– Бач ты якая! – закрычала Наташка і шпурнула ў яе лыжкай.

Мышка ўцякла, а Наташка толькі і ведае – аплятае сабе кашу. З'ела цэлы гаршчок, агонь пагасіла, прылегла ў куточку і заснула. Ажно апоўначы ўвальваецца мядзведзь і кажа:

– Гэй, дзе ты, дзяўчына? Давай у жмуркі гуляць.

Дзяўчына спалохалася, маўчыць, адно ад страху зубамі ляскае.

– Ага, дык ты вунь дзе! На званочак, уцякай, а я цябе лавіць буду.

Узяла яна званочак, рука дрыжыць, званочак увесь час звініць, а мышка прымаўляе:

– Нядобрай дзяўчыне ўсё роўна не жыць!

Мядзведзь кінуўся лавіць бабіну дачку, і як толькі

зламіў яе, тут жа і задушыў.

Назаўтра пасылае баба дзеда ў лес:

– Едзь! Мая дачка два вазы прывязе, два табуны прыгоніць.

Дзед паехаў, а баба каля варотаў чакае. Тут прыбягае сабачка:

– Цяў-цяў-цяў! Не будзе больш дома бабіна дачка жыць, дзед на парожнім возе сядзіць, а што ў корабе брынчыць, дык гэта – Наташыны костачкі!

– Маніш ты, брыдкае сабачаня! Гэта мая дачка едзе, табуны коней гоніць, вазы серабра вязе. На, з'еш блін ды кажы: бабіну Дачку ў золаце, у серабры прывязуць, а дзедаву жаніхі не бяруць!

Сабачка з'еў блін і забрахаў:

– Цяў-цяў-цяў! Дзедаву дачку замуж выдадуць, а бабінай костачкі ў корабе прывязуць.

Што ні рабіла баба з сабачкам: і бліны яму давала, і біла яго,– ён адно і тое ж брэша... Зірк, аж дзед каля варотаў, жонцы кораб падае; баба кораб адкрыла, зірнула на костачкі і завыла, ды так яе злосць узяла, што на другі дзень яна, як кажуць, і канцы аддала, памерла. Дзед выдаў сваю дачку замуж за добрага жаніха, і пачалі яны жыць-пажываць ды дабро нажываць.

## СЯСТРЫЦА АЛЁНКА І БРАЦІК ІВАНКА

Жылі-былі дзед ды баба, у іх была дачка Алёнка і сынок Іванка.

Дзед і баба памерлі. Засталіся Алёнка ды Іванка адны-адзінюткія.

Пайшла Алёнка на работу і бражка з сабою ўзяла. Ідуць яны дарогай далёкай, полем шырокім, і захацелася Іванку піць.

– Сястрыца Алёнка, я піць хачу!

– Пачакай, брацік, дойдзем да студні.

Ішлі, ішлі – сонца высока, студня далёка, спёка даймае, пот выступае. Стаіць каровін капыцік повен вадзіцы.

– Сястрыца Алёнка, нап’юся я з капыціка!

– Не пі, брацік, цяляткам зробішся!

Брацік паслухаўся, пайшлі далей.

Сонца высока, студня далёка, спёка даймае, пот выступае. Стаіць конскі капыцік повен вадзіцы.

– Сястрыца Алёнка, нап'юся я з капыціка!

– Не пі, брацік, жарабяткам зробішся!

Уздыхнуў Іванка, зноў пайшлі далей.

Ідуць, ідуць – сонца высока, студня далёка, спёка даймае, пот выступае. Стаіць казіны капыцік повен вадзіцы.

Іванка кажа:

– Сястрыца Алёнка, не магу больш трываць: нап'юся я з капыціка!

– Не пі, брацік, козлікам зробішся!

Не паслухаўся Іванка і напіўся з казінага капыціка.

Напіўся і зрабіўся козлікам…

Кліча Алёнка браціка, а замест Іванкі бяжыць за ёю беленькі козлік.

Залілася Алёнка слязьмі, села пад стажок – плача, а козлік каля яе скача.

На той час ехаў міма купец:

– Аб чым, краса дзяўчына, плачаш?

Расказала яму Алёнка пра сваю бяду.

Купец ёй кажа:

– Ідзі за мяне замуж. Будзеш у золаце-серабры хадзіць, і козлік будзе жыць з намі.

Алёнка падумала, падумала і пайшла за купца замуж.

Пачалі яны жыць-пажываць, і козлік з імі жыве, есць-п'е з Алёнкай з адной міскі.

Аднаго разу не было купца дома. Раптам, ні адсюль ні адтуль, прыходзіць ведзьма: стала пад Алёнчыным акенцам і гэтак ужо ласкава пачала клікаць яе купацца на рэчку.

Прывяла ведзьма Алёнку на рэчку. Кінулася на яе, прывязала Алёнцы на шыю камень і спіхнула яе ў ваду.

А сама зрабілася Алёнкай, прыбралася ў яе адзенне і прыйшла ў яе харомы. Ніхто ведзьму не пазнаў. Купец, вярнуўся – і той не пазнаў.

Адзін козлік усе ведаў. Звесіў ен галаву, не п'е, не есць. З раніцы да вечара ходзіць па беражку каля вады і кліча:

– Алёнка, сястрыца мая!
Выплыві на беражок…

Прачула пра гэта ведзьма і давай прасіць мужа – зарэж ды зарэж козліка…

Купцу шкада было козліка, прывык ён да яго. А ведзьма так прыстае, так упрошвае – рады няма. Купец і згадзіўся:

– Ну, зарэж яго…

Загадала ведзьма раскласці агні вялікія, грэць катлы чыгунныя, вастрыць нажы булатныя…

Козлік дачуўся, што яму нядоўга жыць засталося, і кажа названаму бацьку:

– Перад смерцю пусці мяне на рэчку схадзіць, вадзіцы папіць, кішачкі прапаласкаць.

– Ну, схадзі.

Пабег козлік на рэчку, стаў на беразе і закрычаў, ды гак жаласненька:

– Алёнка, сястрыца мая,
Выплыві на беражок!
Агні гарацъ вялікія,
Катлы кіпяць чыгунныя,
Нажы вострацъ булатныя,
Мяне хочуць зарэзаці!

Алёнка з рэчкі яму адказвае:

– Ах, брацік мой, Іванка мой!
Цяжкі камень на дно цягне,
Апляла трава ногі моцненька,
А пясок рачны лёг на грудзі мне.

А ведзьма шукае козліка, не можа знайсці і пасылае лугу:

– Ідзі знайдзі козліка, прывядзі яго да мяне.

Пайшоў слуга на рэчку, аж бачыць – козлік бегае па беразе і кліча, ды так жаласненька:

– Алёнка, сястрыца мая,
Выплыві на беражок!
Агні гарацъ вялікія,
Катлы кіпяць чыгунныя,
Нажы вострацъ булатныя,
Мяне хочуць зарэзаці!

А з рэчкі яму адказваюць:

– Ах, брацік мой, Іванка мой!
Цяжкі камень на дно цягне,
Апляла трава ногі моцненька,
А пясок рачны лёг на грудзі мне.

Слуга пабег дадому і расказаў купцу пра тое, што чуў на рэчцы. Сабралі народ, пайшлі на рэчку, закінулі сеткі шаўковыя і выцягнулі Алёнку на бераг. Знялі камень з шыі, акунулі яе ў ваду крынічную, адзелі ў багатае ўбранне. Алёнка ажыла і стала прыгажэйшаю, чым была.

А козлік ад радасці тры разы перакуліўся цераз галаву і зрабіўся хлопчыкам Іванкам.

Ліхую ведзьму прывязалі да конскага хваста і пусцілі каня ў чыстае поле.

## ПА ШЧУПАКОВАМУ КАЗАННЮ

Жыў-быў стары. У яго было тры сыны: два разумныя, трэці – дурны Ямеля.

Ты я браты працуюць, а Ямеля цэлы дзень ляжыць на печы, ведаць нічога не хоча.

Аднаго разу паехалі браты на кірмаш, а бабы, братавыя, давай пасылаць яго:

– Схадзі, Ямеля, па ваду.

А ён ім з печы:

– Не хочацца…

– Схадзі, Ямеля, а то браты з кірмашу вернуцца, гасцінцаў табе не прывязуць.

– Ну добра.

Злез Ямеля з печы, абуўся, апрануўся, узяў вёдры і сякеру і пайшоў на рэчку.

Прасек лёд, набраў вады ў вёдры і паставіў іх, а сам глядзіць у палонку. І ўбачыў Ямеля ў палонцы шчупака. Злаўчыўся і схапіў шчупака рукою:

– Салодкая будзе юшка!

Раптам шчупак кажа яму чалавечым голасам:

– Ямеля, пусці мяне ў ваду, я табе калі-небудзь памагу.

А Ямеля смяецца:

– Што ты мне паможаш?.. Не, занясу я цябе дадому, скажу братавым, каб юшку зварылі. Салодкая будзе юшка.

Шчупак зноў пачаў прасіцца:

– Ямеля, Ямеля, пусці мяне ў ваду, я табе зраблю ўсё, што ты толькі пажадаеш.

– Добра, аде пакажы спачатку, што не падманваеш мяне, тады пушчу.

Шчупак у яго пытаецца:

– Ямеля, Ямеля, скажы, чаго ты зараз хочаш?

– Хачу, каб вёдры самі пайшлі дадому і вада каб не расплюхалася.

Шчупак яму кажа:

– Запомні мае словы: калі табе чаго захочацца – скажы толькі:

Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню.

Ямеля і кажа:

– Па шчупаковаму казанню,

Па майму жаданню –

ідзіце, вёдры, самі дадому...

Толькі сказаў – вёдры самі і пайшлі на тару. Ямеля пусціў шчупака ў палонку, а сам пайшоў за вёдрамі.

Ідуць вёдры па вёсцы, народ дзівіцца, а Ямеля ідзе ззаду, пасміхаецца... Зайшлі вёдры ў хату і самі сталі на лаўку, а Ямеля палез на печ.

Многа ці мала мінула часу – братавыя зноў кажуць яму:

– Ямеля, што ты ляжыш? Схадзіў бы дроў накалоў.

– Не хочацца...

– Не наколеш дроў, браты з кірмашу вернуцца, гасцінцаў табе не прывязуць.

Ямелю не хочацца злазіць з печы. Успомніў ён пра шчупака і ціхенька кажа:

– Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню –

ідзі, сякера, накалі дроў, а дровы самі ў хату падавайцеся і ў печ складайцеся...

Сякера выскачыла з-пад лаўкі – і на двор, і давай дровы калоць, а дровы самі ў хату ідуць і ў печ лезуць.

Многа ці мала часу прайшло – братавыя зноў кажуць:

– Ямеля, дроў у нас больш няма. З'ездзі ў лес, насячы.

А ён ім з печы:

– А вы на што?

– Як гэта – мы на што?.. Хіба гэта наша работа – у лес па дровы ездзіць?

– Мне не хочацца...

– Ну, не будзе табе падарункаў.

Нічога не зробіш. Злез Ямеля з печы, абуўся, апрануўся. Узяў вяроўку і сякеру, выйшаў на двор і сеў у сані:

– Бабы, адчыняйце вароты!

Братавыя яму кажуць:

– Што ж ты, дурань, сеў у сані, а каня не запрог?

– Не трэба мне каня.

Братавыя адчынілі вароты, а Ямеля кажа ціхенька:

– Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню –

едзьце, сані, у лес...

Сані самі і паехалі, ды так хутка – на кані не дагнаць.

А ехаць у лес трэба было якраз праз горад, і тут ён многа народу з ног пазбіваў ды падушыў. Народ крычыць: «Трымай яго! Лаві яго!» А ён едзе сабе, сані паганяе. Прыехаў у лес:

– Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню –

сякера, насячы дроў ды сушэйшых, а вы, дровы, самі валіцеся ў сані, самі вяжыцеся...

Сякера пачала сячы, калоць сухія дрэвы, а дровы самі ў сані валяцца і вяроўкай вяжуцца. Потым Ямеля загадаў сякеры высеч яму дубінку – такую, каб насілу падняць. Сеў на воз:

– Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню –

едзьце, сані, дадому...

Сані памчаліся дадому. Зноў едзе Ямеля праз той горад, дзе нядаўна пазбіваў ды падушыў многа народу, а там яго ўжо чакаюць. Схапілі Ямелю і цягнуць з воза, лаюць і б'юць.

Бачыць ён, што кепскія справы, і ціхенька:

– Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню –

ану, дубінка, палічы ім рэбры...

Дубінка выскачыла – і давай малаціць. Народ кінуўся наўцёкі, а Ямеля прыехаў дадому і залез на печ.

Многа часу прайшло ці не – пачуў цар, якія штукі Ямеля вытварае, і пасылае па яго афіцэра: знайсці Ямелю і прывезці ў палац.

Прыязджае афіцэр у тую вёску, заходзіць у тую хату, дзе Ямеля жыве, і пытаецца:

– Ты дурань Ямеля?

А ён з печы:

– А табе што?

– Апранайся хутчэй, я павязу цябе да цара.

– А мне не хочацца...

Раззлаваўся афіцэр і плясь яго па шчацэ.

А Ямеля кажа ціхенька:

– Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню –

дубінка, палічы яму рэбры…

Дубінка выскачыла – і давай малаціць афіцэра, ледзьве ён уцёк.

Цар здзівіўся, што яго афіцэр не мог справіцца з Ямелем, і пасылае свайго самага галоўнага вяльможу:

– Прывязі да мяне ў палац дурня Ямелю, а то галаву з плеч здыму.

Накупляў самы галоўны вяльможа разынак, чарнасліву, пернікаў, прыехаў у тую вёску, зайшоў у тую хату і пачаў пытаць у братавых, што любіць Ямеля.

– Наш Ямеля любіць, калі яго ласкава папросяць ды чырвоны каптан паабяцаюць падарыць,– тады ён усё зробіць, што ні папросіш.

Самы галоўны вяльможа даў Ямелю разынак, чарнасліву, пернікаў і кажа:

– Ямеля, Ямеля, што ты ляжыш на печы? Паедзем да цара.

– Мне і тут цёпла…

– Ямеля, Ямеля, у цара цябе будуць добра карміць-паіць – калі ласка, паедзем!

– А мне не хочацца…

– Ямеля, Ямеля, цар табе чырвоны каптан падарыць, Шапку і боты.

Ямеля падумаў-падумаў:

– Ну добра, едзь ты ўперад, а я за табою следам.

Паехаў вяльможа, а Ямеля паляжаў яшчэ і кажа:

– Па шчупаковаму Казанню,
Па майму жаданню –

ану, печ, едзь да цара…

Тут у хаце вуглы затрашчалі, страха захісталася, сцяна вылецела. і печ сама пайшла па вуліцы, па дарозе, проста да цара.

Цар глядзіць у акно, дзівіцца:

– Гэга што за цуд?

Самы галоўны вяльможа адказвае яму:

– А гэта Ямеля на печы да цябе едзе.

Выйшаў цар на ганак:

Нешта, Ямеля, на цябе многа скаргаў! Ты многа народу падушыў.

– А чаго яны пад сані лезлі?

У гэты час праз акно на яго глядзела царская дачка – Мар’я-царэўна. Ямеля ўбачыў яе ў акенцы і кажа ціхенька:

– Па шчупаковаму казанню,

Па майму жаданню –

няхай царская дачка мяне пакахае...

І сказаў яшчэ:

– Ідзі, печ, дадому...

Печ павярнулася і пайшла дадому, увайшла ў хату і стала на сваё месца. Ямеля зноў ляжыць-палежвае.

А ў цара ў палацы крык ды слёзы. Мар'я-царэўна па Ямелю сумуе, не можа жыць без яго, просіць бацьку, каб аддаў ён яе за Ямелю замуж. Тут цар забедаваў, затужыў і кажа зноў самаму галоўнаму вяльможу:

– Ідзі, прывядзі да мяне Ямелю жывога ці мёртвага, а то галаву з плеч здыму.

Накупляў самы галоўны вяльможа вінаў салодкіх ды розных закусак; паехаў у тую вёску, зайшоў у тую хату і пачаў Ямелю частаваць.

Ямеля напіўся, наеўся, ап'янеў і лёг спаць. А вяльможа палажыў яго на павозку і па вёз да цара.

Цар тут жа загадаў прыкаціць вялікую бочку з

жалезнымі абручамі. У яе пасадзілі Ямелю і Мэр'ю-царэўну, засмалілі і бочку ў мора кінулі.

Прачнуўся Ямеля, бачыць – цёмна, цесна.

– Дзе ж гэта я?

А яму адказваюць:

– Нудна і млосна, Ямелька! Нас у бочку засмалілі, кінулі ў сіняе мора.

– А ты хто?

– Я Мар'я-царэўна.

Ямеля кажа:

– Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню–

ветры буйныя, выкаціце бочку на сухі бераг, на жоўты пясок...

Ветры буйныя падзьмулі, мора захвалявалася, бочку выкінула на сухі бераг, на жоўты пясок. Ямеля і Мар'я-царэўна выйшлі з яе.

– Ямелька, дзе ж мы будзем жыць? Пабудуй хоць якую-небудзь хатку.

– А мне не хочацца...

Тут яна пачала яшчэ больш яго прасіць, ён і кажа:

– Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню –

пабудуйся мураваны палац з залатым дахам...

Толькі ён сказаў – з'явіўся мураваны палац з залатым дахам. Вакол – зялёны сад; кветкі цвітуць і птушкі пяюць. Мар'я-царэўна з Ямелем увайшлі ў палац, селі каля акна.

– Ямелька, а ці нельга каб ты прыгожым стаў?

Тут Ямеля, доўга не думаючы:

– Па шчупаковаму казанню,
Па майму жаданню –

стаць мне добрым малайцом, прыгожым удальцом...

І зрабіўся Ямеля такім, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.

А на той час цар ехаў на паляванне. Бачыць ён – стаіць палац, дзе раней нічога не было.

– Гэта хто пасмеў без майго дазволу на маёй зямлі палац паставіць?

І паслаў спытаць-распытаць, хто такія.

Пасланцы пабеглі, сталі пад акном, пытаюцца.

Ямеля ім адказвае:

– Прасіце цара да мяне ў госці, я сам яму скажу.

Цар прыехаў да яго ў госці. Ямеля яго сустракае,

вядзе ў палац, садзіць за стол. Пачынаюць яны баляваць. Цар есць, п'е і надзівіцца не можа:

– Хто ж ты такі, добры малойца?

– А памятаеш дурня Ямелю, што прыязджаў да цябе на печы, а ты загадаў яго са сваёю дачкою ў бочку засмаліць, у мора кінуць? Я – той самы Ямеля. Захачу – усё тваё царства спалю і спустошу.

Цар вельмі спалохаўся, пачаў прабачэння прасіць:

– Жаніся з маёй дачкой, Ямелька, бяры маё царства, толькі не губі мяне!

Тут наладзілі банкет на ўвесь свет. Ямеля ажаніўся з Мар'яй-царэўнай і пачаў кіраваць царствам.

Тут і казцы канец, а хто слухаў – маладзец.

## КАЗКА ПРА СЯРЭБРАНЫ СПОДАЧАК І НАЛІЎНЫ ЯБЛЫЧАК

Жылі-былі селянін з жонкаю. У іх было тры дачкі, усе тры красуні. Старэйшыя дзве – гультайкі, ім бы ўсё сядзець ды ў строі прыбірацца, харашыцца; а трэцяя, малодшая, Алёнка – працавітая і сціплая. Прыгажэйшая за ўсіх сясцёр была Алёнка.

Пра ўсё клапоціцца Алёнка: і ў хаце прыбярэ, і абед згатуе, і

агарод праполе, і вады прынясе. З бацькамі яна была ласкавая, да людзей прыветлівая. Любілі яе маці з бацькам больш за ўсіх дачок. А ад гэтага старэйшых сясцёр зайздрасць брала.

Аднойчы паехалі бацька з маці на поле. Падышла да іх дома бедная бабулька і папрасіла хлеба. Старэйшыя сёстры з ёю і гаварыць не захацелі, а Алёнка вынесла бабульцы булку белую і правяла яе за вароты.

– Дзякуй табе, дзяўчына,– сказала бабулька.– За дабрыню тваю вось табе парада: паедзе твой бацюхна на кірмаш, папрасі яго купіць табе для пацехі сярэбраны сподачак ды наліўны яблычак. Будзеш качаць яблычак па сподачку ды прымаўляць:

Каціся, каціся, яблычак,
Па сярэбраным сподачку,
Пакажы ты мне на сподачку
Гарады і нівы,
І лясы, І моры,
І гор вышыню,
І нябёс харашыню.

А як здарыцца бяда з табою, дзяўчына,– памагу табе. Запомні: жыву я на краі лесу дрымучага і ісці да мае хаткі роўна тры дні і тры ночы.

Сказала бабулька гэтыя словы і пайшла ў лес.

Многа ці мала часу мінула, сабраўся селянін на Кірмаш ехаць.

Пытаецца ён у дачок:

– Якіх вам гасцінцаў купіць?

Адна дачка просіць:

– Купі мне, бацюхна, кумачу на сарафан.

Другая кажа:

– Купі мне паркалю ўзорыстага.

А Алёнка просіць:

– Дарагі мой любы бацюхна, купі мне сярэбраны сподачак ды наліўны яблычак.

Паабяцаў селянін дочкам выканаць іхнія просьбы і паехаў.

Вярнуўся ён з кірмашу, прывёз дочкам гасцінцы: адной–кумачу на сарафан, другой – паркалю ўзорыстага, а Алёнцы – сярэбраны сподачак ды наліўны яблычак. Старэйшыя сёстры радуюцца падарункам, а з Алёнкі смяюцца ды чакаюць, што яна будзе рабіць з сярэбраным сподачкам і наліўным яблычкам.

А там не есць яблычак, села ў куточык, качае яблычак па сподачку і прымаўляе:

– Каціся, каціся, яблычак,

Па сярэбраным сподачку,
Пакажы ты мне па сподачку
Гарады і ніны,
І лясы, і моры,
І гор вышыню,
І нябёс харашыню.

Коціцца яблычак па сподачку, наліўны на сярэбраным, а на сподачку ўсе гарады відаць, сёлы сярод ніў шырокіх, караблі на морах далёкіх, і гор вышыня, і нябёс харашыня, яснае сонейка са светлым месячыком кружацца, зоркі ў карагоды збіраюцца; так усё цудоўна, што ні ў казцы сказаць, ні пяром напісаць.

Загледзеліся сёстры, узяла іх зайздрасць, захацелі яны вымантачыць у Алёнкі сподачак з яблычкам. Але Алёнка ні на што не хоча мяняцца.

Задумалі тады сёстры забраць у яе сподачак і яблычкам ашуканствам ды сілаю. Пахаджваюць, падгаворваюць:

– Галубка Алёнка! Хадзем у лес па ягады, суніц назбіраем.

Згадзілася Алёнка, аддала сподачак з яблычкам бацьку і пайшла з сёстрамі ў лес.

Па лесе Алёнка блукае, ягады збірае, а сёстры ўсё далей яе вядуць. Завялі ў гушчар, напалі на Алёнку, забілі і пад бярэзінкай пахавалі, а да бацькі з маці позна ўвечары прыйшлі і кажуць:

– Алёнка ад нас уцякла і прапала. Мы ўвесь лес абышлі, так і не знайшлі. Мабыць, яе ваўкі з'елі.

Горка заплакалі бацька і маці, а сёстры просяць у бацькі сподачак і яблычак.

– Не,– адказвае ён ім,– нікому я не аддам сподачак з яблычкам. Няхай будуць яны мне на ўспамін аб Алёнцы, дачцэ маёй любімай.

Паклаў яблычак са сподачкам у куфэрак і замкнуў.

Мінула нямала часу. Гнаў на досвітку пастушок паўз лес чараду авечак. Адна авечка адстала і зайшла ў лес. Пайшоў пастушок па лесе авечку шукаць. Бачыць – стаіць стройная белая бярэзінка, а пад ёю пагорачак, а на ім кветкі ярка-чырвоныя, блакітныя, а над кветкамі чарацінка.

Зрэзаў пастушок чарацінку, зрабіў дудачку і – дзіва дзіўнае, цуд, ды годзе – дудачка сама спявае, вымаўляе:

– Іграй, іграй, пастушок,
Іграй ціхенька,
Іграй хорашанька.
Мяне, бедную, забілі,
Пад бярэзінку палажылі,

За сярэбраны сподачак,
За наліўны яблычак.

Прыйшоў пастушок у вёску, а дудачка ўсё спявае сваю песеньку.

Людзі слухаюць – дзівяцца, пастушка распытваюць.

– Людзі добрыя,– кажа пастушок,– нічога я не ведаю. Шукаў я ў лесе авечку і ўбачыў пагорачак, на пагорачку кветкі, над кветкамі чарацінка. Зрэзаў я чарацінку, зрабіў сабе дудачку, а дудачка сама спявае, вымаўляе.

Здарылася так, што былі тут якраз бацька і маці Алёнкі, і пачулі яны словы пастушка. Схапіла маці дудачку, а дудачка сама спявае, вымаўляе:

– Іграй, іграй, родная мамачка,
Іграй ціхенька,
Іграй хорашанька.
Мяне, бедную, забілі,
Пад бярэзінку палажылі,
За сярэбраны сподачак,
За наліўны яблычак.

Сціснулася сэрца ў бацькі і ў маці, як пачулі яны гэтыя словы.

– Вядзі нас, пастушок,– сказаў бацька,– туды, дзе ты зрэзаў чарацінку.

Пайшлі бацька з маці за пастушком у лес, і людзі з імі пайшлі. Убачылі пад бярэзінкай пагорачак з кветкамі ярка-чырвонымі, блакітнымі. Пачалі разграбаць пагорачак і знайшлі забітую Алёнку.

Пазналі бацька з маці дачку сваю любімую і заплакалі слязьмі несуцешнымі.

– Людзі добрыя,– пытаюцца яны,– хто забіў, загубіў яе?

Узяў тут бацька дудачку, а яна спявае, вымаўляе:

– Іграй, іграй, родны татачка,
Іграй ціхенька,
Іграй хорашанька.
Мяне сёстры ў лес завабілі,
Мяне, бедную, забілі,
Пад бярэзінку палажылі,
За сярэбраны сподачак,
За наліўны яблычак.
Ты пайдзі, пайдзі, любы бацюхна,
На край лесу дрымучага,

Там стаіць хатка драўляная,
У ёй жыве бабулька добрая,
Дасць жывой вады яна ў пляшачцы.
Як апырскаеш мяне той вадзіцаю –
Я прачнуся-абуджуся ад сну цяжкага,
Ад сну цяжкага, ад сну мёртвага.

Пайшлі тады бацька з маці на край лесу дрымучага. Ішлі яны роўна тры дні і тры ночы і дайшлі да лясной хаткі. Выйшла на ганак старэнькая бабулька. Папрасілі ў яе маці з бацькам жывой вады.

– Памагу я Алёнцы,– гаворыць бабулька,–за яе сэрца добрае.

Дала яна ім пляшачку з жывой вадою і кажа:

– Усыпце ў пляшачку жменьку роднай зямлі – без гэтага вада не будзе мець сілы.

Да зямлі пакланіліся, падзякавалі бабульцы бацька з маці і пайшлі назад.

Прыйшлі ў вёску, усыпалі, як наказвала бабулька, жменьку роднай зямлі ў пляшачку з жывою вадою, узялі з сабою сясцёр-ліхадзеек і ў лес пайшлі. І людзі пайшлі з імі.

Прыйшлі ў лес. Апырскаў бацька дачку жывою вадою– ажыла Алёнка. А сёстры-ліхадзейкі спалохаліся, бялейшыя за палатно зрабіліся і ва ўсім прызналіся. Схапілі іх людзі, звязалі і прывялі ў вёску.

Тут сабраўся народ. І парашылі пакараць сясцёр-ліхадзеек караю страшнаю – прагнаць іх з роднай зямлі. Так і зрабілі.

А Алёнка зноў пачала жыць з бацькам, з маці, і любілі яны яе яшчэ мацней, чым раней.

Жылі сабе, былі сабе,– жыў дзед ды з другою жонкаю. У дзеда была дачка, і ў бабы была дачка.

Усе ж ведаюць, як з мачыхаю жыць: пераступіш – біта і недаступіш – біта. А родная дачка што ні робіць – за ўсё па галоўцы гладзяць: разумніца.

Падчарка і скаціну паіла-карміла, дровы і ваду ў хату насіла, у печы паліла, хату мяла – яшчэ зацемна… Нічым старой не дагодзіш– усё не так, усё кепска.

Вецер хоць пашуміць, ды сціхне, а старая баба разыдзецца – не скора сунімецца. Вось мачыха і надумалася падчарку са свету зжыць.

– Вязі, вязі яе, стары,– кажа дзеду,– куды хочаш, каб мае вочы яе не бачылі! Вязі яе ў лес, на люты мароз.

Дзед забедаваў, заплакаў, ды што зробіш – няма рады з ліхою бабаю. Запрог каня:

– Садзіся, дачка любая, у сані.

Павёз небараку ў лес, скінуў у гурбу пад вялікую яліну і паехаў Дахаты.

Дзяўчына сядзіць пад ялінай, дрыжыць, холад яе даймае. Раптам чуе – непадалёку Марозка па ялінах патрэсквае, з яліны на яліну пераскаквае, палусквае.

Апынуўся на той яліне, пад якой дзяўчына сядзіць, і пытаецца ў яе зверху:

– Ці цёпла табе, дзеўчына?

– Цёпла, Марозухна, цёпла, бацюхна.

Марозка пачаў ніжэй спускацца, мацней патрэсквае, палусквае:

– Ці цёпла табе, дзеўчына? Ці цёпла табе, прыгожая?

А беднай дзяўчыне і дух ад холаду займае:

– Цёпла, Марозухна, цёпла, бацюхна.

Марозка яшчэ ніжэй спусціўся, яшчэ мацней затрашчаў, залускаў:

– Ідзі цёпла табе, Дзеўчына? Ці цёпла табе, прыгожая? ЦІ цёпла табе, ягадка?

Дзяўчына дубець пачала, ледзь-ледзь языком варочае:

– Ой, цёпла, галубок Марозухна!

Тут Марозка пашкадаваў дзяўчыну, захутаў яе ў цёплыя футры, сагрэў пуховымі пярынамі.

А мачыха па ёй памінкі ўжо спраўляе, пячэ бліны і крычыць дзеду:

– Ідзі, стары пень, вязі сваю Дачку хаваць!

Паехаў дзед у лес, пад'язджае да таго месца – пад

вялікай ялінай сядзіць яго дачка, вясёлая, румяная, у сабаліным футры, уся ў золаце, у серабры, і каля яе – куфар з багатымі падарункамі.

Дзед узрадаваўся, паклаў усё дабро ў сані, пасадзіў Дачку, павёз дахаты.

А дома баба пячэ бліны, а сабачка пад сталом:

– Цяў, цяў! Дзедаву дачку ў золаце, у серабры вязуць, а бабіну замуж не бяруць.

Баба кіне яму блін:

– Не так цяўкаеш! Кажы: «Бабіну дачку замуж бяруць, а дзедавай костачкі вязуць...»

Сабака з'есць блін і зноў:

– Цяў, цяў! Дзедаву дачку ў золаце, у серабры вязуць, а бабіну замуж не бяруць.

Баба бліны яму кідала і біла яго, а сабачка – усё сваё...

Раптам зарыпелі вароты, адчыніліся дзверы, у хату ідзе падчарка – у золаце-серабры, так і зззяе. А за ёю нясуць куфар высокі ды цяжкі. Баба глянула – і рукі развяла...

– Запрагай, стары пень, другога каня! Вязі маю дачку ў лес ды пасадзі на тое ж месца…

Дзед пасадзіў бабіну дачку ў сані, павёз яе ў лес на тое ж самае месца, вываліў у гурбу пад высокай ялінай і паехаў дахаты.

Бабіна дачка сядзіць, зубамі ляскае.

А Марозка па лесе патрэсквае, з яліны на яліну пераскаквае, палусквае, на бабіну дачку паглядвае:

– Ці цёпла табе, дзеўчына?

А яна яму:

– Ой, холадна! Не скрыпі, не трашчы, Марозка…

Марозка пачаў ніжэй спускацца, мацней патрэскваць, палускваць:

– Ці цёпла табе, дзеўчына? Ці цёпла табе, прыгожая?

– Ой, рукі, ногі адмерзлі! Ідзі прэч, Марозка…

Яшчэ ніжэй спусціўся Марозка, яшчэ мацней прыціснуў, затрашчаў, залускаў:

– Ці цёпла табе, дзеўчына? Ці цёпла табе, прыгожая?

– Ой, зусім застудзіў! Згінь, прападзі, пракляты Марозка!

Раззлаваўся Марозка ды так прыціснуў, што бабіна дачка зусім адубела.

Толькі днець пачало, баба пасылае дзеда:

– Запрагай хутчэй, стары пень, едзь па дачку, прывязі яе ў золаце-серабры…

Дзед паехаў. А сабачка пад стадом:

– Цяў, цяў! Дзедаву дачку жаніхі забяруць, а бабінай дачкі ў мяху костачкі вязуць.

Баба кінула яму пірог:

– Не так цяўкаеш! Скажы: «Бабіну дачку ў золаце-серабры вязуць…»

А сабачка–усё сваё:

– Цяў, цяў! Бабінай дачкі ў мяху костачкі вязуць.. Зарыпелі вароты, баба кінулася сустракаць дачку.

Посцілку падняла, а дачка ляжыць у санях мёртвая. Загаласіла баба, ды позна.

## СІЎКА-БУРКА

Было ў старога бацькі тры сыны: два разумныя, а трэці Іванка дурны; дзень і ноч дурань на печы сядзеў.

Пасеяў бацька пшаніцу, і вырасла пшаніца добрая, ды панадзіўся хтосьці ўночы тую пшаніцу таптаць-дратаваць. Вось бацька і кажа дзецям:

– Любыя мае дзеткі, пільнуйце пшаніцу кожную ноч па чарзе,

злавіце мне злодзея.

Надыходзіць першая ноч. Пайшоў старэйшы сын пшаніцу пільнаваць, ды захацелася яму спаць: залез ён на вышкі і праспаў на сене да раніцы. Прыходзіць раніцай дадому і кажа: усю ноч, маўляў, не спаў, ад холаду дрыжаў, а злодзея так і не бачыў.

На другую ноч пайшоў сярэдні сын і таксама ўсю ночку праспаў.

На трэцюю ноч прыходзіць чарга дурню ісці. Узяў ён аркан і пайшоў. Прыйшоў на мяжу і сеў на камень сядзіць – не спіць, злодзея чакае.

А самай апоўначы прыбег на пшаніцу разнамасны конь: адна шарсцінка залатая, другая сярэбраная; бяжыць – зямля дрыжыць, з вушэй дым валам валіць, з ноздраў полымя шугае.

І пачаў той конь пшаніцу есці: не так есць, як травіць, дратуе.

Падкраўся дурань цішком да каня ды і накінуў яму на шыю аркан. Ірвануўся конь з усяе сілы – ды дзе там. Дурань упёрся, аркан шыю цісне. І пачаў тут конь дурня прасіць-маліць:

– Адпусці ты мяне, Іванка, а я табе вялікую службу саслужу!

– Добра,– адказвае Іванка-дурань.– Ды як я цябе потым знайду?

– Выйдзі за ваколіцу,–кажа конь,–свісні тры разы і гукні: «Сіўка-бурка, слаўны буланы! Стань перада мной, як ліст перад травой!» – я тут і буду.

Адпусціў каня Іванка-дурань і ўзяў з яго слова – пшаніцы больш не травіць і не таптаць.

Прыйшоў Іванка дадому.

– Ну, што, дурань, бачыў? – пытаюцца браты.

– Злавіў я,– кажа Іванка,– разнамаснага каня. Паабяцаў ён больш не травіць пшаніцу – вось я яго і адпусціў.

Пасмяяліся ўволю браты з дурня, толькі ўжо з гэтай ночы ніхто больш пшаніцы не дратаваў.

Неўзабаве пасля гэтага пачалі па вёсках і гарадах вяшчальнікі ад цара хадзіць, кліч клікаць: збірайцеся, маўляў, баяры ды дваране, купцы ды мяшчане і простыя сяляне, усе да цара на свята, на тры дні; бярыце з сабою найлепшых коней; і хто на сваім кані да царэўнінага церама даскочыць і з царэўнінай рукі пярсцёнак здыме, за таго цар царэўну замуж аддасць.

Пачалі збірацца на свята і Іванкавы браты; не тое каб ужо самім скакаць, а хоць на іншых паглядзець. Просіцца і Іванка з імі.

– Куды табе, дурань!–кажуць браты. – Людзей напужаць хочаш, ці што? Сядзі сабе на печы ды попел перасыпай.

Паехалі браты; а Іванка-дурань узяў у братавых Лубянку і пайшоў грыбы збіраць. Выйшаў Іванка ў поле, Лубянку кінуў,

свіснуў тры разы і гукнуў: «Сіўка-бурка, слаўны буланы! Стань перада мной, як ліст перад травой!» Конь бяжыць – зямля дрыжыць, з вушэй полымя, з ноздраў дым слупам валіць. Прыбег – і стаў конь перад Іванкам як укопаны.

– Ну,– кажа,– залазь мне, Іванка, у правае вуха, а праз левае вылезь.

Залез Іванка каню ў правае вуха, праз левае вылез – і зрабіўся такім малайцом, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.

Сеў тады Іванка на каня і памчаўся на свята да цара, Прымчаўся на плошчу перад палацам, бачыць – народу процьма; а ў высокім цераме, каля акна, царэўна сядзіць, на руцэ пярсцёнак – цаны яму няма, сама красуня з красуняў. Ніхто да яе скакаць і не думае, нікому не хочацца на злом галавы кідацца.

Сцебануў тут Іванка свайго каня па сцёгнах, узлаваўся конь, скочыў – усяго на тры вянцы да акна царэўны не даскочыў.

Здзівіўся народ, а Іванка завярнуў каня і памчаўся назад. Браты яго не адразу збочылі, дык ён іх шаўковым бізуном хвасянуў. Крычыць народ: «Лаві, лаві яго!» – а Іванкаў ужо і след прастыў.

Выехаў Іван з горада, злез з каня, залез яму ў левае вуха, праз правае вылез і стаў зноў, як і быў, Іванкам-дурнем**.** Адпусціў Іванка каня, назбіраў лу янку мухамораў і прынёс дадому.

– Вось вам, гаспадынькі, грыбкоў,– кажа.

Раззлаваліся тут братавыя на Івана:

– Якія ты, дурань, грыбы прынёс? Хіба ты сам іх есці будзеш?

Усміхнуўся Іван і зноў на печ палез.

Прыйшлі браты дадому і расказваюць бацьку, як яны ў горадзе былі і што бачылі, а Іванка ляжыць на печы ды пасміхаецца.

На другі дзень старэйшыя браты зноў на свята паехалі, а Іванка ўзяў Лубянку і пайшоў у грыбы. Выйшаў у поле, свіснуў, гаркнуў: «Сіўка-бурка, слаўны буланы! Стань перада мной, як ліст перад травой!» Прыбег конь і стаў перад Іванкам як укопаны. Пераапрануўся зноў Іван і памчаўся на плошчу. Бачыць – на плошчы народу яшчэ больш, чым учора было; усе на царэўну любуюцца, а скакаць ніхто і не думае: каму ахвота сабе карак ламаць!

Сцебануў тут Іванка свайго каня па сцёгнах; узлаваўся конь, скочыў – і ўсяго на два вянцы да акна царэўны не даскочыў. Завярнуў Іванка каня, хвасянуў братоў, каб дарогу далі, і памчаўся прэч.

Прыходзяць браты дадому, а Іванка ўжо на печы ляжыць, слухае, што браты расказваюць, і насміхаецца.

На трэці дзень зноў браты паехалі на свята, прымчаўся і

Іванка. Сцебануў ён свайго каня бізуном. Узлаваўся конь яшчэ мацней, скочыў – і дастаў да акна. Іванка пацалаваў царэўну ў вусны мядовыя, схапіў з яе пальца пярсцёнак, завярнуў каня і памчаўся прэч, не забыўшы братоў бізуном агрэць. Тут ужо і цар і царэўна закрычалі: «Лаві, лаві яго!» – а Іванкаў і след прастыў.

Прыйшоў Іванка дадому – адна рука анучкай абкручана.

– Што гэта ў цябе такое? – пытаюцца ў Івана братавыя.

– Ат,– кажа,– шукаў грыбы, на сучок укалоўся.– І палез Іван на печ.

Прыйшлі браты, пачалі расказваць, што і як было.

А Іванку на печы захацелася на пярсцёнак паглядзець: як прыўзняў ён анучку, усю хату нібы агнём асвяціла.

– Кінь, дурань, з агнём забаўляцца! – крыкнулі на яго браты.– Яшчэ хату спаліш. Пара цябе, дурня, зусім з дому прагнаць.

Дні праз тры ідзе ад цара кліч, каб увесь народ, колькі ні ёсць у царстве, збіраўся да яго на банкет і каб ніхто не пасмеў дома заставацца, а хто царскім банкетам пагрэбуе – таму галаву з плеч.

Нічога тут не зробіш; пайшоў на банкет сам стары бацька з усёю сям'ёю.

Прыйшлі, за сталы дубовыя паселі; п'юць і ядуць, гамонку вядуць.

Пад канец банкету пачала царэўна мёдам са сваіх рук гасцей абносіць. Абышла ўсіх, падыходзіць да Іванкі апошняга; а на дурню ж адзенне беднае, увесь у сажы, валасы дыбам, адна рука бруднай анучкай завязана... проста жах.

– Чаму гэта ў цябе, малойца, рука абвязана? – пытаецца царэўна.– Ану развяжы.

Развязаў Іванка руку, а на пальцы пярсцёнак царэўны – так усіх і асвяціў.

Узяла тады царэўна дурня за руку, падвяла да бацькі і кажа:

– Вось, бацюхна, мой суджаны.

Абмылі слугі Іванку, прычасалі, прыбралі ў царскія ўборы, і зрабіўся ён такім малайцом, што бацька і браты глядзяць – і вачам сваім не вераць.

Згулялі вяселле царэўны з Іванкам і справілі банкет на ўвесь свет. Я там быў: мёд, піва піў; па вусах цякло, а ў рот не папала.

## КУЗЬМА СКОРАБАГАТЫ

Жыў-пажываў Кузьма адзін-адзінюткі ў цёмным лесе. Ні скінуць, ні надзець у яго нічога не было, а каб падаслаць – дык і не заводзіў.

Вось паставіў ён пастку. Раніцай пайшоў паглядзець –

трапіла лісіца.

– Ну, лісіцу цяпер прадам, грошы за яе вазьму, дык і жаніцца буду.

Лісіца яму кажа:

– Кузьма, адпусці мяне, я табе за гэта ўдружу, зраблю цябе Кузьмом Скорабагатым, толькі ты засмаж мне адну курачку з масліцам – чым тлусцей.

Кузьма згадзіўся. Засмажыў курачку. Лісіца наелася мяса, пабегла ў царскія запаведныя лугі і давай на тых запаведных лугах качацца.

– У-у-у! У цара была ў гасцях, што хацела – піла і ела; заўтра клікалі, зноў пайду.

Бяжыць воўк і пытаецца:

– Чаго, кума, качаешся, брэшаш?

– Як жа мне не качацца, не брахаць! У цара была ў гасцях, што хацела – піла і ела; заўтра клікаў, зноў пайду.

Воўк і просіць:

– Лісічка, можа, ты і мяне к цару на абед звадзіла б?

– Будзе цар дзеля аднаго цябе турбавацца! Збірайцеся вы – сорак ваўкоў, тады павяду вас у госці да цара.

Воўк пачаў па лесе бегаць, ваўкоў збіраць. Сабраў сорак ваўкоў, прывёў іх да лісы, і лісіца павяла іх да цара.

Прыйшлі да цара, лісіца забегла наперад і кажа:

– Цар, добры чалавек Кузьма Скорабагаты кланяецца табе сарака ваўкамі.

Цар зарадаваўся, загадаў усіх ваўкоў загнаць у загарадзь, замкнуць моцна. Сам думае: «Багаты чалавек

Кузьма!»

А лісіца пабегла да Кузьмы. Загадала засмажыць яшчэ адну курачку з масліцам – чым тлусцей, паабедала сытна і прыпусціла на царскія запаведныя лугі.

Качаецца, валяецца па запаведных лугах. Бяжыць міма мядзведзь, убачыў лісіцу і кажа:

– Эге ж, праклятая хвастамеля, як нажэрлася!

А лісіца яму:

– У-у-у! У цара была ў гасцях, што хацела – піла і ела; заўтра клікалі, зноў пайду.

Мядзведзь пачаў прасіць:

– Лісічка, можа, ты і мяне к цару на абед зводзіш?

– Для аднаго цябе цар і турбавацца не захоча. Збяры сорак чорных мядзведзяў – павяду вас у госці да цара.

Мядзведзь пабег у дуброву, сабраў сорак чорных мядзведзяў, прывёў іх да лісіцы, і лісіца павяла іх да цара. Сама забегла наперад і кажа:

– Цар, добры чалавек Кузьма Скорабагаты кланяецца табе сарака мядзведзямі.

Цар вельмі гэтаму зарадаваўся, загадаў загнаць мядзведзяў і замкнуць моцна. Сам думае: «Вось які багаты чалавек Кузьма!»

А лісіца зноў прыбегла да Кузьмы. І загадала засмажыць курачку з пеўнікам, з масліцам – чым тлусцей. З'ела на здароўе – і давай качацца ў запаведных лясах.

Бяжыць міма собаль з куніцай.

– Эх, хітрая ліса, дзе гэтак сытна наелася?

– У-у-у! у цара была ў гасцях, што хацела – піла і ела; заўтра клікалі, зноў пайду.

Собаль і куніца пачалі ўпрошваЦь лісіцу:

– Кумка, звадзі нас да цара! Мы хоць паглядзім, як банкетуюць.

Лісіца ім кажа:

– Збярыце сорак саракоў сабалёў ды куніц–павяду вас да цара.

Сагналі собаль і куніца сорак саракоў сабалёў і куніц. ЛісіЦа прывяла іх да Цара, сама забегла наперад:

– Цар, добры чалавек Кузьма Скорабагаты кланяецца табе сарака саракамі сабалёў ды куніц.

Цар не можа надзівіцца з багаЦЦя Кузьмы Скорабагатага. Загадаў і гэтых звяроў загнаць, замкнуць моцна.

«Ну,– думае,– вунь які багацей Кузьма!»

Назаўтра лісіца зноў прыбягае да Цара:

– Цар, добры чалавек Кузьма Скорабагаты загадаў табе кланяцца і просіць пазычыць вядро з абручамі – мерань сярэбраныя грошы. Свае ж вёдры ў яго золатам: занятыя.

Цар без лішніх слоў даў лісіцы вядро з абручамі. Лісіца прыбегла да Кузьмы і загадала мерань вядром пясок, каб вышараваць у вядра бок.

Як вышараваўся ў вядра бок, ажно зазіхацеў, лісіца заткнула за абручы некалькі манет і панесла назад цару.

Прынесла і пачала сватаць у яго прыгожую царэўну за Кузьму Скорабагатага.

Цар бачыць – грошай у Кузьмы многа, за абручы пазападалі, а ён і не прыкмеціў. Цар не адмаўляе, кажа Кузьму сабрацца і прыязджаць.

Паехаў Кузьма да цара. А лісіца наперад забегла і падгаварыла парабкаў падпілаваць мосцік.

Кузьма толькі ўз'ехаў на мосцік – ён разам з ім і абваліўся ў ваду.

Лісіца пачала крычаць:

– Вой! Вой! Прапаў Кузьма Скорабагаты!

Цар пачуў і зараз жа паслаў людзей перахапіць Кузьму. Вось яны перахапілі яго, а лісіца крычыць:

– Вой! Вой! Трэба Кузьму адзенне даць – якое найлепшае.

Цар даў Кузьму сваё адзенне святочнае.

Прыехаў Кузьма да цара. А цару ні піва варыць, ні віна гнаць не трэба – усё гатовае.

Павянчаўся Кузьма з царэўнай і жыве ў цара тыдзень, жыве другі.

– Ну,– кажа цар,– паедзем цяпер, шаноўны зяць, да цябе ў госці.

Кузьму няма чаго рабіць, трэба збірацца. Запрэглі коней і паехалі. А лісіца пабегла наперадзе. Бачыць – пастухі пасуць чараду авечак, яна ў іх пытаецца:

– Пастухі, пастухі! Чыю чараду пасяце?

– Змея Гарыныча.

– Гаварыце, што гэта чарада Кузьмы Скорабагатага, а то едуць цар Агонь і царыца Маланыца; калі не скажаце ім, што гэта чарада Кузьмы Скорабагатага, яны вас усіх з авечкамі спапяляць-спаляць.

Пастухі бачаць, што тут не жартачкі, і паабяцалі гаварыць пра Кузьму Скорабагатага, як лісіца навучыла.

А лісіца прыпусціла далей. Бачыць – другія пастухі пасуць кароў.

– Пастухі, пастухі! Чыю чараду пасяце?

– Змея Гарыныча.

– Гаварыце, што чарада гэтая Кузьмы Скорабагатага, а то едуць цар Агонь і царыца Маланыца: яны вас усіх з каровамі спапяляць-спаляць, калі будзеце ўспамінаць Змея Гарыныча!

Пастухі згадзіліся. Лісіца пабегла далей. Падбягае да табуна коней Змея Гарыныча, загадвае пастухам гаварыць, што гэты табун Кузьмы Скорабагатага:

– А то едуць цар Агонь ды царыца Маланыца: яны ўсіх вас з коньмі спапяляць-спаляць.

І гэтыя пастухі згадзіліся.

Лісіца бяжыць далей. Прыбягае да Змея Гарыныча проста ў белакаменны палац:

– Добры дзень, Змей Гарыныч!

– Што скажаш, лісічка?

– Ну, Змей Гарыныч, цяпер табе трэба як мага хутчэй хавацца. Едзе грозны цар Агонь ды царыца Маланыца, усё спапяляюць-паляць. Народы твае з пастухамі спапялілі-папалілі. Я хутчэй пабегла табе сказаць, што сама ледзь ад дыму не задыхнулася.

Змей Гарыныч зажурыўся:

– Ах, лісічка, куды ж мне падзецца?

– Ёсць у тваім садзе запаветны дуб, сярэдзіна ў ім уся выгніла; бяжы схавайся ў дубе, пакуль цар Агонь з царыцай Маланыцай міма не праедуць.

Змей Гарыныч ад страху схаваўся ў гэтае дупло, як лісіца навучыла.

Кузьма Скорабагаты едзе сабе ды едзе з царом ды з жонкай-царэўнай. Даязджаюць яны да чарады авечак. Царэўна пытаецца:

– Пастушкі, чыю чараду пасяце?

– Кузьмы Скорабагатага.

Цар гэтаму і рады:

– Ну, Шаноўны зяць, шмат жа ў цябе авечак!

Едуць далей, даязджаюць да чарады кароў.

– Пастушкі, чыю чараду пасяце?

– Кузьмы Скорабагатага.

– Ну, шаноўны зяць, шмат жа ў цябе кароў!

Едуць яны далей; пастухі коней пасуць.

– Чый табун?

– Кузьмы Скорабагатага.

– Ну, шаноўны зяцюхна, шмат жа ў цябе коней!

Вось прыехалі да палаца Змея Гарыныча.

Лісіца сустракае гасцей, нізка кланяецца, заводзіць іх у палац белакаменны, садзіць іх за сталы дубовыя, за абрусы ўзорыстыя.

Пачалі яны баляваць, піць-есці і весяліцца. Балююць дзень, балююць Другі, балююць яны тыдзень.

Лісіца і кажа Кузьму:

– Ну, Кузьма, досыць гуляць – трэба справу канчаць. Ідзі з царом у зялёны сад; у тым садзе стаіць стары дуб, а ў тым дубе сядзіць Змей Гарыныч, ён ад вас схаваўся. Расстраляй дуб на дробныя шматкі.

Кузьма пайшоў з царом у зялёны сад. Убачылі яны стары запаветны дуб, і пачалі яны ў той дуб страляць. Тут Змею Гарынычу і смерць прыйшла.

Кузьма Скорабагаты пачаў жыць-пажываць з жонкай-царэўнай у палацы белакаменным і лісічку кожны дзень частаваць курачкай.

## КАЗКА ПРА ВАСІЛІСУ ПРАМУДРУЮ

Жылі-дружылі мыш з вераб'ём. Роўна трыццаць гадоў сябравалі: хто што ні знойдзе – усё папалам.

Ды здарылася неяк раз – знайшоў верабей макавае зернетка.

«Што тут дзяліць? – думае.– Дзеўбанеш разік – і няма нічога».
Узяў ды і з'еў адзін усё зернетка.
Дазналася пра гэта мыш і не захацела больш дружыць з вераб'ём.
– Давай, –крычыць, – давай, зладзюга-верабей, біцца не на жыццё, а на смерць! Ты збірай усіх птушак, а я збяру ўсіх звяроў.
Дня не мінула, а ўжо сабралася на паляне войска звярынае. Сабралася і войска птушынае. Распачаўся вялікі бой, і шмат жыўнасці загінула з абодвух бакоў.
Вунь які дужы звярыны народ! Каго кіпцюром драпане – глядзіш, і дух вон! Ды птушкі не надта паддаюцца, б'юць усё зверху. Той ці другі звер і стукнуў бы птушку, аблажыў яе – дык яна адразу ўгору ўзлятае. Паспрабуй дай ёй рады! Пазірай толькі ўслед.
У тым баі паранілі арла. Хацеў ён узняцца ў вышыню, ды сілы не хапіла. Толькі і змог узляцець на сасну высокую. Узляцеў і сеў на вяршаліне.
Скончыўся бой. Звяры па сваіх бярлогах і норах разбрыліся. Птушкі па гнёздах разляцеліся. А ён сядзіць на сасне, збіты, зранены, і думае, як бы гэта назад вярнуць сваю ранейшую сілу.
А на той час ішоў міма паляўнічы.
Цалюткі дзень хадзіў ён па лесе, ды нічога не выхадзіў.
«Эх,– думае,– відаць, давядзецца мне сёння вяртацца дадому з пустымі рукамі».
Зірк, аж бачыць – сядзіць на дрэве арол. Пачаў пад яго падыходзіць, стрэльбачку на яго наводзіць.
«Якая б там ні была, а ўсё ж здабыча»,– думае.
Толькі зладзіўся, каб стрэліць, а арол кажа яму чалавечым голасам:
– Не бі мяне, добры чалавек' Заб'еш – мала будзе карысці. Лепей жывога мяне вазьмі ды пакармі тры гады, тры месяцы і тры дні. А я, як набяруся сілы ды адгадую крылы, дабром табе адплачу.
«Якога дабра ад арла чакаць?»–думае паляўнічы І прыцэліўся другі раз.
А паранены арол зноў просіць:
– Не бі мяне, добры чалавек! Калі-небудзь я табе спатрэблюся.
Не верыць паляўнічы і трэці раз стрэльбу падымае.
Трэці раз просіць яго арол:
– Не бі мяне, добры малойца, а вазьмі да сябе, раны мае загаі ды вылечы! Не зрабіў я табе нічога кепскага, а за дабро дабром адплачу.
Пашкадаваў паляўнічы арла, узяў яго і панёс дадому.
– Ну, добры чалавек,– кажа яму арол па дарозе,– цалюткі дзень хадзіў ты, ды нічога не выхадзіў. Бяры цяпер свой востры

нож ды ідзі на паляну. Быў у нас там бой вялікі з розным звяр'ём, і шмат мы тых звяроў пабілі. Будзе і табе спажыва немалая.

Пайшоў паляўнічы на паляну – а там зверыны пабітай страх колькі. Куніц ды лісіц не злічыць.

Навастрыў ён нож на бруску, аблупіў шкуры са звяроў, завёз у горад і прадаў за добрыя грошы. На тыя грошы купіў хлеба ў запас і насыпаў з верхам тры засекі – на тры гады хопіць.

Мінае адзін год–апусцеў адзін засек. Кажа арол паляўнічаму, каб ён вёз яго на тое самае месца, дзе сасна высокая стаіць.

Асядлаў паляўнічы каня і прывёз арла на тое месца.

Узвіўся арол за хмары і з разлёту стукнуў грудзьмі ў дрэва – раскалолася дрэва напалам.

– Ну, паляўнічы,– кажа арол,– не набраўся я яшчэ ранейшай сілы. Кармі мяне і другі год.

Дзень за днём прабягае – другі год мінае. Апусцеў і другі засек. Зноў прывёз паляўнічы арла ў лес, да высокай сасны.

Узвіўся арол за цёмныя хмары, разляцеўся-азагнаўся зверху ды як стукнецца грудзьмі ў дрэва. Раскалолася дрэва на чатыры часткі.

– Відаць, давядзецца табе, добры малойца, яшчэ год карміць мяне. Не набраўся я ранейшай сілы.

Вось мінула тры гады, тры месяцы і тры дні. Усе засекі апусцелі. Кажа арол паляўнічаму:

– Вязі мяне зноў на тое самае месца, да высокай. сасны.

Паслухаўся паляўнічы, прывёз арла да высокай сасны.

Узвіўся арол вышэй, чым раней, нібы пярун, грымнуў зверху ў самае вялікае дрэва – і разбіў яго на трэскі ад вяршаліны да кораня. Ажно ўвесь лес наўкол захістаўся.

– Дзякую табе, добры малойца! Цяпер вярнулася да мяне сіла ранейшая. Кідай ты каня ды садзіся на крылы мне. Панясу я цябе ў сваю родную старонку і расплачуся з табою за ўсё дабро.

Сеў паляўнічы арлу на крылы. Паляцеў арол на сіняе мора і падняўся высока-высока.

– Паглядзі,– кажа,– на сіняе мора: ці вялікае?

– З добрае кола,– адказвае паляўнічы.

Страпянуў арол крыламі і скінуў паляўнічага ўніз.

Даў яму зведаць смяртэльны страх і падхапіў, не дапусціў да вады.

Падхапіў і падняўся з ім яшчэ вышэй.

– Зірні цяпер на сіняе мора: ці вялікае?

– З курынае яйка,– адказвае паляўнічы.

Страпянуў арол крыламі і зноў скінуў паляўнічага

ўніз. Над самай вадой падхапіў яго і падняўся ўгору яшчэ куды вышэй.

– Ну, цяпер зірні на сіняе мора: ці вялікае?

– З макавае зернетка.

Трэці раз страпянуў арол крыламі і скінуў паляўнічага з паднябесся, ды зноў-такі не даў даляцець да вады, падхапіў на крылы і пытаецца:

– Што, добры малойца, спазнаў, які смяртэльны страх бывае?

– Спазнаў,– кажа паляўнічы.– Я ўжо думаў, канцы мне прыйшлі.

– Вось і я так думаў, калі ты ў мяне са стрэльбы цэліўся. Ну, цяпер мы з табой за нядобрае расквіталіся. Давай за дабро разлічвацца.

Паляцелі яны на бераг. Ляцелі нізка ці высока,

блізка ці далёка – аж бачаць: сярод поля медны слуп стаіць, быццам жар гарыць.

Апусціўся арол уніз.

– Ану, паляўнічы,– кажа ён,– чытай, што на слупе напісана.

Прачытаў паляўнічы: «За гэтым слупам медны горад ёсць – на дваццаць пяць вёрст удаўжкі і ўшыркі».

– Ідзі ў медны горад,– кажа арол.– Тут жыве сястра мая старэйшая. Пакланіся ёй і папрасі ў яе куфэрачак медны з меднымі ключыкамі. Ды нічога іншага не бяры – ні золата, ні серабра, ні камянёў-самацветаў.

Пайшоў паляўнічы ў медны горад, да царыцы Медзяніцы, арловай сястрыцы.

– Добры дзень, царыца! Брат паклон пасылае.

– Ды адкуль жа ты майго брата ведаеш?

– Так і так... Карміў я яго, хворага, зраненага, цэлыя тры гады, тры месяцы і тры дні.

– Дзякуй, добры чалавек. Вось табе золата, серабро, самацветы-камяні. Бяры колькі душа пажадае.

Нічога не бярэ паляўнічы, толькі просіць у царыцы медны куфэрачак з меднымі ключыкамі.

– Не, галубок! Не той бо? ды не на тую нагу надзяваеш. Дарага каштуе мой куфэрачак.

– А калі дарага, дык мне нічога не трэба.

Пакланіўся паляўнічы, выйшаў за гарадскія вароты

і расказаў арлу ўсё як ёсць.

Раззлаваўся арол, падхапіў паляўнічага і панёс-памчаў. Ляціць – шуміць у паднябессі.

– Ану,– кажа,– зірні, добры малойца, што ззаду творыцца і што наперадзе робіцца?

Паглядзеў паляўнічы і кажа:

– Ззаду вялікі пажар гарыць, наперадзе кветкі цвітуць.

– Гэта медны горад гарыць, а кветкі цвітуць у сярэбраным

горадзе.

Апусціўся арол пасярод поля каля сярэбранага слупа і загадвае паляўнічаму ,надпіс чытаць. Прачытаў паляўнічы: «За гэтым слупам стаіць горад сярэбраны – на

пяцьдзесят вёрст удаўжкі і ўшыркі».

– Тут жыве мая сярэдняя сястра,– кажа арол.– Папрасі ў яе сярэбраны куфэрачак з сярэбранымі ключыкамі.

Пайшоў паляўнічы ў горад – проста да царыцы, арловай сястрыцы. Расказаў ён, як жыў у яго тры гады, тры месяцы і тры дні яе брат, нядужы, зранены, як яго паіў, карміў, глядзеў, каб ён здароўе набыў. І папрасіў за ўсё за гэта сярэбраны куфэрачак і сярэбраныя ключыкі.

– Не,– кажа царыца,– не той кавалак хапаеш: чаго добрага – падавішся. Бяры колькі хочаш золата, серабра, камянёў-сама-цветаў, а куфэрачак мой дорага каштуе.

Пайшоў паляўнічы з сярэбранага горада і расказаў арлу ўсё як ёсць.

Раззлаваўся арол, падхапіў паляўнічага на крылы шырокія і паляцеў з ім прэч.

Зноў ляцяць у паднябессі:

– Ану, добры малойца, што ззаду і што наперадзе?

– Ззаду пажар гарыць, наперадзе кветкі цвітуць.

– Гэта гарыць сярэбраны горад, а кветкі цвітуць у залатым.

Апусціўся арол пасярод поля, каля залатога слупа. Кажа паляўнічаму, каб надпіс чытаў.

Прачытаў паляўнічы: «За гэтым слупам залаты горад стаіць– на сто вёрст ушыркі і ўдаўжкі».

– Ідзі туды,– кажа арол.– У гэтым горадзе жыве мая меншая сястра. Папрасі ў яе залаты куфэрачак з залатымі ключыкамі.

Пайшоў паляўнічы проста да царыцы, арловай сястрыцы. Расказаў, што ведаў, і папрасіў залаты куфэрачак з залатымі ключыкамі. Паслухала яго царыца, падумала, галавою паківала.

– Дарагі мой куфэрачак,– кажа,– а брат даражэйшы.

Пайшла і прынесла паляўнічаму залаты куфэрачак

з залатымі ключыкамі.

Узяў паляўнічы дарагі падарунак, пакланіўся царыцы і выйшаў за гарадскія вароты.

Убачыў арол, што збавіцель яго не з пустымі рукамі ідзе, і кажа:

– Ну, браце, ідзі цяпер дадому, ды глядзі – не адмыкай куфэрачка, пакуль да свайго двара не дойдзеш.

Сказаў і паляцеў.

Пайшоў паляўнічы дадому. Доўга ці не – надышоў ён да сіняга мора. Захацелася яму адпачыць. Сеў ён на беражок, на

жоўценькі пясок, а куфэрачак побач паставіў. Глядзеў на яго, глядзеў – не вытрываў і адамкнуў. Толькі адамкнуў – ні адсюль ні адтуль вырас перад ім залаты палац, ды такі прыгожы! З'явіліся слугі шматлікія: «Што трэба? Чаго пажадаеце?»

Паляўнічы наеўся, напіўся і спаць паваліўся.

Вось і раніца надышла. Трэба паляўнічаму далей ісці. Ды дзе там! Як палац сабраць ды зноў у куфэрачак схаваць? Думаў ён, думаў, нічога не прыдумаў. Сядзіць на беразе, бядуе. Раптам бачыць – падымаецца з вады чалавек: барада па пояс, валасы да пят. Стаў на вадзе і кажа:

– Чаго бядуеш, добры малойца?

– Як жа мне не бедаваць! – адказвае паляўнічы. Ніяк не дадумаюся, як мне вялізны палац ды ў маленькі куфэрачак сабраць?

– Дык я, бадай што, магу і ў тваёй бядзе памагу

вялізны палац у маленькі куфэрак збяру. Але толькі з умоваю: аддай мне тое, пра што ты ў сваім доме не ведаеш.

Задумаўся паляўнічы: «Пра што б гэта я ў сваім доме не ведаў? Здаецца, усё ведаю».

Узяў ды згадзіўся.

– Збяры,– кажа,– калі ласка. Аддам табе, пра што дома не ведаю.

Толькі вымавіў слова, а ўжо залатога палаца няма, нібыта і не было. Стаіць паляўнічы на беразе адзін-адзінюткі, а каля яго залаты куфэрачак з залатымі ключыкамі. Падняў ён свой куфэрачак і падаўся ў дарогу.

Доўга ці не – вярнуўся ў родны край. Заходзіць у хату, а жонка нясе яму насустрач малога, што без яго нарадзіўся.

«Дык вось,– думае паляўнічы,– пра што я ў сваім доме не ведаў!» І вельмі ён затужыў, зажурыўся.

– Любы мой,– пытае жонка,– скажы, чаго ты гэтак горка плачаш?

– Ад радасці,– адказвае.

Пабаяўся сказаць ёй праўду, што рана ці позна, а давядзецца сына немаведама каму аддаваць.

Пасля гэтага выйшаў на двор, адамкнуў свой куфэрачак залаты – вырас перад ім вялізны палац, ды такі прыгожы. З'явіліся слугі шматлікія. Расцвілі сады, разліліся сажалкі. У садах птушкі пяюць, у сажалках рыбкі плюскочуць.

І пачаў ён з жонкай і сынам жыць-пажываць ды дабро нажываць.

Мінула гадоў з дзесяць, а мо і больш.

Расце сынок у паляўнічага, як на дражджах,– не па днях, а па гадзінах. І вырас вялікі: разумны ды прыгожы, малайчына з

малайцоў.

Вось неяк раз пайшоў бацька па садэе пагуляць. Гуляў ён, гуляў і выйшаў да ракі.

І тут падняўся з вады той самы чалавек: барада па пояс, валасы да пят. Стаў на вадзе і кажа:

– Што ж ты, абяцаць заўжды гатоў і забываць заўжды гатоў? Успомні, ты ж мне вінаваты.

Вярнуўся паляўнічы дадому цямнейшы за чорную хмару і кажа жонцы:

– Колькі мы ні будзем трымаць пры сабе нашага Іванку, а аддаваць усё роўна трэба.

Узяў ён сына, вывеў за ваколіцу і пакінуў аднаго.

Агледзеўся Іванка наўкол, убачыў сцяжынку і пайшоў па ёй – авось куды-небудзь ды прывядзе. І прывяла яго сцяжынка ў дрымучы лес. Нідзе душы чалавечай не відаць. Толькі стаіць хатка адна-адзінюткая, на курынай лапцы, з адным акенцам, з высокім ганкам.

Стаіць, сама сабою пакручваецца.

– Хатка, хатка,– кажа Іван,– стань да лесу задам, да мяне перадам.

Паслухалася хатка, павярнулася, як ёй было сказана,– да лесу задам, да яго перадам.

Падняўся Іванка на высокі ганак, адчыніў дзверы рыпучыя.

Бачыць – сядзіць у хатцы баба-яга – касцяная нага. Сядзіць яна ў ступе, у заечым кажусе. Паглядзела на Іванку і кажа:

– Здароў, добры малойца. Адкуль ідзеш і куды? Работы шукаеш ці ад работы ўцякаеш?

– Эх, бабуся! Напаі, накармі, а потым роспыты чыні.

Яна ЯГО напаіла, накарміла, і расказаў ёй ІВанка ўсё

як ёсць.

– Кепскія твае справы, добры малойца,– кажа баба-яга.– Аддаў цябе бацька вадзяному Цару. А Цар вадзяны моцна гневаецца, што ты доўга да яго не паказваешся. Добра яшчэ, што па дарозе ты да мяне зайшоў, а то не быць бы табе жывому. Дык слухай жа, навучу цябе. Ідзі ты далей па гэтай жа Сцежачцы, што да мяне прывяла, праз лясы, цераз яры, цераз высокія горы. Пад канец дойдзеш да двух варотаў. Справа – вароты, і злева – вароты. Не ідзі ў тыя, што на завалу зачынены, ідзі ў тыя, што на замок замкнутыя. Пастукайся тры разы, і вароты самі адчыняцца. За варотамі – Сад-вінаград, а ў садзе – краса сажалка, а ў сажалцы дванаццаць сясцёр купаюцца. Зрабіліся яны шэрымі качачкамі, ныраюць Сабе, плёскаюцца, а сукенкі іх на беразе ляжаць. Адзінаццаць разам, а дванаццатая – асобна, збоку. Вазьмі ты гэтую сукенку і схавайся. От выйдуць з вады сястрыцы, адзенуцца

і пойдуць. Адзінаццаць пойдуць, а дванаццатая пачне плакаць, адзенне сваё шукаць. Не знойдзе і скажа: «Адгукніся, хто маю сукенку ўзяў, таму дачкою пакорнаю буду!» А ты маўчы. Яна зноў скажа: «Хто маю сукенку ўзяў, таму сястрыцаю ласкавай буду!» Ты ўсё маўчы. Тады яна скажа: «Хто маю сукенку ўзяў, таму жонкаю вернаю буду!» Як пачуеш такія словы, адгукніся і аддай ёй сукенку. А што далей будзе, пра тое не скажу. Сам даведаешся і мне раскажаш…

Пакланіўся Іван бабе-язе, развітаўся з ёю і пайшоў па сцяжынцы. Доўга ці не, у непагадзь ці пры добрай пагодзе – дайшоў да дваіх варотаў. Адчыніліся перад ім вароты, і ўбачыў ён сад-вінаград, а ў садзе – красу Сажалку, а ў сажалцы шэрыя качачкі купаюцца. Па сказаным, як па пісаным!

Падкраўся Іванка і забраў тую сукенку, што збоку ляжала. Забраў і схаваўся за дрэва.

Выйшлі качачкі з вады, зрабіліся дзяўчатамі – адна за другую прыгажэйшыя. А малодшая, дванаццатая, за ўсіх прыгажэйшая, за ўсіх харашэйшая. Адзеліся адзінаццаць сясцёр і пайшлі сабе. А малодшая на беразе засталася, шукае сукенку сваю, плача – не можа знайсці. Вось і кажа яна:

– Адгукніся, абзавіся, хто маю сукенку ўзяў! Буду табе. дачкою пакорнаю!

Не абзываецца Іван.

– Буду табе сястрыцаю ласкаваю!

Маўчыць Іван.

– Буду табе жонкаю вернаю!

Тут выйшаў Іван з-за дрэва:

– Бяры сваю сукенку, красуня дзяўчына.

Узяла яна сукенку, а Іванку дала залаты пярсцёнак заручальны.

– Ну, скажы мне цяпер, добры малойца, як цябе па імені зваць і куды ты ідзеш.

– Бацькі Іванам называлі, а іду да цара марскога – гаспадара вадзянога.

– Дык вунь ты хто! Чаму ж гэтак доўга не прыходзіў? Бацюхна мой, гаспадар вадзяны, вельмі на цябе гневаецца. Ну, ідзі па гэтай дарозе – прывядзе яна цябе ў падводнае царства. Там і мяне знойдзеш. Я ж падводнага цара дачка – Васіліса Прамудрая.

Зрабілася яна зноў качачкай і паляцела ад Івана. А Іван пайшоў у падводнае царства.

Прыйшоў – глядзіць: і там свет гэтакі ж, як у нас, і там палі ды лугі, і гаі зялёныя, і сонейка грэе, і месячык свеціць.

Паклікалі яго да марскога цара. Закрычаў марскі цар:

– Чаму гэтак доўга не прыходзіў? Не за тваю віну, а за

бацькаў грэх вось табе служба невялікая: ёсць у мяне пустка на трыццаць вёрст удоўж і ўпоперак: адны равы, яры ды каменне вострае. Каб да заўтра было там, як

далонь, гладка, і было жыта пасеяна, і вырасла за ноч так высока і густа, каб галка схавацца магла. Зробіш – узнагароджу, не зробіш – галава з плеч!

Зажурыўся Іванка, ідзе ад цара невясёлы, ніжэй плеч галаву звесіў.

Убачыла яго з церама высокага Васіліса і пытаецца:

– Чаго, Іванка, зажурыўся?

Адказвае ёй Іван:

– Як жа не журыцца! Загадаў мне твой бацюхна за адну ноч зараўняць равы, яры і каменне вострае, а пустку жытам засеяць, і каб да раніцы тое жыта вырасла і магла ў ім галка схавацца.

– Гэта яшчэ не бяда – бяда наперадзе будзе! Кладзіся спаць. Раніца за вечар мудрэйшая.

Паслухаўся Іван, лёг спаць. А Васіліса Прамудрая выйшла на ганак і гукнула гучным голасам:

– Гэй вы, слугі мае верныя! Раўняйце равы глыбокія, зносьце каменне вострае, засявайце поле жытам найлепшым – каб да раніцы ўсё паспела!

Прачнуўся на досвітку Іванка, зірнуў – усё гатова. Няма ні равоў, ні яроў. Усё поле, як далонь, гладкае, і пагойдваецца на ім жыта, ды такое густое і высокае, што галка схаваецца.

Пайшоў да марскога цара з дакладам.

– Ну, дзякуй табе,– кажа марскі цар.– Здолеў ты мне службу саслужыць. Вось табе і другая работа: ёсць у мяне трыста сціртаў, у кожнай сцірце – па трыста коп, усё пшаніца найлепшая. Абмалаці ты мне да заўтра ўсю пшаніцу чыста-чысценька, да апошняга зернетка. А сцірты не руш і снапоў не паруш. Калі не зробіш – галава з плеч далоў!

Яшчэ больш зажурыўся Іван. Ідзе па двары невясёлы, ніжэй плеч галаву звесіў.

– Чаго затужыў, Іванка? пытаецца ў яго Васіліса Прамудрая.

Расказаў ёй Іван пра сваю новую бяду.

– Гэта яшчэ не бяда – бяда наперадзе будзе. Кладзіся спаць. Раніца за вечар мудрэйшая.

Лёг Іван. А Васіліса Прамудрая выйшла на ганак і клікнула гучным голасам:

– Гэй вы, мурашы паўзучыя! Колькі вас па белым свеце ёсць–усе паўзіце сюды і выберыце збожжа з бацькавых сціртаў чыста-чысценька, да апошняга зернетка.

Раніцай кліча да сябе Івана марскі цар:

– Саслужыў службу, сынок?

– Саслужыў, цар-гасудар.

– Хадзем паглядзім.

Прыйшлі на гумнішча–усе сціртты стаяць некранутыя. Прыйшлі ў свірны – усе засекі збожжа поўненькія.

– Ну, дзякуй, брат,– кажа марскі цар. Саслужыў ты мне і другую службу. Вось жа табе і трэцяя гэта будзе апошняя: збудуй мне за ноч царкву з воску чыстага, каб да раніцы гатова была. Зробіш – выбірай любую маю дачку, сам у гэтую царкву вянчацца пойдзеш. Не зробіш – галава далоў!

Зноў ідзе Іван па двары і слязьмі ўмываецца.

– Аб чым бядуеш, Іванка? – пытаецца ў яго Васіліса Прамудрая.

– Як жа мне не бедаваць! Загадаў мне твой бацюхна за адну ноч збудаваць царкву з воску чыстага.

– Ну, гэта яшчэ не бяда – бяда наперадзе будзе. Кладзіся спаць. Раніца за вечар мудрэйшая.

Паслухаўся Іван, лёг спаць, а Васіліса Прамудрая выйшла на ганак і клікнула гучным голасам:

– Гэй вы, пчолы працавітыя! Колькі вас на белым

свеце ёсць – усе ляціце сюды! Зляпіце мне з воску чыстага царкву высокую, каб да раніцы гатова была, каб апоўдні мне ў тую царкву вянчацца ісці.

Раніцай устаў марскі цар, глянуў у акенца – стаіць царква з воску чыстага, так і свеціцца на сонейку, так і ззяе.

– Ну, дзякуй табе, добры малойца! Якіх толькі слуг у мяне не было, а ніхто не здолеў лепш за цябе дагадзіць. Ёсць у мяне дванаццаць дачок – выбірай сабе за нявесту любую. Пазнаеш тры разы запар адну і тую ж дзяўчыну, будзе яна табе жонкай вернаю. Не пазнаеш – галава з плеч!

«Ну, гэта справа няхітрая»,– думае Іванка. Ідзе ад цара, сам усміхаецца.

Убачыла яго Васіліса Прамудрая. Распытала пра ўсё і кажа:

– Надта ж ты даверлівы, Іванка! Задача ў цябе будзе нялёгкая. Зробіць нас бацюхна кабыліцамі і прымусіць цябе нявесту выбіраць. Ты глядзі – прыкмячай: на маёй аброці адна бляшка-бліскаўка пацямнее. Потым выпусціць ён нас галубкамі. Сёстры будуць спакойненька грэчку дзяўбаць, а я не-не ды страпяну крыльцам. Трэці раз выведзе ён нас дзяўчатамі – роўнымі, як адна: твар у твар, волас у волас, голас у голас. Я знарок хусцінкай махну. Па тым мяне і пазнавай.

Як сказана, так і сталася. Вывеў марскі цар дванаццаць кабыліц – адна ў адну – і паставіў у рад.

– Выбірай любую!

Паглядзеў Іван пільна, бачыць – на адной аброці

бляшка-бліскаўка пацямнела. Схапіў за тую аброць і кажа:

– Вось мая нявеста!

– Благую бярэш! Мог бы і лепшую выбраць.

– Нічога, мне і гэтая добра.

– Выбірай другі раз.

Выпусціў цар дванаццаць галубак – пяро ў пяро – і пасыпаў ім грэчкі.

Прыкмеціў Іван, што адна галубка ўсё крыльцам патрэсвае, і цап яе за крыло:

– Вось мая нявеста!

– Не той кус хапаеш – хутка падавішся. Выбірай трэці раз!

Вывеў цар дванаццаць дзяўчын – усе роўныя, як адна: вар у твар, волас у волас, голас у голас. Нізашто не пазнаў бы, ды адна з іх хусцінкай махнула. Схапіў яе Іван за руку:

– Вось мая нявеста!

– Ну, браце,– кажа марскі цар,– я хітры, а ты яшчэ хітрэйшы за мяне,– і аддаў за яго Васілісу Прамудрую замуж.

Ні многа, ні мала мінула часу – занудзіўся Іван па сваіх бацьках, захацелася яму на святую Русь.

– Што невясёлы, муж дарагі? – пытаецца Васіліса Прамудрая.

– Ах, жонка мая любая, бачыў я ў сне бацьку і маці, родны дом і сад вялікі, а па садзе дзеткі бегаюць. Можа, гэта браты мае ды сёстры мілыя, а я з імі наяву і не бачыўся.

Апусціла галаву Васіліса Прамудрая:

– От калі бяда прыйшла! Калі ўцячом мы, будзе за намі пагоня вялікая. Моцна разгневаецца марскі цар, лютай смерцю нас пакарае. Ды нічога не зробіш, трэба нешта мудрыць.

Змайстравала яна тры лялечкі, пасадзіла па кутках у святліцы, а дзверы моцна замкнула. І пабеглі яны з Іванкам на святую Русь.

Вось раным-раненька прыходзяць ад марскога цара пасланцы – маладых падымаць, у палац да цара зваць.

Стукаюцца ў дзверы:

– Прачніцеся, прабудзіцеся! Вас бацюхна кліча.

– Яшчэ рана, мы не выспаліся,– адказвае адна лялечка.

Гадзіна мінула, другая мінула – зноў пасланец у дзверы стукае:

– Не пара-час спаць, пара-час уставаць!

– Пачакайце. Зараз устанем ды адзенемся,– адказвае другая лялечка.

Трэці раз прыходзяць пасланцы: цар марскі, маўляў, гневаецца, чаго яны гэтак доўга збіраюцца, чаму лянуюцца.

– Зараз будзем,– кажа трэцяя лялечка.

Пачакалі, пачакалі пасланцы і давай зноў стукацца.

Ніхто не абзываецца, ніхто не адгукаецца.

Выламалі яны дзверы. Глядзяць – а ў святліцы пуста,
толькі лялькі ў кутках сядзяць.

Далажылі пра гэта марскому цару. Разгневаўся ён і паслаў на ўсе бакі пагоню вялікую.

А Васіліса Прамудрая з Іванкам ужо далёка-далёка. Імчацца на быстрых конях без прыпыну, без спачыну.

– Ану, муж дарагі, прыпадзі да сырой зямлі ды паслухай: ці няма пагоні марскога цара?

Саскочыў Іван з каня, прыпаў вухам да зямлі і кажа:

– Чую я людскую гаману і конскі тупат.

– Гэта за намі гоняцца! – кажа Васіліса Прамудрая і зрабіла коней зялёным лугам, Івана – старым пастухом, а сама перакінулася ў кучаравую авечку.

Пад'язджае пагоня:

– Гэй, дзядок, ці не ехаў тут добры малойца з прыгожай дзяўчынаю?

– Не, людзі добрыя,– адказвае Іван. Сорак гадоў пасу я на гэтым месцы – ніводная птушка міма но пралятала, ніводны звер міма не прабягаў.

Вярнулася пагоня назад:

– Цар-гасудар, нікога мы на дарозе не напаткалі. Бачылі толькі – пастух авечку пасе.

Разгневаўся марскі цар, закрычаў грозным голасам:

– Эх вы, нездагадлівыяі Імчыцеся наўздагон. Пры-вядзіце мне авечку, а пастух і сам прыйдзе.

Памчалася пагоня царская. А Іван з Васілісай Прамудрай таксама не марудзяць – паганяюць коней. Палова дарогі ззаду ляжыць, палова дарогі наперадзе сцелецца.

Кажа Васіліса Прамудрая:

– Ану, муж дарагі, прыпадзі да зямлі ды паслухай: ці няма пагоні марскога цара?

Злез Іван з каня, прыпаў вухам да зямлі і кажа:

– Чую я конскі тупат і людскую гамапу.

– Гэта за намі гоняцца! – кажа Васіліса Прамудрая.

Сама зрабілася каплічкай, коней ператварыла ў дрэвы,
а Іванку – у старэнькага папа.

Вось пад'язджае да іх пагоня:

– Гэй, бацюшка, ці не праходзіў тут пастух?

– Не, людзі добрыя. Сорак гадоў я ў гэтай капліцы служу – ніводная птушка міма не пралятала, ніводзін звер не прабягаў.

Вярнулася пагоня назад:

– Цар-гасудар, не знайшлі мы пастуха з авечкаю! Толькі ў дарозе бачылі каплічку ды папа старога.

Яшчэ горш разгневаўся марскі цар:

– Эх вы, ёлупні! Вам трэба было каплічку разламаць ды сюды прывезці, а поп і сам прыйшоў бы.

Сабраўся ён, ускочыў на каня і памчаўся наўздагон за Іванкам і Васілісай Прамудраю.

А тыя ўжо далека заехалі. Лічы, уся дарога ззаду засталася.

Вось зноў кажа Васіліса Прамудрая:

– Муж дарагі, прыпадзі да зямлі: ці не чуваць пагоні?

Злез Іван з каня, прыпаў вухам да сырой зямлі і кажа:

– Дрыжыць зямля ад тупату конскага.

– Гэта сам цар марскі імчыцца! – кажа Васіліса Прамудрая.

І зрабілася яна рэчкаю. Коней у рачную травуператварыла, а Івана – у акуня.

Прымчаўся марскі цар. Паглядзеў ды адразу і пазнаў, што за рэчка цячэ, што за акунь у вадзе плавае.

Пасміхнуўся ён і кажа:

– Калі так, дык будзь жа ты рэчкаю роўна тры гады. Улетку перасыхай, узімку замярзай, увесну разлівайся!

Завярнуў каня і памчаўся назад у сваё падводнае царства.

Заплакала рэчка, зажурчала:

– Муж мой любы, трэба нам расстацца! Ідзі ты дадому, ды глядзі – нікому цалаваць сябе не дазваляй, апрача бацькі і маці. А як пацалуе цябе хто – забудзеш мяне.

Прыйшоў Іван дадому, а сам дому не рады.

Пацалаваўся з бацькам, з маці, а больш ні з кім – ні з братам, ні з сястрою, ні з кумам, ні з кумою. Жыве, ні на кога не глядзіць.

Вось і год мінуў, і два, і трэці канчаецца.

Лёг неяк раз Іванка спаць, а дзверы забыўся зашчапіць. Зайшла ў пакой сястра яго меншая, убачыла, што ён спіць, нахілілася і пацалавала яго.

Прачнуўся Іван – нічога не помніць. Пра ўсё забыўся.

Забыў і Васілісу Прамудрую, быццам і ў думках яе не было.

А праз месяц засваталі Івана і ўзяліся Да вяселля рыхтавацца.

Вось як пачалі пірагі пячы, пайшла адна дзяўчынка па ваду, нахілілася над рэчкаю – вады зачэрпнуць, ды так і абмерла. Пазірае на яе знізу – вочы ў вочы – дзяўчына-краса.

Пабегла дзяўчынка дадому, расказала кожнаму, каго ні сустрэла, пра такое дзіва. Пайшлі ўсе на рэчку, але нікога не знайшлі. І рэчка прапала – ці то ў зямлю пайшла, ці то высахла.

А як вярнуліся дадому, бачаць – стаіць на парозе дзяўчына-краса.

– Я,– кажа,– памагаць вам прыйшла. Пірагі на вяселле пячы буду.

ЗамясіЛа яна цеста густа, зляпіла двух галубкоў і пасадзіла ў

печ:

– Угадай, гаспадынька, што з гэтымі галубкамі будзе?

– А што будзе? З'ядзім іх – і ўсё тут.

– Не, не ўгадала.

Адчыніла дзяўчына печ, і вылецелі адтуль голуб з галубкай. Селі на акенцы і забуркавалі.

Кажа галубка галубку:

– Што ж ты, забыў, як была я авечкаю, а ты пастухом?

– Забыў, забыў.

– Што ж ты, забыў, як была я каплічкаю, а ты папом?

– Забыў, забыў.

– Што ж ты, забыў, як была я рэчкай, а ты акунькам?

– Забыў, Забыў.

– Кароткая ж у цябе памяць, галубок! Забыў ты мяне, як Іванка Васілісу Прамудрую.

Пачуў гэтыя словы Іванка і ўсё ўспомніў. Узяў ён Васілісу Прамудрую за рукі белыя і кажа бацьку з маці:

– Вось мая жонка верная. А другой мне не трэба.

– Ну, калі ёсць у цябе жонка, дык жывіце ў ладзе і згодзе!

Новай нявесце падарункаў надарылі і дадому адпусцілі.

А Іванка з Васілісай Прамудрай пачалі жыць-пажываць, дабра нажываць. Шмат вады з таго часу сплыло, а яны ўсё жывуць ды хлеб жуюць.

## ФІНІСТ-ЯСНЫ СОКАЛ

Жыў ды быў селянін. Памерлі ў яго жонка, засталося тры дачкі. Хацеў стары ўзяць наймічку на гаспадарцы памагаць. Але меншая дачка Мар'ечка сказала:

– Не трэба, бацюхна, наймічку браць, я сама буду гаспадарыць.

Добра. Пачала Мар'ечка гаспадарыць. І ўсё-ўсё яна ўмее, усё-ўсё ў яе ладзіцца. Любіў бацька Мар'ечку: радаваўся, што такая

разумная ды працавітая дачка расце. Сама Мар'ечка прыгажуня пісаная. А сёстры яе зайздрослівыя ды прагавітыя, самі непрыгожыя, а модніцы-модніцы – цэлы дзень сядзяць ды пудрацца, ды румяняцца, ды ў абноўкі прыбіраюцца, сукенкі ім – не сукенкі, боцікі – не боцікі, хустка – не хустка.

Сабраўся бацька на кірмаш і пытаецца ў дачок:

– Што вам, дочкі, купіць, чым пацешыць?

Старэйшая і сярэдняя дочкі і кажуць:

– Купі па хусце, ды такой, каб кветкі чым большыя, золатам вышываныя.

А Мар'ечка стаіць ды маўчыць. Пытаецца ў яе бацька:

– А што табе, дачушка, купіць?

– Купі мне, бацюхна, пёрка Фініста – яснага сокала. Прыязджае бацька, прывозіць дочкам хусты, а пёрка не знайшоў.

Сабраўся бацька другі раз на кірмаш.

– Ну,– кажа,– дочкі, заказвайце падарункі. Зарадаваліся старэйшая і сярэдняя дочкі:

– Купі нам боцікі з сярэбранымі падкоўкамі.

А Мар'ечка зноў заказвае:

– Купі мне, бацюхна, пёрка Фініста – яснага сокала. Хадзіў бацька цэлы дзень, боцікі купіў, а пёрка не знайшоў. Прыехаў без пёрка.

Добра. Сабраўся стары трэці раз на кірмаш, а старэйшая і сярэдняя дочкі кажуць:

– Купі нам па сукенцы.

А Мар'ечка зноў просіць:

– Бацюхна, купі пёрка Фініста – яснага сокала. Хадзіў бацька цэлы дзень, а пёрка не знайшоў. Выехаў з горада, а насустрач старэнькі дзядок.

– Дзень добры, дзядуня!

– Добры дзень, чалавеча! Куды цябе пуцявіна-дарога вядзе?

– Да сябе, дзядуня, у вёску. Ды вось бяда ў мяне-меншая дачка наказвала купіць пёрка Фініста – яснага сокала, а я не знайшоў.

– Ёсць у мяне такое пёрка, ды яно не прадажнае, а запаветнае; але для добрага чалавека не шкада, аддам.

Дастаў дзядок пёрка і падае, а яно самае звычайнае. Едзе селянін і думае: «Што ў ім Мар'ечка знайшла добрае?»

Прывез стары падарункі дочкам, старэишая і сярэдняя прыбіраюцца ды з Мар'ечкі пасміхаюцца:

– Якая была ты дурніца, такая і засталася. Уваткні. сваё пёрка ў валасы і красуйся!

Нічога не адказала Мар'ечка, адышлася ўбок, а як усе спаць палеглі, кінула Мар'ечка пёрка на падлогу і прамовіла:

– Дарагі Фініст – ясны сокал, з'явіся да мяне, мой жаніх жаданы!

І з'явіўся перад ёю хлопец-малойца прыгажосці невыказнай. Пад раніцу хлопец-малойца стукнуўся аб падлогу і зрабіўся сокалам. Адчыніла яму Мар'ечка акно, і паляцеў сокал у сіняе неба.

Тры дні Мар'ечка ласкава сустракала ў сябе хлопца-малойца; удзень ён лятае сокалам у сінім паднябессі, а на ноч прылятае да Мар'ечкі і становіцца добрым малойцам.

На чацвёрты дзень сёстры ліхія падгледзелі – нагаварылі бацьку на сястру.

– Дочкі мае любыя,– кажа бацька,– глядзіце лепт за сабою.

«Нічога,– думаюць сёстры,– пабачым, як будзе далей».

Панаўтыкалі яны ў раму вострых нажоў, а самі прытаіліся, сочаць.

Вось ляціць ясны сокал. Даляцеў да акна і не можа трапіць у пакой Мар'ечкі. Біўся-біўся, усе грудзі зрэзаў-спаласаваў, а Мар'ечка спіць і не чуе. І сказаў тады сокал:

– Каму я трэба, той мяне знойдзе. Але гэта будзе нялёгка. Тады мяне знойдзеш, як тры пары чаравікаў жалезных зносіш, тры кіі жалезныя паломіш, тры каптуры жалезныя падзярэш.

Пачула гэта Мар'ечка**,** усхапілася з ложка, паглядзела ў акно, а сокала няма, адно толькі крывавы след на вокнах застаўся. Заплакала Мар'ечка горкімі слязьмі – змыла слёзкамі крывавы след і зрабілася яшчэ прыгажэйшая.

Пайшла яна да бацькі і сказала:

– Не сварыся на мяне, бацюхна, адпусці ў пуцявіну-дарогу далёкую. Буду жывая – пабачымся, памру – дык, значыцца, лес такі.

Шкада было бацьку адпускаць любімую дачку, але адпусціў.

Заказала Мар'ечка тры пары чаравікаў жалезных, тры кіі жалезныя, тры каптуры жалезныя і рушыла ў пуцявіну-дарогу далёкую, шукаць жаданага Фініста – яснага сокала. Ішла яна чыстым полем, ішла цёмным лесам, высокімі гарамі. Птушачкі вясёлымі песнямі ёй сэрца цешылі, ручайкі белы твар умывалі, лясы цёмныя сваімі шатамі віталі. І ніхто не мог Мар'ечку пакрыўдзіць-зачапіць: ваўкі шэрыя, мядзведзі, лісіцы – усе звяры да яе збягаліся, за яе заступаліся. Знасіла яна пару чаравікаў жалезных, кій жалезны зламала і каптур жалезны парвала.

І вось выходзіць Мар'ечка на паля ну. Аж бачыць: стаіць хатка на курыных лапках – круціцца. Кажа Мар'ечка:

– Хатка, хатка, стань да лесу задам, да мяне перадам! Мне ў цябе трэба залезці, хлеба паесці.

Павярнулася хатка да лесу задам, да Мар'ечкі перадам. Зайшла Мар'ечка ў хатку, аж бачыць: сядзіць там баба-яга – касцяная нага, ногі з кута ў кут, губы на вешале, а нос да столі прырос.

Убачыла баба-яга Мар'ечку, зашумела:

– Тфу, тфу, рускім духам пахне! Красуня дзяўчына, работы шукаеш ці ад работы ўцякаеш?

– Шукаю, бабуся, Фініста – яснага сокала.

– О красуня, доўга табе шукаць! Твой ясны сокал за трыдзевяць зямель, у трыдзевятым царстве. Апаіла яго зёлкамі царыца-чараўніца і ажанілася з ім. Але я табе памагу. Вось табе сярэбраны сподачак і залатое яечка. Як прыйдзеш у трыдзевятае

царства, прасіся ў наймічкі да царыцы. Скончыш работу – бяры сподачак, кладзі залатое яечка, яно само будзе качацца. Захочуць купіць – не прадавай. Прасі, каб дазволілі Фініста – яснага сокала пабачыць.

Падзякавала Мар'ечка бабе-язе і пайшла. Пацямнеў лес, страшна зрабілася Мар'ечцы, баіцца і крок ступіць, ды тут насустрач кот. Скокнуў да Мар'ечкі і заваркагаў:

– Не бойся, Мар'ечка, ідзі наперад. Будзе яшчэ страшней, а ты ідзі і ідзі, не азірайся.

Пацёрся кот спінкай аб ногі ёй і знік, а Мар'ечка пайшла далей.

А лес зрабіўся яшчэ цямнейшы. Ішла, ішла Мар'ечка, чаравікі жалезныя знасіла, кій зламала, каптур парвала і прыйшла да хаткі на курыных лапках. Наўкол тын з частаколін, на частаколінах чарапы, і кожны чэрап агнём палае.

Кажа Мар'ечка:

– Хатка, хатка, стань да лесу задам, да мяне перадам! Мне ў цябе трэба залезці, хлеба паесці.

Павярнулася хатка да лесу задам, а да Мар'ечкі перадам. Зайшла Мар'ечка ў хатку, аж бачыць: сядзіць баба-яга– касцяная нага, ногі з кута ў кут, губы на вешале, а нос да столі прырос.

Убачыла баба-яга Мар'ечку, зашумела:

– Тфу, тфу, рускім духам пахне! Красуня дзяўчына. работы шукаеш ці ад работы ўцякаеш?

– Шукаю, бабуся, Фініста – яснага сокала.

– А ў мае сястры была?

– Была, бабуся.

– Добра, красуня, памагу табе. Бяры сярэбраныя пяльцы, залатую іголачку. Іголачка сама будзе вышываць серабром і золатам па малінавым аксаміце. Захочуць купіць – не прадавай. Прасі, каб дазволілі Фініста – яснага сокала пабачыць.

Падзякавала Мар'ечка бабе-язе і пайшла. А ў лесе стук, грук, свіст, чарапы лес асвятляюць. Страшна зрабілася Мар'ечцы. Зірк, сабака бяжыць:

– Гаў, гаў, Мар'ечка, не бойся, родная, ідзі. Будзе яшчэ страшней, не азірайся.

Сказаў і знік. Пайшла Мар'ечка, а лес зрабіўся яшчэ цямнейшы. За ногі чапляецца, за рукавы хапаецца... Ідзе Мар'ечка, ідзе і назад не азіраецца.

Доўга ці не доўга ішла – чаравікі жалезныя знасіла, кій жалезны зламала, каптур жалезны парвала. Выйшла на палянку, а на палянцы хатка на курыных лапках, наўкол тын з частаколін, а на частаколінах конскія Чарапы; кожны чэрап агнём палае.

Кажа Мар'ечка:

– Хатка, хатка, стань да лесу задам, а да мяне перадам!

Павярнулася хатка да лесу задам, а да Мар'ечкі перадам. Зайшла Мар'ечка ў хатку, аж бачыць: сядзіць там баба-яга – касцяная нага, ногі з кута ў кут, губы на вешале, а нос да столі прырос. Сама чорная, а ў роце адзін ікол тырчыць.

Убачыла баба-яга Мар'ечку, зашумела:

– Тфу, тфу, рускім духам пахне! Красуня дзяўчына, работы шукаеш ці ад работы ўцякаеш?

– Шукаю, бабуся, Фініста – яснага сокала.

– Цяжка, красуня, табе будзе яго знайсці, ды я памагу. Вось табе сярэбранае дзенца, залатое вераценца.

Бяры ў рукі, само прасці будзе, пацягнецца нітка ды не абы-якая, а залатая.

– Дзякуй табе, бабуся.

– Нічога, дзякуй пасля скажаш, а цяпер слухай, што я табе скажу: захочуць у цябе залатое вераценца купіць–не прадавай, а папрасі, каб дазволілі Фініста– яснага сокала пабачыць.

Падзякавала Мар'ечка бабе-язе і пайшла, а лес зашумеў, загудзеў; усчаўся свіст, совы закружыліся, мышы з нораў павылазілі – ды ўсе на Мар'ечку. Аж бачыць Мар'ечка – бяжыць насустрач шэры воўк.

– Не бядуй,– кажа ён,– а садзіся на мяне і не азірайся.

Села Мар'ечка на шэрага воўка, і толькі яе згледзелі Наперадзе стэпы шырокія, лугі шаўковыя, рэкі мядовыя берагі кісельныя, горы ў хмары ўпіраюцца. А Мар'ечка імчыцца ды імчыцца. І вось перад Мар'ечкай крыштальны церам. Ганак разьбой аздоблены, акенцы ўзорыстыя, а ў акенца царыца глЯдзіць.

– Ну,– кажа воўк,– злазь, ідзі і наймайся служыць.

Злезла Мар'ечка, узяла свой клуначак, падзякавала ваўку і пайшла ў крыштальны палац. Пакланілася Мар'ечка царыцы і кажа:

– Не ведаю, як вас зваць-велічаць, а ці не трэба вам наймічка?

Адказвае царыца:

– Даўно я шукаю наймічку, але такую, якая ўмела б і прасці, і ткаць, і вышываць.

– Усё гэта я ўмею рабіць.

– Тады ідзі і садзіся за работу.

] стала Мар'ечка наймічкай. Удзень робіць, а надыдзе ноч – возьме Мар'ечка сярэбраны сподачак і залатое яечка і скажа:

– Каціся, каціся, залатое яечка, па сярэбраным сподачку, пакажы мне майго любага.

Пакоціцца яечка па сярэбраным сподачку, і з'явіцца Фініст –

ясны сокал. Глядзіць на яго Мар'ечка і слязьмі залівaецца:

– Фініст мой, Фініст – ясны сокал, чаму ж ты мяне адну пакінуў, небараку, па табе плакаць!

Падслухала царыца яе словы і кажа:

– Прадай ты мне, Мар'ечка, сярэбраны сподачак і залатое яечка.

– Не,– кажа Мар'ечка,– яны непрадажныя. Магу я табе іх аддаць, калі дазволіш на Фініста – яснага сокала паглядзець.

Падумала царыца, падумала.

– Добра,– кажа,– няхай так і будзе. Уночы, як ён засне, я табе яго пакажу.

Надышла ноч, і ідзе Мар'ечка ў спальню к Фіністу – яснаму сокалу. Бачыць яна – спіць яе каханы непрабудным сном. Глядзіць Мар'ечка – не нагледзіцца, цалуе ў вусны мядовыя, туліць да грудзей белых,– спіць, ніяк не прачнецца каханы.

Настала раніца, а Мар'ечка не дабудзілася любага...

Цэлы дзень працавала Мар'ечка, а ўвечары ўзяла сярэбраныя пяльцы ды залатую іголачку. Сядзіць, вышывае, сама сабе прымаўляе:

– Вышывайся, вышывайся, узор, для Фініста – яснага сокала, каб было чым ямуранічкай выцірацца.

Падслухала царыца і кажа:

– Прадай, Мар'ечка, сярэбраныя пяльцы, залатую іголачку.

– Я не прадам,– кажа Мар'ечка,– а так аддам, дазволь толькі з Фіністам – ясным сокалам пабачыцца.

Падумала тая, падумала.

– Добра,– кажа,– няхай так і будзе, прыходзь уночы.

Надышла ноч. Заходзіць Мар'ечка ў спальню да Фініста – яснага сокала, а той спіць сном непрабудным.

– Фініст ты мой, ясны сокал, устань, прачніся!

Спіць Фініст – ясны сокал моцным сном. Будзіла яго

Мар'ечка – не дабудзілася.

Надыходзіць дзень.

Сядзіць Мар'ечка за работаю, бярэ ў рукі сярэбранае дзенца, залатое вераценца. А царыца ўбачыла: прадай ды прадай!

– Прадаць не прадам, а магу так аддаць, калі дазволіш з Фіністам – ясным сокалам хоць гадзінку пабыць.

– Добра,– кажа тая.

А сама думае: «Усё роўна не разбудзіш».

Надышла ноч. Заходзіць Мар'ечка ў спальню да Фініста – яснага сокала, а той спіць сном непрабудным.

– Фініст ты мой, ясны сокал, устань, прачніся!

Спіць Фініст, не прачынаецца.

Будзіла, будзіла–ніяк не можа дабудзіцца, а ўжо світаць хутка

пачне.

Заплакала Мар'ечка:

– Любы ты мой Фініст – ясны сокал, устань, прачніся, на Мар'ечку сваю зірні, да сэрца свайго яе прытулі!

Упала сляза Мар'ечкі на голы плячук Фініста – яснага сокала і апякла. Прачнуўся Фініст – ясны сокал, агледзеўся па баках – аж бачыць: Мар'ечка! Абняў яе, пацалаваў:

– Няўжо гэта ты, Мар'ечка! Тры пары чаравікаў знасіла, тры кіі жалезныя паламала, тры каптуры жалезныя парвала і мяне знайшла? Паедзем жа цяпер на радзіму.

Пачалі яны дадому збірацца, а царыца ўбачыла і

загадала ў трубы трубіць, пра здраду сваиго мужа абвясціць.

Сабраліся князі ды купцы, пачалі раду радзіць, як Фініста – яснага сокала пакараць.

Тады Фініст – ясны сокал кажа:

– Каторая, па-вашаму, сапраўдная жонка: ці тая, што моцна кахае, ці тая, што прадае ды ашуквае?

Згадзіліся ўсе, што жонка Фініста – яснага сокала – Мар'ечка.

І пачалі яны жыць-пажываць ды дабра нажываць. Паехалі ў свой край, наладзілі баль, у трубы затрубілі, з гарматаў засмалілі. А пасля быў банкет, якога не ведаў свет; пра яго і дагэтуль помняць.

## АБРУС-АМАБОР, КАШАЛЁК-САМАТРАС І ДВОЕ З ТОРБЫ

Жылі-былі дзед з бабаю. Жылі, гаравалі, з хлеба на квас перабіваліся. З восені да вясны сяк-так кідаліся, а з вясны да восені проста гора гаравалі: лебядой ды ягадамі жывіліся.

Вось неяк расстараўся дзед сявеньку пшаніцы і кажа:

– Усе людзі аруць ды сеюць, пасеем і мы – будзе ў нас увосень свой хлеб.

Пасеялі. Зарадзіла пшаніца на славу.

Дзед з бабаю не нацешацца, ходзяць кожны дзень, на пшаніцу любуюцца: пшаніца быццам сцяна стаіць, адзін колас за другі большы ды паўнейшы. Суседзі зайздросцяць:

– Гэтакага ўраджаю век не бачылі!

Прыйшоў час збажыну ўбіраць. Дзед сярпы навастрыў:

– Заўтра, баба, пойдзем пшаніцу жаць!

На той час узняўся моцны вецер, набегла чорная хмара, і выпаў

на дзедаву палоску вялікі град. І тым градам падчыстую выбіла ўсю пшаніцу, ніводнага каласка не засталося.

Зажурыўся дзед, галаву звесіў, а баба сварыцца, галосіць:

– Усё жыццё я з табою, няўдаліцам, гора гаравала! Ні ў чым

табе ўдачы няма! За колькі гадоў разжыліся насеннем ды вырасцілі пшаніцу–і тут ліха напаткала, бяда здарылася, а ў нас і зернетка не засталося.

Суцяшае дзед:

– Не плач, баба, не бядуй! Слязьмі ды сваркаю страты не вернеш. Хмару вецер нагнаў – няхай вецер і разлічваецца.

Баба яшчэ горш злуецца, сварыцца:

– Зусім дзед здурнеў! Меле языком абы-што! Шукай цяпер ветру ў полі!

А дзед на сваім стаіць:

– Пайду з ветру спаганяць: вецер вінаваты – няхай вецер і адказвае.

Абуўся, апрануўся, узяў у рукі кіёк і падаўся ў дарогу.

Ішоў ён далёка ці блізка, доўга ці не – дабраўся да высокай гары. Каля гары стаіць вялікая хата. У хаты чатыры ганкі: адзін на ўсход сонца, другі – на поўдзень, трэці – на захад, а чацвёрты ганак – на поўнач.

На той час забразгацелі вёдры: падышла да студні бабулька, старая-старая – ледзьве ногі перастаўляе. Зачарпнула вады.

Павітаўся дзед:

– Дзень добры, бабуся! Давай памагу табе ваду данесці.

– Здароў, добры чалавек! Дзякуй табе на ласкавым слове. Заходзь у хату, адпачні з дарогі, а з вёдрамі я і сама спраўлюся: я яшчэ дужая.

Падняліся на ганак, зайшлі ў хату. Бабуся стол накрыла, госця накарміла, напаіла і пачала дапытвацца:

– Куды, добры чалавек, ідзеш, куды цябе дарога вядзе? Па сваёй волі да нас трапіў ці па няволі? Ці, можа, якая бяда цябе прывяла?

– Ох, бабуся, не ведаеш ты маёй бяды! Вырасцілі мы з бабаю пшанічку, ды прыгнаў вецер хмару з градам, і выбіла ўсё падчыстую – зернетка не засталося. Няма чым жыць, хоць жабраваць ідзі! От і пайшоў я па белым свеце ўправы шукаць.

– Ну, калі так, дык гэта можна паправіць. Я ж маці ўсіх чатырох вятроў, і сыны з-пад маёй волі не выйшлі, слухаюцца. Па ўсім відаць, пакрыўдзіў цябе гарэза-свавольнік Паўночнік, мой меншы сын,– здатны ён на такія рэчы. Лезь на печ ды пачакай крыху. Вернуцца сыны дадому – прымушу вінаватага табе страту вярнуць.

Неўзабаве пачуўся шум з усходняга боку, расчыніліся дзверы ўсходняга ганка – прыляцеў Усходні вецер. Услед за тым дыхнула цяплом з паўднёвага боку – і заляцеў у хату з паўднёвага ганка ласкавы Паўднёвік-вецер. І ў тую ж хвіліну з тых дзвярэй, што на захад сонца выходзяць, з'явіўся Захад-вецер. А потым раптам

загрымела, зашумела наўкол, хата ходырам захадзіла – з рогатам ды са свістам уварваўся ў хату Паўночнік-вецер:

– Ох і нагнаў я сёння страху на караблі ў моры! Пазабаўляўся, пацешыўся, есці хачу!

Бабулька тым часам на стол сабрала, накарміла, напаіла сыноў і кажа:

– Ну, хто з вас, сынкі, нядаўна бяды нарабіў?

Паклікала дзеда:

– Ідзі, гавары, не бойся нічога!

Дзед злез з печы і расказаў усё, як было. Прыціх Паўночнік, галаву апусціў.

– Відаць, ты, Паўночнік, вінаваты,– сказала маці,– ты і адказваць будзеш.

– Нічога, мама,– страсянуў галавою Паўночнік,– усё паправім!.. А ты, госць дарагі, смелы і ўпарты – гэтакіх я і люблю! Калі не пабаяўся на мяне ўправы шукаць ды ўсю праўду ў вочы сказаць, будзь мне брагам названым, а пра страту не журыся.

Дастаў з-за пазухі скрутак і падаў дзеду:

– На вось табе абрус-самабор – у любы час галодны не будзеш. Адно абрус разгарні ды скажы: «Папіць, паесці!» – і еш, пі, што душа пажадае. Толькі, цур, угавор: пойдзеш дадому – не заходзь на заезны двор.

Дзед падзякаваў названаму брату і маці чатырох вятроў за ласкавую сустрэчу, за пачастунак ды за падарунак, з усімі развітаўся і дадому падаўся.

Ішоў, ішоў, ішоў і вельмі стаміўся, зусім з сілы выбіўся; сам думае: «Давядзецца 1 гэтую ноч у дарозе начаваць, сёння дадому ўсё адно не паспець. Чаму гэта Паўночнік наказваў мне на заезны двор не заходзіць? Не ў пол! ж мне ноч начаваць! Хлеб свой – хоць у папа стой». І зайшоў на заезны двор. Сеў каля стала, адпачывае, а шынкар пытаецца:

– Можа, вячэру падаць ды і чарку ад стомы вып'еш? Заказвай!

– Нічога мне пакупнога не трэба, усё ў мяне сваё ёсць.

Дастаў з-за пазухі абрус, разгарнуў і кажа:

– Папіць, паесці!

Бацюхны мае! Адкуль што ўзялося: панаставілася страў усялякіх, мяды духмяныя, віны салодкія, закускі, заедкі розныя – стол угінаецца! Пі, еш – душа мера!

Шынкар аслупянеў, глядзіць, вочы вылупіўшы, слова сказаць не можа. Гэтакага дзіва век не бачыў.

І дзед вельмі рады:

– Будзе цяпер у нас з бабаю што піць, есці! Будзе чым і добрых людзей пачаставаць!

І ад радасці кліча шынкара:

– Садзіся са мною вячэраць і сваіх усіх, хто ў цябе ёсць, заві – пачастунку на ўсіх хопіць!

Шынкар паклікаў жонку ды дзяцей – і падселі ўсе да дзеда за стол. Сядзяць частуюцца. Дзед выпіў салодкага віна ды моцнага мёду, і зашумела ў яго ў галаве; песню зацягнуў.

Тут шынкару і прыйшло ў галаву:

«От бы гэты абрус мне спатрэбіўся!»

Пасля вячэры дзед паваліўся на лаву і моцна заснуў. Шынкар падмяніў абрус-самабор кропля ў кроплю такім жа з выгляду звычайным абрусам.

Назаўтра дзед прачнуўся раным-раненька і дадому заспяшаўся.

Баба сустрэла яго лаянкай:

– Дзе цябе нячысцік носіць? Дома хлеба ні крошкі, ні палена дроў няма, а яму і гора мала!

– Маўчы, баба! Садзіся за стол, частуйся, чаго толькі твая душа пажадае, пі, еш уволю!

Пасадзіў бабу за стол, разгарнуў абрус:

– Папіць, паесці!

Што такое? Няма нічога...

Дзед яшчэ раз абрус страсянуў, разгарнуў, рукою прыстукнуў:

– Папіць, паесці!

Зноў нічога.

Тут баба ўсхапілася, узяла чапялу:

– Ах ты, пустамеля, яшчэ насміхацца надумаўся! – І раз, раз чапялою: – На вось, на табе, недарэка абрыдлы!

Дзед выскачыў з хаты–ды наўцекі.

Спыніўся за весніцамі.

«Тут штосьці не так. Відаць, Паўночнік ашукаў мяне. Ну, ды не на таго натрапіў! Цяпер мне дарога знаёмая», – падумаў дзед.

І пайшоў да маці чатырох вятроў.

Ішоў, ішоў і позна вечарам прыйшоў да высокай гары, да вялікай хаты з чатырма ганкамі. На той час браты-вятры з усіх чатырох бакоў дадому беглі. Падхапілі госця і занеслі ў хату.

Павітаўся дзед з маці чатырох вятроў ды з братамі і кажа ветру Паўночніку:

– Не па-брацку ты, брат названы, са мною абыходзішся. Твой абрус-самабор усяго адзін раз мяне напаіў, накарміў, ды на тым усё і скончылася. Хіба добра так з мяне насміхацца?

– Пачакай, пачакай,– кажа Паўночнік.– Заходзіў ты на заезны двор?

– Заходзіў.

– Ну вось сам сябе ва ўсім і вінаваць, калі мяне не паслухаўся.– Дастаў кашалёк з-за пазухі.– Вазьмі гэты кашалёк і ідзі. Ніколі ў цябе ні ў чым нястачы не будзе. Што спатрэбіцца, патрасі кашалёк – і колькі трэба грошай, столькі і натрасеш. Ды глядзі помні маё слова: нікуды па дарозе не заходзь.

Госця напаілі, накармілі, і падаўся ён дадому.

Казка хутка кажацца, а яшчэ хутчэй дзед дадому спяшаецца.

Ішоў, ішоў і дайшоў да таго заезнага двара, дзе раней спыняўся.

«Зусім я аслабеў, ды і ногі больш не гнуцца, усё роўна мне дадому сёння не дайсці. Зайду пераначую ў знаёмага шынкара».

Зайшоў, павітаўся. Гаспадар заезнага двара пазнаў дзеда, ласкава сустрэў:

– Садзіся адпачывай, добры чалавек! Калі не пагрэбуеш нашым пачастункам, заказвай папіць-паесці з дарогі.

А дзеду і холадна і галадна.

«Давай пагляджу, чым мяне адарыў Паўночнік!»

Загадаў падаць вячэру, ды і віна заказаў. Выпіў чарку-другую і захмялеў, ведама, стаміўся. Кліча шынкара:

– Садзіся, гаспадар, і сваіх усіх пакліч, ды што ёсць у доме ядома падавай на стол! За ўсё разлічуся, страты не будзеш мець.

Гаспадар замітусіўся, нанасіў розных страў ды ўсялякіх напіткаў, паклікаў жонку ды дзяцей, і ўсе пачалі частавацца. П'юць, ядуць, а шынкару не церпіцца даведацца, якое дзіва ў дзеда ёсць. Усё новых і новых страў патрабуе, а чым будзе разлічвацца?

Цярпеў, цярпеў шынкар і кажа:

– Ну, добры чалавек, дзякуй за пачастунак, пара адпачываць. Заўтра ж рана, пэўна, пойдзеш – разлічымся за ўсё сёння.

Дзед дастаў з-за пазухі кашалёк-саматрас.

Страсянуў раз-другі – і пасыпалася серабро ды золата. Натрое, насыпаў блюда грошай:

– Бяры, гаспадар, усё тваё – у мяне гэтага дабра хопіць!

А гаспадар утаропіўся на дзеда, сядзіць моўчкі. Потым схапіў блюда, пачаў грошы рукамі перабіраць: грошы правільныя, золата ды серабро сапраўднае.

– Вось гэта дзіва!

Паваліўся госць спаць і заснуў моцным, непрабудным сном. Спіць, бяды над сабою не чуе, а бяда-злыбеда тут як тут.

Знайшоў шынкар гэтакі ж кашалёк і падмяніў дзедаў кашалёк-саматрас.

Назаўтра рана-раненька падхапіўся дзед і пайшоў дадому.

Дома толькі цераз парог пераступіў, выхапіў з-за пазухі кашалёк, паказвае:

– Не сварыся, баба, на гэты раз без падману! Падай хутчэй Лубянку – натрасу грошай, і ідзі на рынак, купляй што трэба.

Прынесла баба Лубянку, падставіла.

Страсянуў дзед кашалёк раз, другі – выпаў стары медны гузік, і больш нічога няма. Зноў пачаў трэсці кашалёк. Трос, трос – няма нічога.

Тут баба давай дзеда частаваць, чым пад руку трапілася. Б'е, а сама плача, прыгаворвае:

– Ах ты пустамеля, пустазвон, загубіў мяне, гаротніцу! Усё жыццё з табою прапакутавала, добрага дня не бачыла, а на старасці год і зусім розум страціў, з кожным днём усё дурнейшы робішся!

Біла-лупіла, пакуль Лубянка не рассыпалася, потым кінулася па качаргу.

А дзед – дай бог ногі. Выскачыў з хаты і бег, пакуль вёска з вачэй не схавалася. Спыніўся: «Ну куды цяпер падацца? Баба сварыцца ды б'ецца, а мне пасля такіх падманаў і на вочы ёй паказацца сорамна. Пакуль управы не знайду, дадому не вярнуся. Ці не падмяніў гэта часам шынкар абрус-самабор ды кашалёк-саматрас? Ці мо вецер Паўночнік пакеплівае? Пайду да свайго названага брата: шынкар, калі і падмяніў абрус ды кашалёк, усё роўна не прызнаецца».

Трэці раз пайшоў дзед да высокай гары.

Вецер Паўночнік якраз дома быў. Выйшаў ён з хаты і няветліва сустрэў названага брата:

– Я ўсё пра цябе ведаю. Зноў мяне не паслухаўся, наракай сам на сябе! На вось табе гэтую торбу і жыві сваім розумам. Калі будзе патрэба – страсяні торбу ды скажы толькі: «Двое з торбы!» – і пабачыш, што будзе. А цяпер бывай!

Нічога больш не сказаў Паўночнік, засвістаў, загігікаў, узвіўся пад хмары і паляцеў за трыдзевяць зямель, за трыдзевяць мораў.

Надзеў дзед торбу і паплёўся дадому. Ідзе і думае: «Някепска было б папіць, паесці! Давай хіба пагляджу, што за торба». Зняў торбу, страсянуў і кажа:

– Двое з торбы!

У тую ж хвіліну выскачылі з торбы два малойцы з дубінкамі і давай дзеда біць-малаціць. І датуль білі-малацілі, пакуль ён не здагадаўся крыкнуць:

– Двое ў торбу!

Хлопцы-малойцы тут жа зніклі, нібы іх ніколі і не было.

Дзед бакі чухае, а сам думае: «Не так сабе Паўночнік мне гэтую торбу даў...– І тут здагадаўся:–Гэта ж калі з розумам, дык торба саслужыць добрую службу!»

Начапіў торбу і пайшоў далей.

Доўга ці не доўга ішоў і дабраўся да знаёмага заезнага двара:

«Вось дзе работа для мае торбы знойдзецца!»

А гаспадар убачыў дзеда праз акно і адразу ж выбег на ганак.

– Заходзь, заходзь, госць дарагі!

Прывёў у святліцу і нібы той уюн каля дзеда круціцца:

– Каптан от сюды павесім, а кіёк у гэты куточак паставім!–Падсунуў лаўку да печы:–Садзіся, грэйся, а я скажу, каб на стол падавалі. Сёння мая чарга цябе частаваць...– Мітусіцца, гукае: – Жонка, жонка, радасць вунь у нас якая! Хадзі сюды!

Прыбегла гаспадыня, ласкава, ветліва павіталася.

А шынкар шуміць, не сунімаецца:

– Хуценька на стол падавай! Ды самыя лепшыя стравы і віны!

Стол накрылі, усялякага ядзення-піцення панаставілі. Дзеда пасадзілі на покуць.

– Пі, еш, госць дарагі, ды расказвай, дзе пабыў, што пабачыў! Мы дамаседы – нідзе на бываем, нічога не знаем. Што на белым свеце робіцца?

Дзед частуецца ды гамоніць, а шынкар з торбы вачэй не зводзіць, падлівае госцю віна:

– Паспытай вось гэтага яшчэ, не пагрэбуй, бо пакрыўдзіш нас!.. Кланяйся, жонка, частуй госця дарагога!

Сцяміў дзед: «Не інакш як да торбы шынкар падбіраецца». Сам п'е-есць, пасміхаецца.

Пілі-елі, гаманілі, шынкар не вытрываў і пытаецца:

– Скажы, госцейка дарагі, што ў цябе ў гэтай торбе– мусіць, зноў нейкае дзіва?

Адказвае дзед:

– Гэта не торба, а дзіва з дзіваў. Варта толькі страсянуць яе ды сказаць: «Двое з торбы!» – як з'явяцца чарадзеі і ўсё, што пажадаеш, зробяць для цябе. Вось якое гэта дзіва!

Слухае шынкар дзеда, дагодліва на яго паглядвае, а сам думае:

«Ну, буду я не я, калі гэтая торба не будзе мая!»

Пабалязалі, павячэралі, павялі госця ў найдальшы пакой, улажылі на мяккую пярыну:

– Спі, адпачывай!

А шынкару не спіцца. Знайшоў ён якраз гэткую ж з выгляду торбу і, як заснулі ўсе ў доме, пракраўся ўпакой, дзе спаў госць, павесіў на цвік сваю торбу, а дзедаву занёс у сваю святліцу.

Пабудзіў жонку:

– Зірні, што я прынёс. Цяпер усе мае жаданні збудуцца. Перш-наперш няхай чарадзеі збудуюць палац прыгажэйшы за царскі ды маёнтак вялікі дадуць, і будзем мы як паны

жыць-пажываць!

Страсянуў торбу і крыкнуў:

– Двое з торбы!

Выскачылі з торбы два малойцы з дубінкамі і давай шынкара з жонкай частаваць, адно толькі дубінкі пасвістваюць. Гаспадар з гаспадыняю крычаць баяцца, а малойцы з торбы б'юць-малоцяць.

Няма ўжо сілы трываць, пачаў шынкар прасіць-маліць:

– Злітуйцеся, добрыя малойцы, пашкадуйце нас! Прыгаршчы грошай насыплю!..

А Двое з торбы не глядзяць ні вока ні бока, малоцяць шынкара з жонкаю, нібы той гарох на таку.

Круціцца гаспадыня, плача. І шынкар закрычаў дзікім голасам:

– Гвалт! Ратуйце!..

Дзед пачуў крык ды шум – ляжыць, пасміхаецца. А шынкар аж заходзіцца-надрываецца:

– Гвалт! Забіваюць! Ратуйце!..

«Ну, цяпер пара ісці, а то заб’юць Двое з торбы злодзея насмерць».

Прыйшоў, а шынкар з жонкаю ўжо лежма ляжаць, войкаюць.

Пачалі прасіцца:

– Сунімі, добры чалавек, сваіх забіяк, не пакінь сіротамі нашых дзетачак!

– Аддайце мой абрус-самабор ды кашалёк-саматрас!

– Што ты, дзе мы возьмем абрус-самабор ды каша лёк-саматрас? Век у нас такіх дзівосаў но было!

– А як тут мая торба апынулася? Ведай, не аддасі маіх дзівосных рэчаў, заб'юць вас насмерць!

Тут гаспадыні зусім не пад сілу стала цярпець, закрычала яна:

– Ды прызнайся ты, мужанёк! Сваё жыццё даражэй за абрус ды кашалёк, прападзі яны пропадам!

І шынкар, відаць, цярпець больш не можа:

– Сунімі малойцаў – аддам табе назад і абрус-самабор і кашалёк-саматрас ды яшчэ і каня з санямі ў прыдачу дам, толькі не губі нас!

Дзед толькі гэтага і чакаў:

– Двое ў торбу!

Схаваліся малойцы з дубінкамі, а шынкар з жонкай ляжаць, стогнуць:

– Ой, як нядобра, моташна, костачкі жывой не пакінулі, зусім знявечылі! Хто нас карміць-паіць будзе? Хоць бы ты, добры чалавек, пашкадаваў нас – даў нам абрус-самабор або кашалёк-саматрас!

Раззлаваўся дзед:

– Мала вас павучыў, відаць! Хутчэй аддавайце абрус ды кашалёк, а то клікну малойцаў з торбы!

Шынкар больш не марудзіў, дастаў з куфра абрус ды кашалёк:

– Бяры, бяры, нам твайго не трэба!

Дзед страсянуў абрус, разгарнуў і сказаў:

– Папіць, паесці!

З'явіліся тут жа стравы.ўсялякія, напіткі розныя. Згарнуў абрус, схаваў за пазуху:

– Мой.

Страсянуў раз, другі кашальком – пасыпаліся серабро ды золата.

– І кашалёк мой!

Схаваў кашалёк, узяў торбу:

– Запрагай, гаспадар, каня, мне ехаць пара.

Шынкар загадаў парабку каня запрэгчы і выйшаў на двор дзеда правесці, а сам усё вохкае ды стогне.

Дзед сеў у сані:

– Бывай, гаспадарі Навукі не забывай і большы за чужым не ганіся!

І паехаў. Едзе ды пасміхаецца:

«Трэба і бабу трошкі павучыць, прыстрашыць, поедам мяне есць».

Падкаціў да хаты:

– Тпррру!

Выбегла баба на ганак, убачыла дзеда і давай сварыцца на яго:

– Усё лета яснае ды восень прабадзяўся, на зіму дадому з'явіўся! Хто тут для цябе хлеба назапасіў?

– Ідзі, старая, у хату, не мерзні!

Зайшлі ў хату. Баба не сунімаецца, яшчэ горш лаецца.

Тут дзед страсянуў торбу ды як крыкне:

– Двое з торбы!

Выскачылі два малойцы з дубінкамі: каго трэба наставіць на розум?

Спалохалася баба:

– Вой, дзедку, не чапай мяне, пашкадуй! Век табе слова насуперак не скажу!

– Ну вось, даўно б гэтак,– сказаў дзед і крыкнуў: – Двое ў торбу!

Зніклі малойцы з дубінкамі, а дзед страсянуў, разгарнуў абрус і кажа:

– Папіць, паесці!

І адкуль што ўзялося. Наставілася на стол розных страў ды напіткаў усялякіх…

Глядзіць баба і вачам не верыць.

А дзед кліча:

– Садзіся, пі, еш чаго толькі душа пажадае! Гэта ўсё наша.

Напаіў, накарміў бабу, потым узяў у рукі кашалёк-саматрас:

– Глядзі!

Страсянуў кашалёк раз, другі – і пасыпалася серабро ды золата, золата ды серабро…

– І гэта ўсё наша!

Зарадавалася баба, а дзед расказаў ёй, як гэтыя дзівосы дастаў, і як шынкар два разы яго абкрадаў, і як ён прымусіў шынкара аддаць яму абрус-самабор ды кашалёк-саматрас.

– Ну, нічога, дзедка, што было, тое прайшло, хай быллём зарастае, а ў нас з табою цяпер усяго ўволю: і самім ёсць што папіць-паесці, і добрых людзей пачаставаць хопіць.

Пачалі з таго часу дзед ды баба жыць ды быць прыпяваючы. І хто з суседзяў патрэбу мае, усім памагаюць. І ад усіх ім павага ды пашана.

На тым якраз часе і вярнуўся ў маёнтак аднекуль з-за мора пан. Прачуў ён, што дзед з бабаю жывуць у дастатку, загадаў паклікаць да сябе. Прыйшоў дзед.

Пан пытаецца:

– Быў ты самы што ні ёсць апошні бядняк, а цяпер самы спраўны гаспадар стаў. Расказвай усё, нічога не ўтойваючы, адкуль што ўзялося!

Расказаў яму дзед усё шчыра, як было, а пан яму ў адказ:

– Ніколі не паверу ў гэтыя байкі, пакуль на свае вочы не пабачу.

– Дык за чым затрымка? – дзед кажа.– Завітай да мяне, і я табе накажу і абрус-самапор і кашалёк-саматрас.

Пан загадаў тройку коней запрэгчы ў карэту. Пасадзіў дзеда з фурманам на козлы і сам сеў:

– ПаганяйI А ты, мужык, наканиай дарогу.

Прыехалі. Прыпеў дзед папа ў святліцу, пасадзіў на покуць. Баба прынесла абрус-самабор:

– Глядзі, пане!

Дзед страсянуў абрус, разгарнуў і сказаў:

– Папіць, паесці!

Заставіўся стол усялякімі стравамі, прысмакамі ды напіткамі.

– Пакаштуй, пане дабрадзею, нашага хлеба-солі, калі не пагрэбуеш! – частуюць дэед з бабаю.

Пан таго паспытаў ды другога – смачнае, салодкае, лепш не

трэба. Напіўся, наеўся па самае годзе, захмялеў.

– Ну, пра абрус-самабор ты казаў праўду. Пакажы цяпер кашалёк-саматрас!

Прынёс дзед кашалёк. Раз, другі страсянуў і пасыпаліся з кашалька серабро ды золата, золата ды серабро. У пана вочы загарэліся. Глядзіць на грошы – не наглядзіцца. Потым кажа:

– І пра кашалёк-саматрас твая праўда. А цяпер слухай маю праўду: хуценька загарні тэты абрус-самабор ды кашалёк-саматрас у новае палатно і нясі за мною ў маю карэту.

– Злітуйся, панеі – просяць дзед з бабаю. Як жа так? Гэтыя ж дзівосы вецер Паўночнік нам даў, а не табе.

Пан нагою тупнуў:

– Маўчаць! Не вам, халопам, мне пярэчыць! Вы абое мае, і ўсё, што ёсць у вас, таксама маё. Зразумелі?

– Як тут не зразумець! – кажа дзед. Усё як ёсць зразумелі.

– А зразумелі, дык паспяшайцеся – я чакаць не буду!

– Прынясі, старая, хутчэй маю новую торбу. Бачыш, пан спяшаецца... Даруй, пане, няма ў нас дома новага палатна.

Баба прынесла торбу, а пан падганяе:

– Хутчэй укладвайце!

– Зараз, зараз, пане!..– Дзед страсянуў торбу і крыкнуў: –Двое з торбы!

Выскачылі два дужыя малойцы з дубінкамі.

– Пачастуйце пана як мага лепш, каб век памятаў!

Узяліся малойцы пана дубінкамі мянціць. Ён спачатку адмахваўся ды лаяўся, потым закрычаў:

– Гэй, фурман, бяжы выручай!

Фурман прыбег. Раз-другі папала і яму дубінкай. Бачыць ён: кепскія справы – і бокам, бокам ды і наўцёкі.

А Двое з торбы сваю работу робяць: б'юць, малоцяць, толькі дубінкі пасвістваюць.

– Ох, мужычок,– закрычаў пан,– выпусці мяне, пакуль да смерці не забілі! Табе ж давядзецца адказваць!

– Пра мяне, пане, не турбуйся,– кажа дзед,– мне ўсё роўна адзін канец, а без цябе хоць людзям лягчэй будзе, і тое добра!

Тут пан на калені ўпаў:

– Даруй, мужычок! Зарок даю: ніколі больш на чужое дабро квапіцца не буду!

– Ну не, пане, не з таго цеста ты злеплены, каб за чужым не гнацца. Ужо калі панадзіўся сабака жорны лізаць, дык век яму не адстаць. Вось калі напішаш нам, усім мужыкам тваім, вольную ды адмовішся ад маёнтка і з'едзеш зусім ад нас, так і быць – жывым пакіну. А не, дык табе адна адсюль дарога – на той свет.

А малойцы сваю работу робяць: б'юць, малоцяць.

Не вытрываў пан – закрычаў:

– Ох, я на ўсё згодны! Давай хутчэй сюды чарніла і паперы прынясі! Усё, як ты кажаш, напішу, толькі жывога пусці!

Прынёс дзед пяро, чарніла ды паперу і загадаў Двум з торбы пачакаць. Пан напісаў усім сваім мужыкам вольную і маёнтак адпісаў на мужыкоў.

Дзед паперу прачытаў: «Усё правільна!» – і крыкнуў:

– Двое ў торбу!

Схаваліся малойцы, а пан ледзь-ледзь выбраўся з хаты і кажа:

– Заўтра паеду адсюль назаўжды, а ты, мужычок, нікому не кажы, што мяне тут збілі.

На другі дзень пан паехаў.

Мужыкі зямлю ўзялі і пачалі жыць-пажываць ды дзеда хваліць. І дагэтуль жывуць-пажываюць, ніякага ліха не знаюць, і з кожным годам усё лепш ды багацей жывуць.

Тут і казцы канец, а хто слухаў, маладзец.

## САЛДАТ СЯМЁН – ХУТКІ ГАНЕЦ

Жыў-быў стары дзед, і было ў яго тры сыны. Старэйшага звалі Хведар, сярэдняга Сцяпан, а малодшага Сямён.

Каля самай вёскі праходзіла вялікая дарога. Была тая дарога кружная: вакол багнаў, балотаў ды чорных гразюкаў пятляла. Калі напрасткі ехаць – трэба тры дні, а балоты, багны ды чорныя гразюкі аб'язджаць– тры гады.

Надумаў дзед народу памагчы: пракласці дарогу напрамкі. Загадаў сынам з балотаў, з багнаў ваду спускаць, цераз чорныя гразюкі масты насцілаць кляновыя, каб ні пешы, ні конны ног не замачыў і замест трох гадоў за трое сутак па добрай дарозе ў горад трапляў.

Узяліся за работу: адзін сын каналы капае ды ваду спускае, другі – лес сячэ, а трэці – маеты мосціць, насціл сцеле; бацька памагае ўсім ды раіць, як лепш зрабіць. Працавалі доўга ці не – зрабілі мост на сто вёрст. Добра стала ўсім, хто ні едзе, хто ні ідзе: ідуць, едуць і ўсе вельмі рады.

– Дзякуй,– кажуць,– тым, хто гэты мост пабудаваў, вялікую народу палёгку зрабіў.

А дзед са сваімі сынамі зноў за сялянскую работу ўзяўся: лес высякае, пні, карані выкарчоўвае ды збажыну сее, як і раней.

На тым часе сышліся над мостам Сонца, Вецер ды Месяц, слухаюць, што людзі гавораць, ды кажуць:

– Увесь народ дзеда з сынамі за добрую справу хваліць, а жыве дзед, як і раней, кепска: сяк-так з хлеба на квас

перабіваецца. Трэба нам памагчы яму з беднасці выбіцца.

Паклікалі дзеда і кажуць:

– За твае клопаты пра людзей мы цябе ўзнагародзім. Праг.і чаго хочаш.

Пакланіўся дзед Сонцу, Ветру ды Месяцу:

– Дзякуй. Мне, старому, нічога не трэба. Успомняць нас людзі– і добра. У сыноў пытайцеся – у іх усё жыццё наперадзе.

Паклікалі старэйшага брата, Хведара:

– Ты дарогу расчышчаў, мост будаваў. Прасі сабе якую хочаш узнагароду – усё збудзецца.

Падумаў Хведар і кажа:

– Я працаваў не адзін, а з бацькам ды з братамі і не ведаю, што ім трэба.

– А сабе ты чаго просіш?

Адказвае старэйшы брат:

– От каб збажына добра радзіла: град яе не выбіваў, маразы не вымарожвалі–больш мне нічога не трэба.

– Усё будзе, як ты хочаш,– Сонца, Вецер ды Месяц кажуць.– Ідзі ары ды сей – заўсёды будзеш з хлебам.

Паклікалі сярэдняга брата, Сцяпана:

– Ты з бацькам ды з братамі дарогу цераз багны, балоты пракладваў ды мост масціў. Прасі якую хочаш узнагароду – усё збудзецца.

Падумаў Сцяпан, падумаў: «Грошай папрасіць – патраціш грошы і застанешся ні з чым. Лепш за ўсё рамяство якое-небудзь добра ведаць!» – і кажа:

– Больш за ўсё мне па душы цяслярскае рамяство. От каб навучыцца гэтаму майстэрству: будаваў бы людзям хаты, прыгожыя дамы ставіў і сам ніколі галодны не быў бы.

– Ідзі,– кажуць Сонца, Вецер ды Месяц,– будзеш ты самы найлепшы цесля, і ўсе цябе будуць шанаваць, паважаць.

Спыталіся ў меншага брата, Сямёна:

– А табе якую ўзнагароду даць за тое, што з бацькам ды з братамі балоты, багны асушаў, мост будаваў? Хведар захацеў аратым застацца, Сцяпан – цеслям стаць. А ты да чаго ахвочы?

Сямён адказвае:

– Больш за ўсё мне хочацца салдатам стаць.

– Ты яшчэ зусім малады,– Сонца, Вецер ды Месяц кажуць,– нідзе не бываў, нічога не бачыў. Цяжка табе будзе ў салдатах служыць. Каб пасля не каяўся!

І зрабілі Сямёна шэрым зайцам:

– Збегай паглядзі спачатку на салдацкае жыццё-быццё.

Пабег Сямён шэрым зайцам, паглядзеў на салдат. Вучаць іх строем хадзіць: «Раз, два! Раз, два!» Прымушаюць усіх адразу

паварочвацца: «Налева!.. Направа!.. Кругом!..» Вучаць цераз ірвы, канавы пераскокваць. Вучаць быстрыя рэкі пераплываць, са стрэльбаў страляць і штыкам! калоць: «Раз, два! Раз, два!» Будзяць на досвітку і да змяркання абучаюць.

Вярнуўся Сямён дадому.

Сонца, Вецер ды Месяц зрабілі яго добрым малойцам і пытаюцца:

– Бачыў, як цяжка ў салдатах служыць?

– Бачыў,– адказвае Сямён. А сам на сваім стаіць: Хочацца мне салдатам стаць.

Зрабілі яго Сонца, Месяц ды Вецер шпарканогім аленем:

– Бяжы прама тры дні, нікуды не збочвай, наглядзі яшчэ раз на салдат.

Бег Сямён шпарканогім аленем прама тры дні – і ўбачыў вялікае войска ў паходзе. Кожны салдат цяжкую паклажу нясе. Іх і сонца пячэ, і смага даймае, дождждык мочыць і холад студзіць. Ідуць: то гразюка па калені, то пыл слупам стаіць. Ідуць палкі ад раніцы да вечара: «Раз, два! Раз, два!» Усе, як адзін чалавек, крочаць.

Вярнуўся Сямён дадому.

Сонца, Вецер ды Месяц зрабілі яго добрым малойцам і кажуць:

– Тыя палкі, што ты бачыў, ідуць на вайну. Бачыў, якія цяжкія салдацкія паходы? Можа, цяпер перадумаў і чаго-небудзь іншага папросіш?

А Сямён адно паўтарае:

– Хачу салдатам стаць!

Тады Сонца, Вецер ды Месяц зрабілі яго трэці раз– ясным сокалам:

– Злятай паглядзі, як б'юцца салдаты ў баі.

Паляцеў Сямён ясным сокалам. Тры дні ляцеў – і ўбачыў бітву, крывавы бой. Тыя салдаты, што ў паходзе былі, грудзьмі сышліся з ворагам. Са стрэльбаў страляюць, быццам гром грыміць, дым наўкола сцелецца. Колюць штыкамі, шаблямі сякуць. Адна нага прэч – на другой стаіць; адна рука прэч–другою страляе. І не ўстаялі варожыя полчышчы, пабеглі без аглядкі…

Вярнуўся Сямён дадому.

Сонца, Вецер ды Месяц зрабілі яго добрым малойцам: і пытаюцца:

– Пабачыў, як цяжка салдатам на вайне? Ці пойдзеш цяпер у салдаты?

А Сямёну яшчэ мацней захацелася:

– Хачу ў салдатах служыць, сваю зямлю ад ворага бараніць!

– Ну, хай будзе па-твойму,– Сонца, Вецер ды Месяц кажуць.–

А калі спатрэбіцца як салдату ворага высачыць або куды-небудзь спяшацца давядзецца, успомні зайца ды стукніся вобземлю – і станеш зайцам, а потым перакуліся цераз сябе – зноў чалавекам зробішся. Успомніш аленя, стукніся вобземлю – станеш аленем, а сокала прыгадаеш ды вобземлю стукнется – сокалам паляціш.

І стаў Сямён салдатам.

Служыў ён год ці два, і тут здарылася вайна: чужаземны кароль з вялікім войскам напаў на царства. Усе салдаты ў паход сабраліся, і сам цар павёў палкі на вайну,

Ішлі насустрач ворагу тры месяцы і дайшлі да тых мясцін, дзе трэба бой пачынаць. Варожыя полчышчы зусім блізка.

На тым часе спахапіўся цар – няма яго мяча-кладзянца! Дома забыўся. А без таго цудоўнага мяча-кладзянца як цару ў бой ісці?

І клікнуў цар кліч па ўсіх палках:

– Хто хутчэй за ўсіх прынясе з палаца мой меч-кладзянец, таго за верную службу са сваёю дачкою Мар'яй-царэўнай ажаню і пры жыцці зяцю трэць царства адпішу, а пасля мае смерці і ўсё царства застанецца.

Ахвотнікаў знайшлося многа. Адны хваляцца:

– Мы за месяц звернемся, меч прынясём!

Другія бяруцца і праз два тыдні вярнуцца. А адзін баярын абяцаўся за дзесяць дзён па меч-кладзянец з’ездзіць.

Салдат Сямён кажа:

– Каб мяне паслалі, я за суткі справіўся б.

Дайшла тая чутка да цара. Цар зарадаваўся, паклікаў салдата Сямёна і падае пісьмо:

– Ідзі, перадай Мар’і-царэўне пісьмо, яна табе меч-кладзянец дасць. Калі прынясеш у пару, будзеш маім зяцем.

Рана-раненька выбраўся Сямён у дарогу-пуцявіну. Адышоўся з вярсту, схаваўся з вачэй і ўспомніў пра зайца. Стукнуўся вобземлю – і памчаўся шэрым зайцам. З горкі на горку скача, бяжыць на ўсю заечую моц. Потым зрабіўся аленем шпарканогім і яшчэ хутчэй пабег.

Бег, бег аленем, прытаміўся, зрабіўся ясным сокалам – і апоўдні трапіў у сталіцу. Зрабіў над горадам круг, спусціўся каля царскага палаца і заляцеў праз акно ў царскую святліцу да Мар’і-царэўны. Убачыла яна сокала, кінулася лавіць, а сокал перакуліўся цераз галаву і стаў перад Мар’яй-царэўнай прыгожым малойцам. Падаў ёй пісьмо:

– Цар-гасудар паслаў мяне па меч-кладзянец.

Мар'я-царэўна пісьмо прачытала і адразу ж прынесла меч-кладзянец. Салдата Сямёна напаіла, накарміла, пачала распытваць:

– Як табе ўдалося ясным сокалам зрабіцца? Пакажы мне.

Сямён стукнуўся аб падлогу і паляцеў па святліцы ясным сокалам. Зрабіў круг, апусціўся каля царэўны. Яна паспела вырваць адно сакалінае перца. Сокал перакуліўся цераз галаву і зрабіўся добрым малойцам. Другі раз стукнуўся аб падлогу – шэрым зайцам па святліцы пабег.

Яна выстрыгла жмуток заечай поўсці. Трэці раз стукнуўся Сямён аб падлогу і зрабіўся перад дзяўчынай шпарканогім аленем. Мар'я-царэўна пагладзіла аленя і выстрыгла жмуток аленевай поўсці. Перакуліўся олень цераз галаву– зрабіўся зноў добрым малойцам.

Салдат Сямён спадабаўся Мар'і-царэўне, і яна яму таксама спадабалася. Ды не было часу доўга гаманіць. Помніў Сямён пра справу, пачаў з царэўнай развітвацца. Яна яго за белыя рукі ўзяла, сваім жаніхом назвала.

Тут добры малойца стукнуўся аб падлогу, зрабіўся ясным сокалам, прыхапіў меч-кладзянец і вылецеў з царскіх пакояў. Мар'я-царэўна праз акно яму ўслед глядзела, пакуль бачыць магла ў небе сокала.

Доўга ці не доўга ляцеў сокалам – крылы стаміліся, шэрым зайцам паскакаў, потым аленем шпарканогім пабег і пад вечар трапіў да сваіх войскаў. Заставалася ўсяго з вярсту прайсці. Перакуліўся олень цераз галаву – зрабіўся добрым малойцам. І так ён стаміўся – кроку ступіць не можа. Сеў каля яра пад ракітавы куст і адразу задрамаў. Праз сон думае: «Давай пасплю гадзінку-другую, паспею яшчэ». Прываліўся і заснуў моцным сном.

Спіць салдат Сямён, ніякага гора-ліха не чуе над сабою.

На той час баярын, што абяцаўся за дзесяць дзён з'ездзіць па меч-кладзянец, міма праходзіў. Глядзіць ён – царскі ганец спіць і побач меч-кладзянец ляжыць. Спачатку баярын здзівіўся, а потым выхапіў шаблю, адсек салдату Сямёну галаву. Кінуў цела ў яр, забраў меч-кладзянец і панёс цару:

– Вось, цар-гасудар, абяцаўся я за дзесяць дзён справіцца, а здолеў за адзін дзень вярнуцца, не тое што салдацік-хвалько. Ён і дваццаці вёрст яшчэ не паспеў прайсці: як сюды ехаў– сустрэў яго. Праз паўгода ў сталіцу трапіць!

Цар здзівіўся, узяў меч у рукі:

– Той самы!

Баярына пахваліў і пытаецца:

– Што новага ў сталіцы? Ці ўсё добра? І як цябе Мар'я-царэўна сустрэла? Я ж пісьмо сваё з салдатам паслаў.

– У сталіцы ўсё спакойна. Чакаюць цябе, царская вялікасць, з перамогаю. А Мар'я-царэўна мне, твайму баярыну, і без пісьма паверыла – я ёй усё на словах расказаў – і падала меч-кладзянец ды кланяцца загадала,

Назаўтра раніцай павёў цар свае войскі на ворага і нашчэнт разбіў варожыя полчышчы ў тым баі. Палавіну чужаземных салдат пасеклі, астатніх у палон узялі. Толькі каралю з блізкімі генераламі ўдалося ўцячы.

Загадаў цар усім сваім войскам адпачываць. Выкацілі бочкі з віном, пачастункаў панаставілі і давай банкетаваць. Трубы трубяць, барабаны б'юць, музыка іграе, песні пяюць. А як адбанкеталі, адсвяткавалі, рушыла войска дадому. Усюды іх па дарозе з радасцю сустракаюць, віншуюць-вітаюць...

Многа ці мала мінула часу – убачыў Месяц у яры забітага салдата Сямёна і кажа Ветру ды Сонцу:

– Служыў Сямён верай і праўдай, ды загінуў не ў баі, а ад нечай ліхой рукі. Трэба яго ажывіць, з бяды выбавіць.

Сонца пасылае:

– Ляці, Вецер, за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае царства, дастань у царыцы-даўганоскі жывой і мёртвай вады.

Расстараўся Вецер жывой і мёртвай вады, вярнуўся.

Папырскалі цела Сямёна мёртваю вадою – загаіліся раны, прырасла галава, як была. Папырскалі жывою вадою– уздыхнуў салдат Сямён, расплюшчыў вочы, на ногі падняўся:

– Бацюхны, ці не праспаў я часам?

Сам навокал азіраецца, шукае меч-кладзянец.

– Век бы ты тут спаў, каб мы цябе не ажывілі,– Сонца, Вецер ды Месяц кажуць.– Позна цяпер. тут цара шукаць: вайна даўно скончылася і ўсё войска з перамогаю ў сталіцу вярнулася. Трэба і табе самому туды спяшацца.

Салдат Сямён Сонцу, Ветру ды Месяцу ўсё пра службу сваю расказаў, за помач падзякаваў і пабег шэрым зайцам. Потым зрабіўся шпарканогім аленем. Бяжыць, спяшаецца – дарога не блізкая.

Якая вялікая зямля наша – канца-краю ёй няма!

Бег-бег аленем, прытаміўся, зрабіўся ясным сокалам. Ляціць над лясамі дрымучымі, над палямі шырокімі, над быстрымі рэкамі, над гарамі высокімі. Пад ім сёлы, гарады раскінуліся, раскошна стаяць.

І вось паказалася сталіца.

Апусціўся ясны сокал паблізу заставы, перакуліўся цераз сябе – зрабіўся добрым малойцам.

А ў горадзе ўсе дамы ўпрыгожаны. З гармат страляюць, у званы звоняць, і народ апрануты па-святочнаму. Усе смяюцца, шумяць, «ура» крычаць.

Пытаецца салдат Сямён у гараджан:

– Што за свята ў вас у горадзе?

Дзівяцца прахожыя:

– Відаць, ты здалёку прыйшоў, калі нічога не ведает! Нядаўна вярнуліся з перамогаю нашы войскі. І вось увесь народ праслаўляе сваіх салдат ды ваяводаў, а больш за ўсіх славіць баярына, які за адны суткі меч-кладзянец з палаца на поле бою цару прынёс. Сёння

прызначана вяселле: жэніцца той баярын з Мар'яй-царэўнай, і клічуць увесь народ у палац на вясельны банкет.

Салдат Сямён папрасіўся ў адной бабулькі на пастой. Адпачнуў крыху, потым памыўся, прыбраўся, узяў гуселькі і пайшоў на вяселле.

На царскім двары сталы панастаўлены. Піцення-ядзення стаіць поўным-поўна. Тыя сталы для ўсіх гараджан.

А на самым высокім ганку за асобным сталом, на вачах ва ўсіх, цар з царыцаю, жаніх з нявестаю ды блізкія баяры сядзяць. Усе на банкеце п'юць, ядуць, весяляцца. Адна нявеста невясёлая.

Народ за крайнім сталом перагаворваецца:

– Не па сваёй волі Мар'я-царэўна за баярына ідзе. Кажуць, сілком аддаюць.

Прымасціўся салдат Сямён каля апошняга стала, выпіў чарку маладога віна і пачаў на гусельках іграць ды жаласна прымаўляць:

– Авохці мне ды перавохці мне!
Забылася пра мяне краса дзяўчына-душа.
А нядаўна ж яна, краса дзяўчына-душа,
Словам ласкавым сустракала,
Жаніхом сваім называла.
Праз акенца мяне, яснага сокала, выпускала…

Мар'я-царэўна страпянулася, як пачула песню. Пачала па баках азірацца і ўбачыла салдата Сямёна.

З месца паднялася, адлучылася на хвілінку з-за стала, вярнулася і кажа:

– Цар-гасудар, не загадвай караць, дай мне слова сказаць!

Цар дазволіў:

– Гавары, мая любая дачушка.

Мар'я-царэўна пакланілася на ўсе чатыры бакі, а цару з царыцаю асобна:

– Ці ведаеш ты, цар-гасудар, што не той мой жаніх, што каля мяне сядзіць, а той мой жаніх, што за крайнім сталом на двары на гусельках іграе?

Тут цар з царыцаю, і жаніх, і баяры, і ўсе госці перапужаліся:

– Што такое? Што з нявестаю сталася?

А Мар'я-царэўна кажа:

– Пакажы, салдат Сямён, як ты мог хутка збегаць па царскі

меч-кладзянец.

Выйшаў Сямён з-за стала, стукнуўся вобземлю – шэрым зайцам пабег. Зрабіў круг па двары і ўскочыў на высокі ганак.

Мар'я-царэўна вузлік развязала, дастала заечай поўсці жмуток:

– Паглядзіце, бацюхна з матухнай, і вы ўсе, госці шаноўныя, адкуль у мяне заечая поўсць.

Прыклала жмуток поўсці да таго месца, дзе выстрыгла, і ўсе бачаць: так і было. Перакуліўся Сямён цераз галаву – зрабіўся добрым малойцам і зноў стукнуўся вобземлю – стаў аленем.

Дастала царэўна жмуток аленевай поўсці, і ўсе бачаць: тая самая ёсць.

Потым Сямён зрабіўся ясным сокалам. Прыклала царэўна сакалінае пяро: яно як тут і было. Салдат Сямён Мар'я-царэўна расказалі цару з царыцаю ды гасцям усю праўду, а баярын стаіць ні жывы ні мёртвы.

Цар загадаў баярына ў турму пасадзіць, а салдата Сямёна з Мар’яй-царэўнай павянчалі, і стаў салдат Сямён галоўным ваяводам у тым царстве.

## ПАЙДЗІ ТУДЫ – НЕ ВЕДАЮ КУДЫ, ПРЫНЯСІ ТОЕ – НЕ ВЕДАЮ, ШТО ТАКОЕ

У адным краі жыў-быў цар, халасты – не жанаты. Быў у яго па службе стралок, якога звалі Андрэй.

Пайшоў аднойчы Андрэй-стралок на паляванне. Хадзіў, хадзіў цэлы дзень па лесе – не пашанцавала, не мог на дзічыну натрапіць. Тым часам вечарэць пачало; ідзе ён дадому засмучаны. Аж бачыць – сядзіць на дрэве галубка.

«Давай, – думае, – стрэльну хоць гэтую».

Стрэльнуў і параніў яе – звалілася галубка з дрэва на сырую зямлю. Падняў яе Андрэй, хацеў адкруціць ёй галаву, пакласці ў торбу.

А галубка кажа яму чалавечым голасам:

– Не губі мяне, Андрэй-стралок! Вазьмі мяне жывую, прынясі дадому, пасадзі на акенца. Ды глядзі: як нападзе на мяне дрымота, адразу ж бі мяне правай рукой наводмаш – здабудзеш сабе вялікае шчасце.

Здзівіўся Андрэй-стралок: што такое? З выгляду звычайная птушка, а гаворыць чалавечым голасам. Прынёс ён галубку дадому, пасадзіў на акенца, а сам стаіць, чакае.

Мінуў нейкі час, галубка засунула галоўку пад крыло і задрамала. Андрэй успомніў, што яна яму наказвала,– стукнуў яе

правай рукой наводмаш. Упала галубка на зямлю і зрабілася дзяўчынай Мар'яй-царэўнай, ды такой прыгожай, што ні прыдумаць, ні згадаць, толькі ў казцы сказаць.

Кажа Мар'я-царэўна стралку:

– Здолееў ты мяне ўзяць, умей і ўтрымаць – паціху, без шуму трэба вяселле спраўляць. Буду табе добрай ды вясёлай жонкай.

На тым яны і паладзілі.

Ажаніўся Андрэй-стралок з Мар'яй-царэўнай і жыве з маладою жонкаю – цешыцца. А службы не забывае: кожную раніцу на досвітку ідзе ў лес, настраляе дзічыны і нясе на царскую кухню.

Пажылі яны так нядоўга. Мар'я-царэўна кажа:

– Бедна жывеш ты, Андрэй.

– Ды як сама бачыш.

– Расстарайся рублёў сто, купі на гэтыя грошы featuresрознага шоўку, я ўсё папраўлю.

Паслухаўся Андрэй, пайшоў да таварышаў, у каго рубель, у каго два пазычыў, накупляў рознага шоўку і прынёс жонцы. Мар'я-царэўна ўзяла шоўк і кажа:

– Кладзіся спаць, раніца за вечар мудрэйшая.

Андрэй лёг спаць, а Мар'я-царэўна села ткаць. Усю ноч ткала і выткала дыван, якога на ўсім свеце не бачылі: на ім усё царства вышыта, з гарадамі і вёскамі, з лясамі і нівамі, і птушкі ў небе, і звяры на гарах, і рыбы ў марах; наўкруг месяц і сонца ходзяць…

Раніцай Мар'я-царэўна аддае дыван мужу:

– Ідзі на гасцінны дпор, прадай купцам, ды глядзі – свае цаны не прасі, а што дадуць, тое і бяры.

Андрэй узяў дыван, павесіў на руку і найшоў па гандлёвых радах.

Падбягае да яго адзін купец:

– Паслухай, шаноўны, колькі просіш?

– Ты купец-гандляр, ты і цану прызначай.

Купец думаў, думаў – не можа ацаніць дыван. Падскочыў другі, за ім – яшчэ. Сабраўся натоўп вялікі купцоў, глядзяць на дыван, дзівяцца, а ацаніць не могуць.

На той час ехаў міма гандлёвых радоў царскі дарадца, і захацелася яму даведацца, пра што гэта гамоніць купецтва. Вылез з карэты, ледзьве праціснуўся праз вялікі натоўп і пытаецца:

– Дзень добры, купцы, заморскія госці. Пра што ў вас гамонка?

– Так і так, дывана ацаніць не можам.

Царскі дарадца паглядзеў на дыван і сам дзіву даўся:

– Скажы, стралок, скажы праўду шчырую: адкуль ты здабыў гэтакі цудоўны дыван?

– Так і так, мая жонка вышыла.

– Колькі ж табе даць за яго?

– А я сам не ведаю. Жонка наказала но таргавацца: колькі дадуць, тое і наша.

– Ну, вось табе, стралок, дзесяць тысяч.

Андрэй узяў грошы, аддаў дыван і пайшоў дадому. А царскі дарадца паехаў да цара і паказвае яму дыван.

Цар зірнуў – на дыване ўсё царства як на далоні. Ён так і ахнуў:

– Ну, што хочаш, а дывана я табе не аддам!

Дастаў цар дваццаць тысяч рублёў і аддае дарадцу

з рук у рукі. Дарадца грошы ўзяў і думае: «Нічога, я табе другі, яшчэ лепшы, закажу».

Сеў зноў у карэту і памчаўся ў слабаду. Знайшоў хатку, дзе жыве Андрэй-стралок, і стукаецца ў дзверы. Мар'я-царэўна адчыняе яму. Царскі дарадца адною нагою цераз парог пераступіў, а другою не пераступае, маўчыць і чаго прыехаў забыў: стаіць перад ім такая красуня-прыгажуня, век бы з яе вачэй не зводзіў, усё б глядзеў ды глядзеў.

Мар'я-царэўна чакала-чакала, што ён скажа, а потым павярнула царскага дарадцу за плечы І дзверы зачыніла. Ледзьве ён апамятаўся, нехаця паплёўся дадому. І з таго часу і есць не наесца і п'е – не нап'ецца: усё ў яго перад вачамі жонка стралка стаіць. Прыкмеціў гэта цар і пачаў дапытвацца, што за журба ў яго такая.

Дарадца кажа цару:

Ах, бачыў я ў аднаго стралка жонку, усё пра яе думаю! І не заесці гэта, не запіць, ніякімі зёлкамі не заваражыць.

Захацелася цару самому жонку стралка паглядзець. Надзеў ён не царскае, а звычайнае адзенне, паехаў у слабаду, знайшоў хату, дзе жыве Андрэй-стралок, і стукаецца ў дзверы. Мар'я-царэўна адчыніла яму. Цар адною нагою цераз парог пераступіў, другою не можа, зусім анямеў: стаіць перад ім невыказная прыгажосць.

Мар'я-царэўна чакала-чакала, што ён скажа, а потым павярнула цара за плечы і дзверы зачыніла.

Зашчымела ў цара на сэрцы. «Чаго,– думае,– хаджу халасты, не жанатыі Вось каб ажаніцца з гэтай красуняй. Не стральчыхай ёй быць–на раду ёй напісана быць царыцаю».

Вярнуўся цар у палац і задумаў думу нядОбрую – адбіць жонку ў жывога мужа. Кліча ён дарадца і кажа:

– Прыдумай, як звесці са свету Андрэя-стралка. Хачу з яго жонкай ажаніцца. Прыдумаеш – узнагароджу гарадамі і вёскамі і залатою казною, не прыдумаеш – здыму галаву з плеч.

Зажурыўся царскі дарадца, пайшоў і нос звесіў. Як зжыць са свету стралка, не можа прыдумаць. Ды з гора завярнуў у карчму

віна выпіць.

Падбягае да яго карчомны выпівоха ў падраным каптаніку:

– Чаго, царскі дарадца, зажурыўся, чаго нос павесіў?

– Ідзі прэч, карчомны выпівоха!

– А ты мяне не гані, лепей шкляначку вінца паднясі, можа, я табе што-небудзь падкажу.

Паднёс яму царскі дарадца шклянку вінца і расказаў пра сваё гора. Карчомны выпівоха і кажа яму:

– Звесці са свету Андрэя-стралка справа няхітрая – сам ён прасцяк, ды жонка ў яго надта ж мудрая. Ну, ды мы зададзім загадку такую, што ёй не справіцца. Ідзі да цара і скажы: няхай ён пашле Андрэя-стралка на той свет даведацца, як пажывае нябожчык цар-бацюхна, Андрэй пойдзе і назад не вернецца.

Царскі дарадца падзякаваў карчомнаму выпівоху – ды бягом да цара:

– Так і так, можна стралка са свету звесці.

І расказаў, куды трэба паслаць і па што. Цар зарадаваўся, загадаў паклікаць Андрэя-стралка.

– Ну, Андрэй, служыў ты мне верай-праўдай, саслужы яшчэ службу, сходзі на той свет, даведайся, як. пажывае мой бацюхна. А не, дык мой меч–твая галава з плеч.

Андрэй вярнуўся дадому, сеў на лаўку і галаву звесіў. Мар'я-царэўна ў яго пытаецца:

– Чаго невясёлы? Мо няшчасце якое?

Расказаў ёй Андрэй, якую цар задаў яму службу, Мар'я-царэўна кажа:

– Ёсць аб чым бедаваць! Гэта не служба, а службачка, служба наперадзе будзе. Кладзіся спаць, раніца за вечар мудрэйшая.

Назаўтра раненька, толькі Андрэй прачнуўся, Мар'я-царэўна дае яму мяшок сухароў і залаты пярсцёнак:

– Ідзі да цара і прасі сабе ў тавьрышы царскага дарадцу, а то, скажы, табе не паверац, што быў на тым свеце. А як выйдзеш з таварышам у дарогу-пуцявіну, кінь перад сабою пярсцёнак, ён цябе завядзе.

Андрэй узяў мяшок сухароў і пярсценак, развітаўся з жонкаю і пайшоў да цара прасіць сабе на дарогу таварыша. Нічога не зробіш, цар згадзіўся, загадаў дарадцу ісці з Андрэем на той свет.

Вось яны ўдвух і выправіліся ў дарогу. Андрэй кінуў пярсцёнак – той і пакаціўся. Андрэй ідзе за ім палямі чыстымі, імхамі-балотамі, рэкамі-азёрамі, а за Андрэем царскі дарадца валачэцца.

Стомяцца ісці, паядуць сухароў – і зноў у дарогу.

Блізка ці далёка, хутка ці не – прыйшлі яны ў густы, дрымучы лес, спусціліся ў глыбокі яр, і тут пярсцёнак спыніўся.

Андрэй і царскі дарадца селі паесці сухароў. Зірк, паўз іх на старым-старэнькім цары двое чарцей дровы вязуць – вялізны воз – і паганяюць цара дубінкамі, адзін з правага боку, другі з левага.

Андрэй кажа:

– Глядзі! Як быццам гэта наш нябожчык цар-бацюхна?

– Ага, твая праўда, гэта ён самы дровы вязе.

Андрэй і закрычаў чарцям:

– Гэй, панове чэрці! Аслабаніце мне гэтаганябожчыка хоць на малы час, мне трэба ў яго пра сёе-тое распытаць.

Чэрці адказваюць:

– Няма калі нам стаяць ды чакаць! Самі, ці што, дровы павязём?

– А вы вазьміце ў мяне свежага чалавека па падмену.

Ну, чэрці выпраглі старога цара, на яго месца запрэглі ў воз царскага дарадцу і давай яго з абодвух бакоў паганяць дубінкамі – той гнецца, крэкча, а вязе.

Пачаў Андрэй распытваць старога цара пра яго жыццё-быццё.

– Ах, Андрэй-стралок,– адказвае цар, – кепскае мае жыццё на тым свеце! Пакланіся ад мяне сыну ды перадай, што я моцна-моцна яму наказваю, каб людзей не крыўдзіў, а не, дык і з ім тое самае будзе.

Толькі паспелі яны пагаманіць, чэрці ўжо назад едуць з парожнім возам. Андрэй развітаўся са старым царом, узяў у чарцей царскага дарадцу, і пайшлі яны назад.

Прыходзяць у сваё царства і з'яўляюцца ў палац. Цар убачыў стралка і са злосці накінуўся на яго:

– Як ты пасмеў назад вярнуцца?

Андрэй-стралок адказвае:

– Так і так, быў я на тым свеце ў вашага нябожчыка бацькі. Жыве ён кепска, загадаў вам кланяцца ды моцна-моцна наказваў людзей не крыўдзіць.

– А чым дакажаш, што хадзіў на той свет і майго бацьку бачыў?

– А тым я дакажу, што ў вашага дарадцы на спіне. І цяпер яшчэ сінякі відаць, як яго чэрці дубінкамі паганялі.

Тут цар пераканаўся, нічога не зробіш – адпусціў Андрэя дадому. А сам кажа дарадцу:

– Прыдумай, як звесці са свету стралка, а не, дык мой меч–твая галава з плеч.

Пайшоў царскі дарадца, яшчэ ніжэй нос звесіў. Заходзіць у карчму, сеў за стол, папрасіў віна. Падбягае да яго карчомны выпівоха:

– Чаго, царскі дарадца, зажурыўся? Паднясі мне шкляначку,

я табе што-небудзь падкажу.

Дарадца паднёс яму шкляначку віна і расказаў пра сваю бяду. Карчомны выпівоха яму гаворыць:

– Вярніся назад і скажы цару, каб задаў ён стралку вось якую службу – яе не тое што выканаць, цяжка нават выдумаць: няхай пашле яго за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае царства раздабыць ката-баюна.

Царскі дарадца пабег да цара і расказаў, якую службу задаць стралку, каб ён назад не вярнуўся. Цар пасылае па Андрэя:

– Ну, Андрэй, саслужыў ты мне службу, саслужы другую: ідзі ў трыдзесятае царства і раздабудзь мне ката-баюна. А не, дык мой меч – твая галава з плеч.

Пайшоў Андрэй дадому, ніжэй плячэй галаву звесіў і расказвае жонцы, якую цар задаў яму службу.

– Ёсць аб чым журыцца!–Мар'я-царэўна кажа.– Гэта не служба, а службачка, служба будзе наперадзе. Кладзіся спаць, раніца за вечар мудрэйшая.

Андрэй лёг спаць, а Мар'я-царэўна пайшла ў кузню і загадала кавалям выкаваць тры каўпакі жалезныя, жалезныя клешчы і тры пруты: адзін жалезны, другі медны, трэці алавяны.

Назаўтра раненька Мар'я-царэўна пабудзіла Андрэя:

– Вось табе тры каўпакі ды клешчы і тры пруты, ідзі за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае царства. Трох вёрст не дойдзеш, пачне цябе моцна на сон хіліць – кот-баюн на цябе дрымоту напусціць. Ты не спі, рукамі махай, нагамі перабірай, а дзе і бокам каціся. Бо калі заснеш, кот-баюн заб'е цябе.

І тут Мар'я-царэўна навучыла яго, як і што рабіць, і адпусціла ў дарогу.

Хутка казка расказваецца, ды не хутка ўсё робіцца – прыйшоў Андрэй-стралок у трыдзесятае царства. За тры вярсты пачаў яго адольваць сон. Надзявае Андрэй на галаву тры жалезныя каўпакі, рукамі махае, нагамі перабірае – ідзе, а дзе і бокам коціцца.

Сяк-так адолеў дрымоту і апынуўся каля высокага слупа.

Кот-баюн убачыў Андрэя, забурчаў, завуркатаў ды са слупа скок яму на галаву! Адзін каўпак разбіў і другі разбіў, узяўся быў за трэці. Тут Андрэй-стралок. схапіў ката клешчамі, сцягнуў на зямлю і давай прутамі лупцаваць. Спачатку біў жалезным прутом, зламаў жалезны, узяўся частаваць медным, і гэты зламаў і ўзяўся біць алавяным.

Алавяны прут гнецца, не ломіцца, вакол хрыбецінЫ абвіваецца. Андрэй б'е, а кот-баюн пачаў казкі расказваць пра папоў, пра дыяканаў, пра паповых дачок. Андрэй яго не слухае, усё лупцуе прутом.

Не пад сілу стала кату цярпець, бачыць, што не загаварыць яму Андрэя, ён і пачаў прасіцца:

– Адпусці мяне, добры чалавек! Што трэба, усё табе зраблю!

– А пойдзеш са мною?

– Куды хочаш пайду.

Андрэй падаўся ў дарогу назад і ката за сабою павёў. Дабраўся да свайго царства, прыходзіць з катом у палац, і кажа цару:

– Так і так, службу выканаў, здабыў вам ката-баюна.

Цар здзівіўся і кажа:

– Ану, кот-баюн, пакажы вялікі шал!

Тут кот кіпцюры свае вострыць, на цара імі мерыцца, хоча ў яго грудзі белыя раздзіраць, з жывога сэрца даставаць.

Цар спужаўся:

– Андрэй-стралок, сунімі, калі ласка, ката-баюна!

Андрэй ката супакоіў і ў клетку замкнуў, а сам пайшоў дадому, да Мар'і-царэўны. Жыве-пажывае, цешыцца з маладою жонкаю.

А ў цара яшчэ мацней сэрца шчыміць, няма яму спакою. Зноў паклікаў ён дарадцу:

– Што хочаш прыдумай, а звядзі са свету Андрэя-стралка, а не, дык мой меч – твая галава з плеч.

Царскі дарадца ідзе адразу ў карчму, знайшоў там карчомнага выпівоху ў падраным каптанчыку і просіць яго выручыць, падказаць што-небудзь. Карчомны выпівоха шкляначку віна выпіў, вусы выцер.

– Ідзі,– кажа,– да цара і скажы: няхай пашле Андрэя-стралка туды – не ведаю куды, прынесці тое – не ведаю, што такое. Гэтай задачы Андрэй ніколі не выканае і назад не вернецца.

Дарадца пабег да цара і ўсё яму далажыў. Цар пасылае па Андрэя:

– Саслужыў ты мне дзве службы, саслужы трэцюю: схадзі туды – не ведаю куды, прынясі тое – не ведаю, што такое. Саслужыш – узнагароджу па-царску, а не, дык мой меч – твая галава з плеч.

Прыйшоў Андрэй дадому, сеў на лаўку і заплакаў. Мар'я-царэўна ў яго пытаецца:

– Што, любы мой, такі невясёлы? Ці яшчэ бяда якая?

– Эх,– кажа,– за тваю красу ўсе напасці нясу! Загадаў мне цар ісці туды – не ведаю куды, прынесці тое – не ведаю, што такое.

– От гэта служба! Ну, ды нічога, кладзіся спаць, раніца за вечар мудрэйшая.

Мар'я-царэўна дачакалася ночы, разгарнула чараўнічую кнігу, чытала, чытала, чытала, кінула кнігу і за галаву схапілася:

пра царову загадку ў кнізе нічога не сказана. Мар’я-царэўна выйшла на ганак, дастала хусцінку і махнула. Назляталася ўсялякіх птушак, назбягалася ўсялякіх звяроў.

Мар'я-царэўна ў іх пытаецца:

– Звяры лясныя, птушкі паднябесныя! Вы, звяры, усюды гойсаеце, вы, птушкі, усюды лятаеце: ці не чулі, як дайсці туды – не ведаю куды, прынесці тое – не ведаю, што такое?

Звяры і птушкі адказалі:

– Не, Мар'я-царэўна, мы пра тое і не чулі.

Мар'я-царэўна махнула хусцінкай – звяры і птушкі

зніклі, нібы і не было іх. Махнула другі раз – з'явіліся перад ёю два волаты:

– Што трэба? Чаго жадаеце?

– Слугі мае верныя, занясіце мяне на сярэдзіну акіян-мора.

Падхапілі волаты Мар’ю-царэўну, занеслі на акіян-мора і сталі на сярэдзіне, на самай бездані,– самі стаяць, як слупы, а яе на руках трымаюць. Мар'я-царэўна махнула хусцінкай, і прыплылі да яе ўсе гады і рыбы марскія.

– Вы, гады і рыбы марскія, вы ўсюды плаваеце, на ўсіх астравах бываеце: ці не чулі, як дайсці туды це ведаю куды, прынесці тое – не ведаю, што такое?

– Не, Мар'я-царэўна, мы пра тое не чулі.

Зажурылася Мар'я-царэўна і загадала занесці сябе дадому. Волаты падхапілі яе, прынеслі па Андрэеў двор, паставілі каля ганка.

Назаўтра раненька Мар я-царэўна сабрала Андрэя ў дарогу і дала яму клубок нітак і вышываны ручнічок:

– Кінь клубок нітак перад сабою. Куды ён пакоціцца, туды і ты ідзі. Ды глядзі, куды б ні прыйшоў – будзеш умывацца, чужым ручніком не выцірайся, а выцірайся маім.

Андрэй развітаўся з Мар'яй-царэўнай, пакланіўся на ўсе чатыры бакі і пайшоў за заставу. Кінуў клубок перад сабою, клубок пакаціўся – коціцца ды коціцца. Андрэй ідзе за ім услед.

Хутка казка расказваецца, ды не хутка ўсё робіцца. Шмат царстваў і земляў прайшоў Андрэй. Клубок коціцца, нітка ад яго цягнецца: стаў клубок маленькі, з курыную галоўку; вось ужо які маленечкі зрабіўся, не відаць і на дарозе… Дайшоў Андрэй да лесу, бачыць – стаіць хатка на курыных лапках.

– Хатка, хатка, павярніся да мяне перадам, да лесу задам!

Хатка павярнулася, Андрэй увайшоў, аж бачыць – на лаўцы сядзіць сівая бабуля, прадзе кудзелю.

– Фу, фу! Рускага духу не чута і не бачана, а сёння рускі дух сам прыйшоў! Вось засмажу цябе ў печы ды з'ем і на костачках пакачаюся.

Андрэй кажа бабулі:

– Што ты, старая баба-яга, будзеш есці падарожнага чалавека! Падарожны чалавек кашчавы і чорны, ты спачатку напалі лазню, памый мяне, папар, тады і еш.

Баба-яга выпаліла ў лазні. Андрэй папарыўся, памыўся, дастаў жончын ручнічок і пачаў ім выціраццa.

Баба-яга пытаецца:

– Адкуль у цябе ручнічок? Яго мая дачка вышывала.

– Твая дачка мне жонка, мне і ручнічок дала.

– Ах, зяцюхна любы, чым жа мне цябе частаваць?

Тут баба-яга сабрала вячэру, панастаўляла ўсялякіх страў, віна і мёду. Андрэй не фанабэрыцца– сеў за стол, давай аплятаць. Баба-яга прысела побач – ён есць, яна распытвае: як ён з Мар'яй-царэўнай ажаніўся ды ці добра яны жывуць.

Андрэй усё расказаў: як жаніўся і як цар паслаў яго туды – не ведаю куды, здабыць тое – не ведаю, што такое.

– От каб ты памагла мне, бабуся!

– Ах, зяцюхна, пра гэтае ж дзіва дзіўнае нават я не чула! Ведае пра гэта адна старая жаба, жыве яна ў балоце трыста гадоў... Ну нічога, кладзіся спаць, раніца за вечар мудрэйшая.

Андрэй лёг спаць, а баба-яга ўзяла два венікі-дзеркачы, паляцела на балота і пачала клікаць:

– Бабка, жабка-скакуха, ці жывая ты?

– Жывая!

– Выйдзі да мяне з балота!

Старая жаба выйшла з балота, баба-яга ў яе пытаецца:

– Ці ведаеш ты, дзе тое – не ведаю, што такое?

– Ведаю.

– Скажы, зрабі ласку! Зяцю майму загадана служба: пайсці туды – не ведаю куды, узяць тое – не ведаю, што такое.

Жаба адказвае:

– Я яго правяла б, ды надта ж старая, мне туды не даскакаць. Данясе твой зяць мяне ў сырадоі да вогненнай ракі, тады скажу.

Баба-яга ўзяла жабку-скакуху, паляцела дадому. Надаіла малака ў гаршчок, пасадзіла туды жабу і ранічкай пабудзіла Андрэя.

– Ну, зяць дарагі, адзявайся, вазьмі гаршчок з сырадоем, у малацэ – жаба, ды садзіся на майго каня, ён цябе завязе да вогненнай ракі. Там каня кінь і даставай з гаршка жабу, яна табе скажа.

Андрэй адзеўся, узяў гаршчок, сеў на каня бабы-ягі Доўга ці не – конь дамчаў яго да вогненнай ракі. Цераз яе ні звер не пераскочыць, ні птушка не пераляціць.

Андрэй злез з каня, жаба яму кажа:

– Дастань мяне, добры малойца, з гаршка, трэба нам цераз раку перабрацца.

Андрэй дастаў жабу з гаршка і пусціў на зямлю.

– Ну, добры малойца, цяпер садзіся мне на спіну.

– Што ты, бабуся, ты ж гэткая маленькая, я ж цябе задушу!

– Не бойся, не задушыш. Садзіся ды трымайся мацней.

Андрэй сеў на жабу-скакуху. Пачала яна надзімацца. Надзімалася, надзімалася – зрабілася быццам капа сена.

– Ці моцна трымаешся?

– Моцна, бабуся.

Зноў пачала жаба надзімацца – зрабілася яшчэ большай, нібы стог сена.

– Ці моцна трымаешся?

– Моцна, бабуся.

Зноў яна надзімалася, надзімалася – зрабілася вышэйшай за цёмны лес, ды як скочыць–і пераскочыла цераз вогненную раку; перанесла Андрэя на той бераг і зрабілася зноў маленькай.

– Ідзі, добры малойца, па гэтай сцяжынцы. Убачыш будыніну, хату–не хату, хлеў – не хлеў, заходзь туды і станавіся за печчу. Там знойдзеш тое – не ведаю, што такое.

Андрэй пайшоў па сцяжынцы, бачыць: старая хата – не хата, тынам абгароджана, без акон, без ганка. Ён туды зайшоў і схаваўся за печчу.

Вось праз нейкі час застукала, загрукала па лесе, і заходзіць у хату мужычок, сам з кокаць, барада з локаць, ды як крыкне:

– Гэй, сват Навум, есці хачу!

Толькі крыкнуў, ні адсюль ні адтуль з'явіўся стол накрыты, на ім піва бочачка ды бык засмажаны. Мужычок, сам з кокаць, барада з локаць, сеў каля быка, дастаў нож востры, пачаў мяса наразаць, у часнок мачаць, есці ды пахвальваць. Ацерабіў быка да апошняй костачкі, выпіў цэлую бочачку піва.

– Гэй, сват Навум, прыбяры аб’едкі!

І раптам стол прапаў, як і не было: ні касцей, ні бочачкі.

Андрэй дачакаўся, калі пойдзе мужычок, сам з кокаць, барада з локаць, выйшаў з-за печы, набраўся смеласці і паклікаў:

– Сват Навум, пакармі мяне!

Толькі паклікаў, ні адсюль ні адтуль з'явіўся стол, на ім розныя стравы, закускі і заедкі, віно і мёд.

Андрэй сеў за стол і кажа:

– Сват Навум, садзіся, браце, са мною, будзем есці-піць разам.

Адказвае яму нябачны голас:

– Дзякуй табе, добры чалавек! Столькі гадоў я тут служу, гарэлай скарынкі не бачыў, а ты мяне за стол пасадзіў.

Глядзіць Андрэй і дзівіцца: нікога не відаць, а

страва са стала нібыта хто мяцёлкай змятае, віно і мёд самі ў чарку наліваюцца – чарка скок, скок ды скок! Андрэй просіць:

– Сват Навум, пакажыся мне.

– Не, мяне ніхто не можа бачыць: я тое – не ведаю, што такое.

– Сват Навум, хочаш у мяне служыць?

– Чаму не хацець! Ты, бачу я, чалавек добры.

Вось паелі яны, Андрэй і кажа:

– Ну, прыбірай усё ды пойдзем са мною.

Выйшаў Андрэй з хаткі, азірнуўся:

– Сват Навум, ты тут?

– Тут. Не бойся, я ад цябе не адстану.

Дайшоў Андрэй да вогненнай ракі, там яго жаба чакае:

– Добры малойца, знайшоў тое – не ведаю, што такое?

– Знайшоў, бабуся.

– Садзіся на мяне.

Андрэй зноў сеў на яе, жаба пачала надзімацца; надзьмулася, скокнула і перанесла яго цераз вогненную раку.

Тут ён жабе-квакусе падзякаваў і пайшоў дарогай-пуцявінай у сваё царства. Ідзе, ідзе, азірнецца:

– Сват Навум, ты тут?

– Тут. Не бойся, я ад цябе не адстану.

Ішоў, ішоў Андрэй, дарога далёкая – прытаміліся яго шустрыя ногі, абвялі яго белыя рукі.

– Эх,– кажа,– да чаго ж я змарыўся!

А сват Навум яму:

– Чаму ж ты мне даўно не сказаў? Я ж бы цябе як бачыш на месца даставіў.

Падхапіў Андрэя магутны віхор і панёс – горы і лясы, гарады і вёскі так унізе і мільгаюць. Ляціць Андрэй над глыбокім морам, і зрабілася яму страшна:

– Сват Навум, перадыхнуць бы!

Вецер адразу паслабеў, і Андрэй пачаў апускацца на мора. Глядзіць – дзе шумелі адны сінія хвалі, з'явіўся астравок, на астраўку стаіць палац з залатым дахам, навокал сад цудоўны...

Сват Навум кажа Андрэю!

– Адпачывай, еш, пі ды на мора паглядвай. Будуць плыць міма тры купецкія караблі. Ты купцоў запрасі ды пачастуй як след – у іх ёсць тры дзівосныя рэчы, Ты мяне памяняй на гэтыя рэчы – не бойся, я да цябе назад вярнуся.

Доўга ці не – з заходняга боку плывуць тры караблі. Карабельшчыкі ўбачылі востраў, на ім палац з залатым дахам і навокал сад цудоўны.

– Што за цуд? – кажуць.– Колькі разоў мы тут плавалі, нічога,

апроч сіняга мора, не бачылі. Давайце прычалім.

Тры караблі кінулі якары, тры купцы-карабельйчыкі селі ў лёгкую лодачку, паплылі да вострава. А Андрэй-стралок ужо іх сустракае:

– Калі ласка, дарагія госці!

Купцы-карабельшчыкі ідуць, дзівяцца: на цераме дах як жар гарыць, на дрэвах птушкі пяюць, па дарожках звяры дзівосныя бегаюць.

– Скажы, добры чалавек, хто тут збудаваў гэта дзіва дзіўнае?

– Мой слуга, сват Навум, за адну ноч пабудаваў.

Андрэй павёў гасцей у церам:

– Гэй, сват Навум, падай нам папіць-паесці!

Ні адсюль ні адтуль з'явіўся накрыты стол, на ім віны і стравы, якія душа пажадае. Купцы-карабельшчыкі толькі ахкаюць.

– Давай,– кажуць,– добры чалавек, мяняцца: аддай нам свайго слугу, свата Навума, вазьмі ў нас за яго любую дзівосную рэч.

– Можна і памяняцца! А што ў вас за дзівосы?

Адзін купец дастае з-за пазухі дубінку. Ёй толькі скажы: «Ану, дубінка, палічы рэбры гэтаму чалавеку»,–дубінка сама пачне біць-малаціць, якому хочаш асілку дасць рады.

Другі купец дастае з-пад крыса сякеру, павярнуў яе абухом угору – сякера сама пачала сячы: цяп ды ляп – выйшаў карабель; цяп-ляп – яшчэ карабель з парусамі, з гарматамі, з храбрымі маракамі. Караблі плывуць, гарматы страляюць, храбрыя маракі загаду чакаюць.

Перавярнуў сякеру абухом уніз адразу караблі прапалі, быццам іх і не было.

Трэці купец дастаў з кішэні дудку, задудзеў – войска з'явілася: і конніца і пяхота, са стрэльбамі, з гарматамі. Войскі ідуць, музыка грыміць, сцягі лупаюць, коннікі імчацца, які загад будзе, пытаюцца.

Купец задудзеў з другога канца ў дудку і няма нічога, усё знікла.

Андрэй-стралок кажа:

– Нішто сабе вашы дзівосы, ды мой слуга даражэй каштуе. Хочаце мяняцца – аддавайце мне за майго свата Навума ўсе тры дзівосныя рэчы.

– А ці не зашмат будзе?

– Як сабе хочаце, інакш мяняцца не буду.

Купцы думалі, думалі: «Навошта нам дубінка, сякера ды дудка? Лети памяняцца, са сватам Навумам будзем без ніякіх клопатаў дзень і ноч і сытыя і п'яныя».

Аддалі купцы-карабельшчыкі Андрэю дубінку, сякеру і дудку

і крычаць:

– Гэй, сват Навум, мы цябе бяром з сабою! Будзеш нам служыць верай-праўдай?

Адказвае ім нябачны голас:

– Чаму не паслужыць! Мне ўсё адно, у каго жыць.

Купцы-карабельшчыкі вярнуліся на свае караблі і давай баляваць-банкетаваць – п'юць, ядуць ды ўсё пакрыкваюць:

– Сват Навум, паварочвайся, давай тое, давай гэтае!

Перапіліся ўсе дап'яна, дзе сядзелі, там і спаць паваліліся.

А стралок сядзіць адзін у цераме, зажурыўся. «Эх,– думае,–дзе гэта цяпер мой верны слуга, сват Навум?»

– Я тут. Што трэба?

Андрэй зарадаваўся:

– Сват Навум, ці не пара нам на родную зямельку, да маладой жонкі? Занясі мяне дадому.

Зноў падхапіў Андрэя віхор і панёс у яго царства, на родную зямельку.

А купцы прачнуліся, і захацелася ім апахмяліцца:

– Гэй, сват Навум, ану збяры нам папіць-паесці, ды хутчэй паварочвайся!

Колькі ні звалі, ні крычалі, усё няма толку. Глядзяць, і вострава няма: на месцы яго шумяць адны сінія валі.

Пабедавалі купцы-карабельшчыкі: «Эх, абдурыў нас нядобры чалавек!» – ды нічога не зробіш, паднялі парусы і паплылі, куды ім трэба было.

А Андрэй-стралок прыляцеў на родную зямельку, апусціўся каля свайго доміка, глядзіць – замест доміка абгарэлы комін тырчыць.

Звесіў ён галаву ніжэй плеч і пайшоў з горада да сіняга мора, на голае месца. Сеў і сядзіць. Раптам, ні адсюль ні адтуль, прылятае шызая галубка, стукнулася аб зямлю і зрабілася яго маладой жонкай, Мар'яй-царэўнай.

Абняліся яны, павіталіся, пачалі адно аднаго распытваць, адно аднаму расказваць.

Мар'я-царэўна расказала:

– З таго часу як ты з дому пайшоў, я шызайгалубкай лятаю па лясах ды па гаях. Цар тры разы па мяне пасылаў, ды мяне не знайшлі і домік спалілі.

Андрэй кажа:

– Сват Навум, а ці нельга нам на голым месцы каля сіняга мора палац паставіць?

– Чаму нельга! Зараз будзе зроблена.

Не паспелі азірнуцца – і палац стаіць, ды такі прыгожы, лепшы за царскі; навокал зялёны сад, на дрэвах птушкі пяюць, па

дарожках дзівосныя звяры бегаюць.

Увайшлі Андрэй-стралок з Мар'яй-царэўнай у палац, селі каля акенца і размаўляюць, адно на аднаго любуюцца.

Жывуць – гора не ведаюць, і дзень, і другі, і трэці.

А цар тым часам паехаў на паляванне да сіняга мора, аж бачыць – на тым месцы, дзе нічога не было, стаіць палац.

– Гэта які нахабнік без дазволу надумаўся на маёй зямлі будавацца?!

Пабеглі ганцы, усё разведалі і дакладваюць цару, што той Палац паставіў Андрэй-стралок і жыве ён у ім з маладою жонкаю, Мар'яй-царэўнай.

Яшчэ мацней загневаўся цар, пасылае даведацца, ці хадзіў Андрэй туды – не ведаю куды, ці прынёс тое – не ведаю, што такое.

Пабеглі ганцы, разведалі і дакладваюць:

– Андрэй-стралок хадзіў туды – не ведаю куды і раздабыў тое – не ведаю, што такое.

Тут цар і зусім раззлаваўся, загадаў сабраць войска, ісці на ўзмор'е, той палац разбурыць датла, а самога Андрэя-стралка і Мар'ю-царэўну пакараць лютай смерцю.

Убачыў Андрэй, што ідзе на яго вялікае войска, хутчэй схапіў сякеру, павярнуў яе абухом угору. Сякера цяп ды ляп – стаіць на моры карабель, зноў цяп ды ляп –

стаіць другі карабель. Сто разоў цяпнула – сто караблёў паплыло па сінім моры.

Андрэй дастаў дудку, задудзеў – з'явілася войска: і конніца і пяхота, з гарматамі, са сцягамі.

Начальнікі імчацца, загаду чакаюць. Андрэй загадаў пачынаць бой. Музыка зайграла, барабаны загрымелі, палкі рушылі. Пяхота крышыць царскіх салдат, конніца імчыцца, у палон забірае. А са ста караблёў гарматы так і б'юць па сталіцы.

Цар бачыць, войска яго ўцякае, кінуўся сам да войска– спыняць. Тут Андрэй дастаў дубінку:

– Ану, дубінка, палічы рэбры гэтаму цару!

Дубінка сама закруцілася, нібы кола, з аднаго канца на другі перакульваецца па чыстым полі; дагнала цара і стукнула яго ў лоб, забіла насмерць.

# БЫТАВЫЯ КАЗКІ

## МУЖЫК І ЦАР

Жыў-быў цар. Больш за ўсё на свеце любіў той цар казкі слухаць.

І ўсё яму хацелася новых ды новых казак. Прыдворныя казачнікі ўсе казкі, якія ведалі, пераказалі, і ніхто больш цару дагадзіць не можа. Загадаў цар кінуць кліч:

– Ажаню са сваёю дачкою і паўцарства дам таму, хто раскажа казку, якой я яшчэ не чуў!

Ахвотнікаў знайшлося шмат: і князі, і баяры, і генералы, і купцы– ды ўсё без толку. Толькі хто распачне расказваць якую-небудзь казку, а цар ужо крычыць:

– Ведаю, ведаю, чуў гэтую казку!

На тым усё і скончыцца. Таго жаніха і прагоняць.

А ў тым царстве жыў, гараваў бедны мужык. Ні хаты, ні гаспадаркі ў яго не было. Жыў дзе давядзецца, піў, еў што знойдзецца, Іншы дзень галаднавата, іншы дзень і зусім не еўшы сядзеў. Неяк раз зайшоў той бядак у шынок пагрэцца, выпіць чарку вінца. Шынкар з яго пасміхаецца:

– Чаму не ідзеш цару казкі расказваць? Пэўна, царэўна ўсе вочы прагледзела: чакае цябе, жаніха, не дачакаецца.

Слухае бядняк кплівыя словы, а сам думае: «Давай пайду паспрабую шчасця. Царскім зяцем мне, вядома, не быць, а хоць дзень-другі на гатовых харчах пажыву».

Прыйшоў у палац. Цар пытаецца:

– Чаго, мужык, прыйшоў?

– Хачу табе, царская вялікасць, казку расказаць. Толькі загадай спачатку накарміць, напаіць мяне.

Цар паглядзеў на яго і ўсміхнуўся:

«Ну і жаніх! Кашуля – лата на лаце, лапці аборкай падвязаны».

Але нічога, згадзіўся слухаць.

Мужыка накармілі, напаілі. Цар сабраў блізкіх баяр ды дарадцаў і загадвае мужыку:

– Расказвай тваю казку!

– Мой нябожчык бацька,– кажа мужык,– быў самы багаты чалавек у нашым царстве. Пабудаваў ён высозныя харомы. Па даху тых харомаў галубы хадзілі ды з неба зоркі дзяўблі. От якія высокія былі тыя харомы. А двор у нас быў такі, што за ўвесь летні дзень голуб не мог пераляцець з канца ў канец.

Цар маўчыць, і баяры маўчаць, не перабіваюць, а мужык кажа:

– Далей расказваць буду заўтра, пасля абеду, пад'еўшы пірагоў ды мяккага хлеба.

І пайшоў на кухню вячэраць.

Назаўтра ўвечары пачаў ён сваю казку далей расказваць:

– І стаяў у нас на двары сямігадовы бык. На адным рагу сядзеў у таго быка пастух, а на другім–другі. Пастухі ў трубы трубілі, на ражках ігралі, песні спявалі,

а адзін аднаго ў вочы не бачылі і голасу не чулі. Во які ў нас быў бык вялізны!

Маўчыць цар, не перабівае, і баяры маўчаць. Казачнік падняўся і кажа:

– Заўтра казку дакончу, а сёння спачываць пара.

І пайшоў на кухню вячэраць. Тут цар загаварыў:

– Што будзем рабіць, баяры? Гэтакай казкі я не чуў, а выдаваць сваю дачку замуж за мужыка-лапцюжніка не хачу. Прыдумайце, як казачніка ашукаць.

Князі ды баяры пачалі думу думаць. Думалі-думалі і прыдумалі:

– Скажы, цар-гасудар, што ты гэтую казку чуў, і мы ўсе пацвердзім: ведаем, маўляў, чулі пра гэта. А каб больш надзейна было, загадай пра гэта грамату напісаць, і пад гэтай граматай мы ўсе свае подпісы паставім.

На тым і пагадзіліся.

Мужык пра тую змову даведаўся, аде выгляду не паказвае. Назаўтра як нічога і не было прыйшоў пасля абеду, сеў і пачаў казку канчаць:

– Была ў майго нябожчыка бацькі кабылка, за тры дні вакол свету абягала...

Князі ды баяры з царом пераглядваюцца, у бароды пасміхаюцца, а казачнік расказвае:

– Золата ды серабра ў нас былі свірны паўнюткія насыпаны. І ты, цар-гасудар, тым часам пазычыў у нас хуфэрак золата і дагэтуль яшчэ не аддаў...

Тут цар закрычаў:

– Ведаю, ведаю!

І князі ды баяры падтакваюць:

– Ведаем, чулі гэтую казку і грамату пра гэта падлісаць згодны!

Усхапіліся са сваіх месц, подпісы пад граматай паставілі. Узяў мужык грамату і кажа:

– А калі чум ды грамату аб гэтым падпісалі, дык плаці доўг, царская вялікасць!

Тут толькі цар здагадаўся:

– Ашукаў мяне мужык-лапцюжнік!

Ды нічога не зробіш: што напісана пяром – таго не высечаш тапаром. Давялося насыпаць куфэрак золата. Мужык грошыкі ўзяў і пачаў жыць-пажываць. І дагэтуль жыве ды пасміхаецца.

## СЯМІГАДОВАЯ ДАЧКА

Ехалі два браты: адзін бедны, другі багаты. У абодвух па каню – у беднага кабылка, у багатага конь. Спыніліся яны на начлег разам. У беднага кабылка прывяла ўночы жарабятка; жарабятка падкацілася пад воз багатага. Будзіць ён раніцай беднага:

– Уставай, брат! У мяне воз уночы ажарабіўся.

Брат устае і кажа:

– Як гэта можа быць, каб воз ажарабіўся? Гэта мая кабылка жарабя прывяла.

Багаты кажа:

– Каб твая кабылка прывяла, жарабя каля яе было б!

Паспрачаліся яны і пайшлі да начальства. Багаты адорваў суддзяў грашамі, а бедны на словах апраўдваўся.

Дайшла справа да самога цара. Загадаў ён паклікаць абодвух братоў і задаў ім чатыры загадкі:

– Што на свеце дужэй і хутчэй за ўсё? Што на свеце тлусцей за ўсё? Што мякчэй за ўсё? І што мілей за ўсё?

І даў ім часу тры дні.

– На чацвёрты прыходзьце, адказ дайце!

Багаты падумаў-падумаў, успомніў пра сваю куму і пайшоў да яе парады прасіць.

Яна пасадзіла яго за стол, пачала частаваць, а сама пытаецца:

– Што такі засмучаны, кумок?

– Ды задаў мне цар чатыры загадкі, а масу ўсяго тры дні даў.

– Якія-такія загадкі, скажы мне.

– А вось якія, кума! Першая загадка: што на свеце дужэй і хутчэй за ўсё?

– Ну і загадка! У майго мужа карая кабыла ёсць; няма за яе нічога хутчэйшага! Калі ёй пугі дасі, зайца дагоніць.

– Другая загадка: што на свеце тлусцей за ўсё?

– У нас другі год рабому вепруку кормнаму; такі тлусты стаў, што на ногі не падымаецца!

– Трэцяя загадка: што на свеце мякчэй за ўсё?

– Вядомая рэч – пярына, мякчэйшага нічога няма!

– Чацвёртая загадка: што на свеце мілей за ўсё?

– Мілейшы за ўсё ўнучак Іванка!

– Ну, дзякуй табе, кума! Навучыла розуму, век цябе не забуду.

А бедны брат заліўся горкімі слязьмі і пайшоў дадому. Сустракае яго дачка сямігадовая:

– Чаго ты, бацюхна, уздыхаеш ды слёзы раняеш?

– Як жа мне не ўздыхаць, як слёз не раняць? Задаў мне цар чатыры загадкі, якіх мне ніколі не адгадаць.

– Скажы мне, якія загадкі.

– А вось якія, дачка: шго на свеце дужэй і хутчэй за ўсё, што тлусцей за ўсё, што мякчэй за ўсё і што мілей за ўсё?

– Ідзі, бацюхна, і скажы цару: дужэйшы і хутчэйшы за ўсё вецер, тлусцейшая за ўсё зямля: што ні расце, што ні жыве, зямля корміць! Мякчэйшая за ўсё рука: на што чалавек ні ляжа, а ўсё руку пад галаву кладзе; а мілейшага за сон няма нічога на свеце!

Прыйшлі да цара абодва брата – і багаты і бедны. Выслухаў іх цар і пытаецца ў беднага:

– Сам ты даўмеўся ці хто цябе навучыў?

Адказвае бедны:

– Ваша царская вялікасць! Ёсць у мяне дачка сямігадовая, яна мяне навучыла.

– Калі дачка твая такая мудрая, дык вось ёй нітачка шаўковая; няхай да раніцы вытча мне ручнік узорысты.

Мужык узяў шаўковую нітачку, прыходзіць дадому зажураны, засмучаны.

– Бяда наша! – кажа дачцэ.– Цар загадаў з гэтай нітачкі выткаць ручнік.

– Не журыся, бацюхна!–адказала дачка сямігадовая, адламала дубчык ад веніка, падае бацьку і наказвае: – Ідзі да цара, скажы, каб знайшоў такога майстра, які б зрабіў з гэтага дубчыка кроены: каб было на чым ручнік ткаць!

Мужык далажыў пра тое цару. Цар дае яму паўтары сотні яек.

– Аддай,– кажа,– сваёй дачцэ; няхай да заўтра выведзе мне паўтары сотні куранят.

Вярнуўся мужык дадому яшчэ больш зажураны, яшчэ больш засмучаны:

– Ах, дачка! З адной бяды выкруцішся – другая прычэпіцца!

– Не журыся, бацюхна! – адказвае дачка сямігадовая.

Папякла яйкі і прыхавала на абед ды на вячэру, а бацьку пасылае да цара:

– Скажы яму, што куранятам на корм трэба аднадзённае проса: каб за адзін дзень было поле ўзарана, проса пасеяна, зжата і абмалочана. Інакшага проса нашы кураняты і дзяўбці не будуць.

Цар выслухаў і кажа:

– Калі дачка твая такая мудрая, няхай заўтра ранічкай сама да мяне з'явіцца – ні пеша, ні на кані, ні голая, ні адзетая, ні з гасцінцам, ні без падаруначка.

«Ну,– думае мужык,– такой хітрай задачы і дачка не рашыць; давядзецца зусім прападаць!»

– Не журыся, бацюхна! – сказала яму дачка сямігадовая.– Схадзі ты да паляўнічых ды купі мне жывога зайца ды жывую перапёлку.

Бацька пайшоў і купіў ёй зайца і перапёлку.

Назаўтра раніцай скінула сямігадовая дачка ўсё адзенне, надзела на сябе сетку, у рукі ўзяла перапёлку, села вярхом на зайца і паехала ў палац.

Цар яе каля варотаў сустракае. Пакланілася яна цару.

– Вось табе, гасудар, падаруначак! –і падае яму перапёлку.

Цар працягнуў быў руку, перапёлка пырх – і паляцела ў поле!

– Добра,– кажа цар,– як загадаў, так і зроблена. Скажы мне цяпер: твой жа бацька бедны, чым вы корміцеся?

– Бацька мой на сухім беразе рыбу ловіць, нератоў у ваду не ставіць, а я ў прыполе рыбу нашу ды юшку вару.

– Што ты, дурная, калі гэта рыба на сухім беразе жыве? Рыба ў вадзе плавае.

– А ты разумны? Хто гэта калі бачыў, каб воз ажарабіўся?

Цар прысудзіў аддаць жарабя беднаму мужыку, а дачку яго сямігадовую ўзяў да сябе. Калі дзяўчына вырасла, ён ажаніўся з ёю, і стала яна царыцаю.

## РАЗУМНЫ ПАРАБАК

У аднаго беднага старога чалавека было тры сыны.

Пасылае бацька старэйшага:

– Пайдзі найміся ў парабкі, хоць што-небудзь заробіш.

Пайшоў старэйшы сын у другую воласць, а насустрач яму поп:

– Найміся, голубе, да мяне, толькі, цур, умова такая: калі хоць на дзень раней дамоўленага часу пойдзеш ад мяне – не бачыць табе твайго заробку, ні капейкі не дам.

Хлопец не пярэчыў і наняўся да папа на год.

Будзіць поп парабка да сонейка, працаваць прымушае дацямна, а корміць адзін раз у дзень і то не ўволю.

Ад голаду ды ад цяжкай работы хлопец зусім схуднеў – ледзьве ногі валачэ.

– Калі да дамоўленага часу служыць – жывому не быць, зусім

змарнею.

Махнуў рукою на заробак і з пустымі рукамі вярнуўся дадому.

А папу толькі гэта і трэба, каб

парабак раней часу сышоў. Усе цяжкія работы пароблены, і грошы цэлыя.

На другі год пайшоў сярэдні брат у парабкі наймацца. І гэткім жа манерам, як і старэйшы брат, паўгода ў папа пакутаваў і таксама без капейкі, ледзь жывы дадому прыплёўся.

На трэці год падышла чарга малодшаму ў людзі ісці.

Пайшоў ён проста да таго папа, дзе старэйшыя браты гаравалі.

– Вось і добра,– зарадаваўся поп,– як раз я парабка шукаю. Наймайся, платай не пакрыўджу, а ўмова такая: да дамоўленага часу пражывеш – атрымлівай усё поўнасцю, як згоджана; калі раней дамоўленага часу пойдзеш – наракай на сябе, капейкі не заплачу.

– Добра,– кажа хлопец.

І ўдарылі па руках.

Назаўтра раніцай – яшчэ і на дзень не займалася – будзіць поп парабка:

– Уставай, хутчэй запрагай, паедзем па сена на далёкую сенажаць.

Пакуль парабак коней запрагаў, поп паспеў добра паснедаць, а парабку пападдзя дала ўсяго дзве ўчарашнія бульбіны.

– Паснедаеш у дарозе – бачыш, бацюшка спяшаецца, злуецца...

Паехалі. Толькі мінулі весніцы, саскочыў хлопец з саней і закрычаў:

– Пачакай, бацюшка! Я вужышчы забыўся, зараз збегаю.

Поп каня прытрымаў, лаецца.

А парабак прыбег, пастукаўся:

– Ох, матушка, бацюшка загадаў прынесці каравай: белага хлеба ды тры пірагі з рыбаю.

Пападдзя харчы загарнула, падала.

Хлопец прыхапіў у сенцах вужышчы, вярнуўся.

– Руш, бацюшка, вужышчы прынёс.

– Добра, хоць недалёка ад'ехаліся,– бурчыць поп.

Пакуль да месца дабраліся, сена накладвалі ды ўвязвалі – часу прайшло шмат.

Толькі пад вечар рушылі ў дарогу назад.

Поп з пярэдняга воза гукае:

– Дарога роўная, сані ў бакі не ганяе, я падрамлю! А ты, хлопча, глядзі, як даедзем да развілкі, трэба леваруч кіраваць!

Пасля гэтага закруціўся з галавою ў цёплы дарожны кажух і ўлёгся спаць на возе.

Парабак пірагоў наеўся ды белага хлеба, ляжыць на сваім возе. Даехалі да развілкі, і накіраваў хлопец коней не ўлева, як поп наказваў, а ўправа. Залез зноў на воз, пасміхаецца: «Правучу доўгавалосага, будзе помніць мяне».

Вёрст пятнаццаць яшчэ праехалі. Тут поп прачнуўся, глянуў па баках – бачыць, едуць не туды, куды трэба, пачаў лаяцца:

– Ох, каб ты спрах! Казаў жа – кіруйся ўлева. І аб чым толькі ты думаў, куды глядзеў?

– Як гэта–куды глядзеў? Ды ты ж сам і крычаў: «Трымайся правай рукі!»

«Відаць, я абмовіўся»,– падумаў поп і кажа:

– Ну, нічога не зробіш, трэба кружной дарогай ехаць. Тут вёрст праз дзесяць вёска будзе, давядзецца пераначаваць. Час позні, ды і есці страшэнна хочацца, проста не выцерпець.

– А ты, бацюшка, сянца пакаштуй,– парабак кажа,– я от дык нешто сабе падсілкаваўся, есці зусім не хочацца.

Поп наскуб мякчэйшай травы, пажаваў, пажаваў, выплюнуў:

– Не, не для мяне гэты харч.

Праехалі яшчэ з гадзіну ці дзве – паказалася воска.

Звярнулі да самай багатай хаты, да крамніка.

– Ідзі,– кажа поп,– прасіся начаваць, у мяне ад голаду рукі-ногі калоцяцца.

Парабак пастукаўся:

– Людзі добрыя, пусціце пераначаваць!

Выйшаў гаспадар:

– Заязджай, заязджай, начлегу з сабою не возяць.

– Ды я не адзін,– шэптам кажа хлопец,– са мною бацюшка нездаровы – як не пры сваім розуме. Так ён спакойны, ціхі, а як пачуе, што два разы адно і тое ж кажуць, нібы люты звер робіцца, на людзей кідаецца.

– Добра,– гаспадар адказвае,– буду ведаць і сваім скажу.

Парабак коней распрог, даў ім корму і памог папу злезці з воза.

Зайшлі ў хату. Гаспадары з апаскай паглядваюць на папа, маўчаць.

Надышла пара вячэраць, накрылі на стол.

Гаспадыня запрасіла:

– Сядайце, госці, з намі. Чым багаты, тым і рады.

Парабак адразу за стол, а поп чакае, калі яшчэ раз папросяць.

Гаспадары другі раз не завуць, не асмельваюцца.

Пачалі вячэраць. Сядзіць поп збоку, злуецца сам на сябе:

«Трэба было адразу за стол садзіцца».

Так і прасядзеў усю вячэру, нічога не паспытаўшы.

Гаспадыня прыбрала са стала, паслала папу з парабкам: пасцель.

Хлопец толькі галаву на падушку апусціў, адразу моцна заснуў.

І гаспадары заснулі.

А галоднага папа сон не бярэ.

Раскатурхаў, пабудзіў парабка:

– Ой, есці хачу, не вытрываю.

– А чаму вячэраць не захацеў?

– Думаў, яшчэ папросяць.

– Прыкмеціў я,– шэпча парабак,– каля печы на паліцы гаршчок з кашай, ідзі паеш.

Поп усхапіўся і праз хвіліну зноў будзіць парабка:

– Гаршчок з кашай знайшоў, а лыжкі няма.

Раззлаваўся хлопец:

– Ну дзе я табе лыжку вазьму! Закасай рукавы і еш рукою.

Поп ад прагнасці сунуў у гаршчок абедзве рукі, а ў гаршку быў гарачы вар.

– Ох, не вытрываць, у рукі пячэ і выцягнуць не магу!

– Гора з табою,– хлопец бурчыць.– Зірні, каля сцяны тачыла. Разбі гаршчок, і ўсё.

Поп з усяе сілы стукнуў гаршком, толькі чарапкі паляцелі. У той жа момант хтосьці залямантаваў немым голасам:

– Гвалт, забілі!

Поп рынуўся вон з хаты.

Уся сям'я перапалохалася, запалілі агонь, аж бачаць: у гаспадара ўся лысая галава заліта варам. Стогне стары.

Сыны гаспадара да парабка падступілі:

– Навошта старога знявечылі?

– Хто каго знявечыў? І знаць не знаю, і ведаць не ведаю. А вось куды вы хворага папа падзелі?

Гаспадары – туды-сюды: і ў сенцы і на вышкі. Усё абшукалі – нідзе няма папа.

– Вось бачыце,– парабак кажа,– гаспадар ужо ачухаўся, а папа няма. Людзі вы не бедныя, адпусціце тавару з крамы на сотню рублёў –замнём справу, а не, дык у воласць паеду, давядзецца вам адказваць.

Гаспадары памуляліся, памуляліся, далі тавару на сто рублёў.

Хлопец падарункі прыхапіў, коней запрог і паехаў дадому.

Вярсту ад вёскі ад'ехаў, зірк – са стога саломы поп вылазіць:

– Баяўся, што гаспадары цябе не выпусцяць.

– Гаспадара ж не я, а ты забіў,– парабак адказвае,– табе і ў

астрозе сядзець. Хто мяне трымаць будзе?

– Дык хіба насмерць?

– А ты як думаў? Зараз па ўрадніка паедуць.

Поп ажно рукамі пляснуў, калоціцца ўвесь:

– Ох, гора горкае! Няўжо нельга як-небудзь уладзіць?

– Уладзіць можна,– парабак кажа,– я ўжо гаварыў з гаспадарамі: маўляў, усё роўна старога ніяк не ажывіш.

– Ну і што?

– Ды вядома што: дорага просяць.

– Я нічога не пашкадую, усё аддам, абы толькі замяць справу!

– Просяць пару коней ды трыста рублёў грошай. Ну, і мне за турботы хоць сотню трэба.

«Дзякуй богу,– думае поп,– нічога не шкада, толькі б выкараскацца».

Адваліў парабку чатыры сотні, аддаў коней.

– Бяжы хутчэй, пакуль не перадумалі!

Парабак завёў коней у гумно, прывязаў, памарудзіў там трохі, вярнуўся да папа.

– Ідзі дадому, нічога не бойся, усё ўладжана. Прыпусціў поп наўцёкі, ад радасці ног не чуе.

А хлопец прывёў бацьку пару коней, аддаў грошы.

І за сябе і за братоў з папом разлічыўся.

## КЕМЛІВЫ МУЖЫК

У адной вёсцы жылі-былі два мужыкі: адзін багаты, а другі бедны.

У багатага мужыка ўсяго ўдосталь, а ў беднага – дзяцей многа, а ўсяго дабра адна гусь.

І дайшло да таго, што няма чым бедняку дзяцей карміць. Што тут будзеш рабіць?

Думаў-думаў бядняк, чым дзяцей накарміць, і надумаў:

– Смаж, жонка, гусь!

Засмажыла жонка гусь, падала на стол, а хлеба няма ні крошкі.

Кажа мужык:

– Ну як будзем без хлеба есці, хіба надоўга нам гэтай гусі хопіць? Лепш занясу яе пану, хлеба ў яго папрашу.

– Ідзі, муж дарагі, ідзі,– кажа жонка,– можа, хоць паўмяшка мукі дасць.

Прыйшоў мужык да пана:

– Прынёс табе гуску, не пагрэбуй узяць, а мне хоць крыху мукі дай – няма чым дзяцей карміць.

– Ну добра,– пан кажа.

– Здолееў ты гусь падарыць, здолей яе падзяліць паміж намі, каб нікому крыўды не было. Падзеліш без крыўды – дам мукі, а не зможаш–загадаю бізуноў даць.

А сям'я ў таго пана: сам з жонкаю, два сыны ды дзве дачкі – усіх шасцёра.

Папрасіў мужык нож і пачаў гусь дзяліць. Спачатку адрэзаў галаву, падае пану:

– Ты ўсяму дому галава–дык вось табе гусіная галава.

Адрэзаў гузку, пані падае:

– Табе дома сядзець, дом глядзець – вось табе гузка.

Адрэзаў лапкі, падае сынам:

– Вось вам па ножцы – таптаць бацькавы дарожкі.

А дочкам па крыльцу даў:

– Вам з бацькам ды з маці не век жыць – вырасцеце, паляціце прэч, сваё гняздо віць.

Астатняе сабе ўзяў:

– А я дурны мужык, ягамосці,– давядзецца мне грызці астатнія косці.

Засмяяўся пан:

– Добра, мужык, гусь падзяліў і сябе не пакрыўдзіў!

Паднёс чарачку вінца і загадаў даць два мяхі мукі

беднаму мужыку.

Дачуўся пра гэта багаты мужык, пазайздросціў бедняку. Засмажыў пяць тлустых гусей, прынёс пану, сам кланяецца:

– Не пагрэбуйце, яснавяльможны пане, прыняць на паклон ад мяне пяць кормных гусей!

– Дзякуй, браце, дзякуй! Здолееў ты гусей падарыць, здолей свой падарунак паміж намі падзяліць, каб нікому крыўды не было. Калі падзеліш без крыўды – узнагароджу, а не здолееш падзяліць – загадаю на стайні бізуноў даць.

Стаіць багаты мужык, прыкідвае і так і гэтак – ніяк не можа пяць гусей паміж шасцю чалавекамі падзяліць.

Паклікаў пан бедняка:

– Ці можаш пяць гусей паміж намі без крыўды падзяліць?

– А чаму не падзяліць! – адказвае бедны мужык.

Падае адну гусь пану і пані:

– Вас двое – і вось вам гусь. Цяпер вас стала трое.

Другую гусь двум сынам падаў:

– І вас цяпер трое стала.

Трэцюю падае дочкам:

– І вас стала трое.

Дзве астатнія гусі сабе ўзяў:

– І нас стала трое.

Пан засмяяўся:

– Ну малайчына, мужык! Ведаў, як трэба падзяліць, і пра сябе не забыўся!

Паднёс яму чарачку вінца, загадаў даць воз мукі, а багатага мужыка на стайню паслаў, загадаў бізуноў усыпаць.

## МУДРЫЯ АДКАЗЫ

Служыў салдат у палку дваццаць пяць гадоў, а цара ў вочы не бачыў. Вярнуўся дадому. Сталі яго распытваць пра цара, а ён не ведае, што і сказаць. Вось і пачалі яго папікаць родзічы і знаёмыя.

– Эх ты,– кажуць,– дваццаць пяць гадоў праслужыў, а цара ў вочы не бачыў!

Крыўдна гэта яму здалося: сабраўся і пайшоў цара глядзець.

Прыйшоў у палац. Цар пытае:

– Што скажаш, салдат?

– Так і так, ваша царская вялікасць! Служыў я табе ажно дваццаць пяць гадоў, а цябе ў вочы ніколі не бачыў: прыйшоў паглядзець.

– Ну глядзі!

Салдат тры разы абышоў вакол цара, усё аглядваў.

Цар пытаецца:

– Ну як, нішто сабе я?

– Нішто,– адказвае салдат.

– Ну, цяпер, служывы, скажы: ці высока неба ад зямлі?

– Гэтак высока, што там грукне, а тут чуваць.

– А ці шырокая зямля?

– Ву-унь там сонца ўсходзіць, а там заходзіць такая шырокаяI

– А ці глыбокая зямля?

– Ды быў у мяне дзед, памёр гадоў дзевяноста таму назад, закапалі ў зямлю, з таго часу і дамоў не прыходзіў: пэўна, глыбокая!

Цар адаслаў салдата ў турму і наказаў яму:

– Не дай маху, служба! Я пашлю да цябе трыццаць гусакоў: здолей па пяру выскубці.

– Добра!

Паклікаў цар трыццаць багатых купцоў і задаў ім тыя ж загадкі, што і салдату задаваў. Яны думалі-думалі, не маглі адказу даць, і загадаў іх цар пасадзіць у турму.

Пытаецца ў іх салдат:

– Купцы-малайцы, вас за што пасадзілі?

– Ды, бачыш, цар-гасудар у нас дапытваецца, ці далёка неба ад зямлі, і наколькі зямля шырокая, і наколькі яна глыбокая, а мы –

людзі цёмныя, не адказалі.

– Дайце мне кожны па тысячы рублёў, я вам праўду скажу.

– Калі ласка, браце, толькі навучы.

Узяў з іх салдат па тысячы і навучыў, як адгадваць царскія загадкі. Дні праз два паклікаў цар да сябе і купцоў і салдата. Задаў купцам тыя ж самыя загадкі і, як толькі яны адгадалі, адпусціў іх па сваіх дамах.

– Ну, служба! Здолеў па пяру выскубнуць?

– Здолеў, цар-гасудар, ды яшчэ наваг па залатым!

– А ці далёка табе дадому?

– Адсюль не відаць – далёка, значыцца!

– Вось табе тысяча рублёў, ідзі шчаслiва.

Вярнуўся салдат дадому і зажыў прывольна, багата.

## ПОП І БАТРАК

Спатрэбіўся аднаму папу батрак. Але паколькі поп быў вельмі скупы і ўсё шукаў, каб хто-небудзь да яго пайшоў як мага за меншую плату, дык ніхто да яго не наймаўся.

Вось аднойчы прыходзіць да яго мужык-жартаўнік і просіць сена для каня.

А поп яму кажа:

– Ты гэткі здаровы, малады, а ходзіш жабрэуеш. Наймайся лепш, голубе, да мяне ў парабкі.

– Можна. А колькі дасі?

– Буду плаціць гледзячы па тваёй рабоце.

І сказаў мужыку цану. А паколькі тады быў якраз сенакос, дык поп накарміў яго і павёў на луг паказваць сваю сенажаць. Парабак агледзеў усё, а як поп пайшоў, лёг на траву і праспаў увесь дзень да вечара.

Кожны дзень мужык-жартаўнік хадзіў на сенажаць, і поп заўсёды даваў яму з сабою хлеба і сала. І вось аднойчы батрак кажа:

– Больш я ў цябе працаваць не буду, давай мне разлік. Траву я ў цябе ўсю скасіў да апошняй травінкі.

Даў яму поп усяго некалькі капеек. Парабак застаўся незадаволены і кажа:

– Дай яшчэ хоць кусок сала.

Але поп наадрэз адмовіўся:

– Я і так табе пераплаціў, даў больш, чым абяцаў.

– Ну, калі ты мне не дасі сала,– сказаў парабак,– дык няхай уся твая траўка назад устане як някошаная!

І паехаў. А поп пайшоў на луг, паглядзеў і здзівіўся:

«Гэта не звычайны батрак, а вядзьмак: і праўда, стаіць трава як някошаная».

## ЦАРКОЎНАЯ СЛУЖБА

Кажа поп у царкве дыякану:

– Дыякан, дыякан, паглядзі ў акенца, ці не ідзе хто, ці не нясе чаго?

– Баба ідзе, збанок масла нясе!– адказвае дыякан.

А дзячок спявае:

– Падай, госпадзі!

Поп зноў:

– Дыякан, дыякан, паглядзі ў акенца, ці не ідзе хто, ці не нясе чаго?

– Баба ідзе, мех жыта нясе! – адказвае дыякан.

Дзячок зноў спявае:

– Падай, госпадзі!

Поп зноў кажа:

– Дыякан, дыякан, паглядзі ў акенца, ці не ідзе хто, ці не нясе чаго?

– Ідзе мужык, нясе дубіну на папоўскую спіну!–адказвае дыякан.

Тут поп і дзячок як заспяваюць:

– Табе, госпадзі!

## ПАН-КАВАЛЬ

Пазайздросціў адзін пан кавалю: «Жывеш-жывеш, яшчэ калі той ураджай будзе і грошай дачакаешся, а каваль малатком стук-грук – і з грашамі. Давай кузню завяду!»

Абзавёўся пан кузняй, загадаў лёкаю мяхі раздзімаць. Стаіць, чакае заказчыкаў. Едзе міма мужык, шыны заказаць хоча на ўсе чатыры колы.

– Гэй, стой! Заязджай сюды! – гукнуў пан.

Мужык пад'ехаў.

– Што табе?

– Ды вось, пане, шыны трэба на ўсе колы.

– Добра, зараз, пачакай!

– А колькі будзе каштаваць?

– Паўтараста рублёў трэба было б узяць, ну ды каб народ прывабіць, вазьму ўсяго сто.

– Згода.

Пачаў пан агонь распальваць, лёкай – мяхі раздзімаць.

Узяў пан жалеза, давай яго каваць, а каваць жа не ўмее – каваў, каваў, ды і перапаліў жалеза.

– Ну,– кажа,– мужычок, не выйдзе табе не тое што на ўсе калёсы, а не хопіць нават на перадок, толькі выкую адзін шынок[1].

– Адзін дык адзін,– згадзіўся мужык.

Каваў, каваў пан і кажа:

– Не выйдзе, мужычок, і адзін шынок, а можа, выйдзе, мо не выйдзе сашнічок.

– Ну добра, хоць сашнічок,– адказвае мужык. Пастукаў, пагрукаў пан малатком, яшчэ жалеза сапсаваў шмат і кажа:

– Ну, мужычок, не выйдзе і сашнічок, а можа, выйдзе, мо не выйдзе цвічок.

– Ну хоць цвічок!

Ды ў пана і на яго жалеза не хапіла: усё перапаліў.

– Ну, мужычок,– кажа пан,– не выйдзе і цвічок! Выйшаў у пана адзін «пшык»: сунуў ён у ваду кавалачак распаленага жалеза, што засталося, яно і зашыпела– «пшык!».

[1] Шынок – тут: шына, жалезны абруч на кола.

## БАЛБАТЛІВАЯ БАБА

Жылі-былі муж з жонкаю. Жонка была страшэнна балбатлівая: не ўмела, калі трэба, язык за зубамі трымаць. Што толькі не пачуе, тут жа ўся вёска ведае.

Пайшоў аднаго разу мужык у лес, Пачаў воўчую яму капаць і знайшоў скарб. Знайшоў, а сам думае: «Ну, што цяпер рабіць? Як толькі жонка пра багацце дазнаецца, адразу пойдзе па ўсім наваколлі пагалоска, дойдуць чуткі да нашага пана, і бывайце, грошыкі: усе адбярэ».

Думаў-думаў і прыдумаў. Скарб закапаў, месца прыкмеціў і пайшоў дадому. Дайшоў да ракі, агледзеў сетку, а ў сетцы б'ецца шчупак. Мужык шчупака дастаў і далей пайшоў. Агледзеў па дарозе пастку, што на зайца была пастаўлена, а ў пастку заяц трапіў.

Мужык зайца дастаў, у пастку шчупака сунуў. А зайца занёс ды ў сетку ўблытаў.

Прыйшоў увечары дадому:

– Ну, Таццяна, палі ў печы ды напячы блінцоў як мага болей.

– А чаго гэта? Навошта, на ноч гледзячы, у печы паліць? І хто ўвечары блінцы пячэ? От яшчэ выдумаў!

– Не спрачайся, а рабі, што сказана. Ведаеш, Таня, я скарб знайшоў, трэба ўночы грошы дадому перанесці.

Жонка рада-рада. Хуценька ў печы запаліла, узялася блінцы пячы.

– Еш, любенькі, пакуль гарачыя.

Муж блінец з'есць, а два ці тры ў кайстру, блінец з'есць, а два ці тры ў кайстру – неўпрыкмет ад жонкі.

– Што гэта ты сёння так раз'еўся? Блінцоў на цябе не набярэшся…

– Дык жа дарога не блізкая, ды і грошай многа, трэба добра павячэраць.

Наладаваў мужык кайстру блінцамі і кажа:

– Ну, я сыты, еш сама, ды пойдзем, трэба спяшацца.

Жонка наспех павячэрала, і пайшлі.

Ідуць яны начным часам, мужык выперадзіў жонку і пачаў з кайстры блінцы даставаць ды на сукі вешаць.

А жонка ўбачыла на дрэвах блінцы:

– Вой, зірні, зірні, на суках блінцы!

– А што тут дзіўнага? Хіба ты не бачыла, як блінцовая хмара наперадзе нас прайшла?

– Не, не бачыла, я ўсё пад ногі глядзела, каб не спатыкнуцца.

– Зойдзем хіба,– мужык кажа,– тут у мяне пастка на зайца пастаўлена, паглядзім.

Падышлі да пасткі, выняў мужык шчупака.

– Вой, любенькі, як гэта рыбіна ў заечую пастку трапіла?

– А ты што, не ведаеш – ёсць такія шчупакі: і па зямлі ходзяць.

– А я і не ведала. Каб сваімі вачамі не бачыла, нікому б не паверыла.

Прыйшлі да ракі.

Жонка кажа:

– Недзе тут твая сетка пастаўлена, давай паглядзім.

Выцягнулі сетку, а ў ёй заяц.

Жонка рукамі пляснула:

– Вой, бацюхны! Што гэта сёння робіцца? У сетцы ж
заяц!

– Ну, чаго ты квохчаш, быццам ніколі не бачыла надзяных зайцаў.

– Дык жа і не бачыла.

Тым часам дайшлі да месца. Мужык выкапаў кацёл, пагроб грошай як панесці, і рушылі дадому.

Дарога ішла паўз гіанскі двор. Толькі яны параўняліся з дваром, як чуюць: «Мэ-ээ-ээ… мэ-ээ-ээ…» – авечкі бляюць.

– Вой, як страшна, хто гэта? – баба шэпча.

А мужык ёй:

– Бяжы хутчэй, гэта нашага пана чэрці душаць. Хаця *б* яны

нас не прыкмецілі!

Прыбеглі дадому, ледзьве аддыхаліся.

Схаваў мужык скарб, пачалі спаць лажыцца.

– Глядзі ж, Таццяна, нікому не кажы пра скарб, а то кепска будзе.

– Вой, што ты, ды хіба я скажу!

Назаўтра ўсталі позна.

Запаліла баба ў печы, схапіла вёдры, пайшла па ваду.

Каля студыі суседкі пытаюцца:

Што гэта ты сёння, Таццяна, так позна ў печы запаліла?

– Вой, не кажыце, ноч жа прахадзіла, от і праспала.

– Дык куды ж ты ўночы хадзіла?

– А муж мой скарб жа знайшоў, і ўночы мы па грошы хадзілі.

У той жа дзень па ўсёй вёсцы толькі і гаворкі: «Таццяна з мужам скарб знайшлі, дзве кайстры грошай прынеслі».

Пад вечар дайшла чутка да пана. Загадаў пан мужыку прыйсці:

– Як ты пасмеў ад мяне ўтаіць, што скарб знайшоў?

– Знаць не знаю і ведаць не ведаю ні пра які скарб,– адказвае мужык.

– Не аднеквайся! – крычыць пан.– Мне ўсё вядома, бо твая ж баба і расказала пра скарб.

– Дык жа ў яе не ўсе дома! Яна такога нагаворыць, чаго і век не было.

– А вось пабачым!

І загадаў пан паклікаць Таццяну.

– Знайшоў твой муж скарб?

– Знайшоў, пане, знайшоў.

– Хадзілі з ім уночы па грошы?

– Хадзілі, хадзілі.

– Расказвай усё, як было.

– Спачатку ішлі ўсё лесам, а на суках навокал блінцы.

– Якія такія блінцы ў лесе?

– Ды з блінцовай жа хмары! Потым агледзелі заечую пастку, а там шчупак. Шчупака вынялі і далей пайшлі. Дайшлі да ракі, выцягнулі сетку, а ў сетцы – заяц. Ну, і зайца вынялі. Недалёка ад ракі муж скарб выкапаў. Нагрэблі грошай па кайстры і назад пайшлі. І якраз у той час паўз панскі двор праходзілі, як цябе, ягамосцю, чэрці душылі.

Тут пан не вытрымаў, нагамі затупаў:

– Вон адсюль, дурная баба!

– Ну вось,– мужык кажа,– бачыце, што маёй бабе верыць ні ў чым нельга.

– Веру, веру табе, ідзі дадому,– махнуў рукою пан. Пайшоў

мужык дадому, пачаў жыць-пажываць і дагэтуль жыве ды з пана пасмейваецца.

## КАША З СЯКЕРЫ

Ішоў салдат на пабыўку. Прытаміўся ў дарозе, есці хочацца. Дайшоў да вёскі, пастукаўся ў крайнюю хату.

– Пусціце адпачыць падарожнага чалавека.

Дзверы адчыніла старая бабка:

– Заходзь, служывы.

– А ці няма ў цябе, гаспадынька, перакусіць чаго?

У бабкі ўсяго ўдосталь, а салдата накарміць пашкадавала, скупая была, прыкінулася бедненькай.

– Ох, добры чалавек, і сама сёння яшчэ нічога не ела: няма чаго.

– Ну, няма дык няма,– кажа салдат.

Тут ён прыкмеціў пад лаўкай сякеру без тапарышча.

– Калі няма нічога іншага, можна і з сякеры кашу зварыць.

Гаспадыня ажно рукамі пляснула:

– Як гэта з сякеры кашу?

– А вось так. Давай сюды чыгун.

Прынесла старая чыгун. Салдат сякеру вымыў, апусціў у чыгун, наліў вады і паставіў на агонь.

Бабка на салдата глядзіць, вачэй не зводзіць.

Дастаў салдат лыжку, памешвае варыва. Паспытаў.

– Ну, як? – пытаецца бабка.

– Хутка будзе гатова,– адказвае салдат,– шкада, што вось солі няма.

– Соль якраз у мяне ёсць, пасалі.

Салдат пасаліў, зноў пакаштаваў:

– Каб сюды ды жменьку круп.

Бабка прынесла з каморы торбачку круп.

– На, усып колькі трэба.

Варыў-варыў салдат, памешваў, потым паспытаў. Глядзіць бабка, адарвацца не можа.

– Ох і каша, цуд, а не каша,– хваліць салдат,– каб сюды ды трошкі масла – проста аб'ядзенне было б!

Знайшлося ў бабкі і масла.

Падмаслілі кашу.

– Бяры лыжку, гаспадынька.

Узяліся кашу есці ды нахвальваць.

– Вось ужо ніколі не думала, што з сякеры гэтакую добрую кашу можна зварыць,– дзівіцца бабка.

А салдат есць ды пасмейваецца.

## ЗАЯЦ

Бедны мужык ішоў па чыстым полі, убачыў пад кустом зайца, зарадаваўся і кажа:

– Вось калі зажыву сваім домам! Вазьму гэтага зайца, заб'ю бізуном ды прадам за чатыры алтыны. На тыя грошы куплю свінку. Яна прывядзе мне дванаццаць парасят. Парасяткі вырастуць, прывядуць яшчэ па дванаццаць. Я ўсіх закалю, свіран мяса насалю. Мяса прадам, а на тыя грошыкі дом куплю ды сам ажанюся. Жонка народзіць мне двух сыноў: Ваську ды Ваньку. Дзеткі будуць поле араць, а я каля акна стаяць ды парадкі наводзіць. «Гэй вы, дзеткі,– гукну,– Васька ды Ванька! Надта людзей на рабоце не падганяйце, відаць, самі бедна ніколі не жылі!» Ды так моцна крыкнуў мужык, што заяц спалохаўся і ўцёк. Так вось дом з усім багаццем, з жонкай і з дзецьмі прапаў.

## ЗА ДУРНОЙ ГАЛАВОЙ НАГАМ НЕСПАКОЙ

Запаліла баба ў печы і дыму ў хату напусціла – не прадыхнуць. «Трэба папрасіць у суседзяў рэшата – дым з хаты вынесці»,– падумала баба і пайшла да суседзяў, а дзверы за сабою не зачыніла.

Прыйшла да суседзяў. А тыя кажуць:

– Няма ў нас рэшата. Дагадаісе пазычылі.

Падалася баба к Дагадаісе ў канец сяла, узяла ў яе рэшата і пайшла дадому.

Увайшла ў хату, а дыму ў ёй як і не было.

Сцяміла тут баба, што, пакуль яна ногі біла, па рэшата хадзіла, дым праз дзверы выйшаў, папракнула сама сябе: «За дурной галавой – нагам неспакой!»

## РАЗМОВА

Сустрэліся пад вечар два прыяцелі. Адзін у другога і пытаецца:

– Што сёння рабіў?

– Рукавіцы шукаў.

– Знайшоў?

– Знайшоў.

– Дзе ж яны былі?
– Ды за поясам. А ты куды крочыш?
– За сем вёрст.
– Кісялю пасёрбаць?
– Не, камара шукаць.
– Гэта якога ж камара?
– Ды таго, што за нос укусіць мяне хоча.
– Дык ён жа з табою!
– Дзе гэта са мною?
– Ды на носе ў цябе!

## ДОБРА, ДЫ КЕПСКА

Сустрэліся на дарозе пан і мужык.
– Мужык, адкуль ты?
– Здалёку, пане!
– А адкуль?
– З горада Растова, а пана Талстова.
– А ці вялікі горад?
– Не мераў.
– А магутны?
– Не дужаўся.
– Што ж там пачым?
– Людзі па хатах сядзяць, коні па стайнях стаяць.
– А чаго ездзіў?
– Па пакупку дарагую: па мерку гароху.
– От гэта добра!
– Добра, ды не надта!
– А чаму ж?
– Ехаў ды рассыпаў.
– От гэта кепска!
– Кепска, ды не надта!
– А чаму ж?
– Рассыпаў мерку, а сабраў дзве!
– А от гэта добра!
– Добра, ды не надта!
– Ды чаму ж?
– Пасеяў, ды рэдкі.
– От гэта кепска!
– Кепска, ды не надта!
– А чаму ж?
– Хоць рэдкі, ды стручкаваты!
– От гэта добра!

– Добра, ды не зусім!
– А чаму ж?
– Паповы свінні панадзіліся гарох таптаць-дратаваць.
– Гэта кепска!
– Кепска, ды не надта!
– А чаму ж?
– Я свіней забіў ды дзве дзяжы свежаніны насаліў.
– От гэта добра!
– Добра, ды не надта!
– А чаму ж?
– Паповы сабакі панадзіліся свежаніну цягаць-цягаць ды ўсю і павыцягвалі.
– От гэта кепска!
– Кепска, ды не надта!
– А чаму ж?
– Я тых сабак забіў ды жонцы футра пашыў.
– От гэта добра!
– Добра, ды не надта!
– А чаму ж?
– Ішла мая жонка каля папова двара; а поп пазнаў ды футра зняў.
– От гэта кепска!
– Кепска, ды не надта!
– А чаму ж?
– Я з папом судзіўся-судзіўся, сівога каня ды рыжую карову спусціў – вось мая справа і выгарала.